# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА
ПРЫ ІНСТЫТУЦЕ
БЕЛАРУСКАЙ
КУЛЬТУРЫ



№ 6-7 (9-10) 1926 г. ЧЭРВЕНЬ-ЛІПЕНЬ



МЕНСК

# ЗЬМЕСТ.



---

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

**Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

ПРЫ

**ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ**

№ 6-7 (9-10) Чэрвень—Ліпень 1926

ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1926




Д-р З. К. Магілеўчык.

# Санітарна-гігіенічныя ўмовы хаты і двара беларускага сялянства.

## Нарыс першы.

### I.

Беларусь, больш чымся іншая рэспубліка СССР, зьяўляецца краем у пераважнай большасьці сельска-гаспадарчым. Паводле даных ЦСУ з агульнага ліку насельніцтва на 1-е студзеня 1926 г.—4.295.497 ч., вясковае насельніцтва складае 3.657.809 чал. (85,2 проц.). Аднак-жа трэба сказаць, што да гэтага часу наша вёска яшчэ не карыстаецца дабротамі гігіены. Асабліва гэта тычыцца кватэрных умоў.

Матар'ялаў па сельскім будаўніцтве Беларусі і санітарнай характарыстыцы мяшканьня ў мінулым мы не знашлі. Літаратурныя даныя (проф. Доўнар-Запольскі, Сербаў і інш.), якія належаць, галоўным чынам, да этнографіі Беларусі, не даюць здавальняючага малюнку для поўнай санітарнай характарыстыкі бытавых умоў хаты. У сваім будаўніцтве селянін консэрватыўны і эволюцыя першапачатковай формы яго хаты залежала, галоўным чынам, ад уплыву кліматычных і іншых прыродных умоў, ад культурных запатрабаваньняў, ад ранейшага палітычнага ладу і ад соцыяльна-экономічных умоў насельніцтва. Селянін, будуючы сабе хату думае, галоўным чынам, аб тым, каб захаваць у ёй у зімні час цяпло і прыстасаваць яе да сваіх гаспадарчых патрэб. Хата зьяўляецца ў селяніна толькі часткай яго вытворчасьці. Хата служыць яму ня толькі для выгод памяшканьня, але і для агульна-гаспадарчых. Усе будынкі яго двара ў цэлым зьяўляюцца вытворчай адзінкай сялянскай гаспадаркі.

У той час, калі горад, дзякуючы навуцы і тэхніцы, у пабудове дамоў пашоў далёка наперад, вёска і цяпер будуецца на стары лад.

Апошняе трохгодзьдзе зямельнай політыкі, якая выклікала перабудову вёскі, зусім мала дае новага ў справе будоўлі хат. Старыя вялікія вёскі распадаюцца на шэраг дробных, якія з санітарна-гігіенічнага погляду не адрозьніваюцца ад старых. Установы Наркамзему, якія праводзяць зямляўпарадкаваньне, ня мелі магчымасьці зрабіць уплыў на гэты бок будаўніцтва на вёсцы, з прычыны адсутнасьці сані-

тарна-тэхнічных вед будаўніцтва хат і іншых будынін двара ў мясцовых работнікаў.

Беларуская вёска наагул невялікая; вёска ў 150-200 двароў лічыцца ўжо вялікай, сярэдняя вёска—75-100 двароў. У вапошнія часы, у зьвязку з зямляўпарадкаваньнем, зьявіліся выселкі ў 5-10 двароў. Сустракаецца і хутарская сыстэма пасяленьняў, якая зьявілася на Беларусі ў часы царскага міністра Сталыпіна, а ў некаторых акругах выхад на хутары існуе і цяпер. Пры выбары месца пасяленьня, ёсьць пэўная цяга будавацца пры рэчках, ручаёх, альбо там, дзе лягчэй здабываецца вада, нават каля балот, калі няма лепшых месц здабычы вады. Вада ў гаспадарцы зьяўляецца галоўнаю патрэбаю і разыходзіцца ў вялікай колькасьці. Сялянскія будынкі цягнуцца абапал аднае простае вуліцы, кірунак якой у старых вёсках у большасьці з поўдню на ўсход, а ў новых вёсках з поўначы на поўдзень. Шырыня вуліцы ў сярэднім—5-8 саж. Вуліцы не брукаваныя, у вясну, у восень і ў час дажджоў непралазныя ад гразі і лужын.

Аддаленасьць будынкаў сялянскага двара паміж сабой залежыць ад плошчы сялібнага вучастку зямлі: напр., калі апошні зьяўляецца часткай надзельнае цераспалосіцы, пустое месца паміж паасобнымі будынкамі ў двары нязначнае, у сярэднім 2-4 саж., а на вылучаных ад надзельнай цераспалосіцы сялібных вучастках, гэтыя месцы больш значныя—5-8 саж. Плошчы сярод вёскі бадай што ня бываюць. Затое амаль што кожная вёска мае ў канцы вуліцы выган. У вапошнія часы сяляне пачынаюць садзіць каля будынкаў пладовыя дрэвы. Садочкі садзяць звычайна ззаду будынкаў, а калі шырыня сялібнага вучастку дазваляе, дык і з трох бакоў іх. У тых выпадках, калі будынкі ставяцца крыху далей ад вуліцы, перад хатай пры вуліцы робяць садочак, дзе садзяць кветкі і іншую зеляніну.

Пляноўка двара залежыць ад плошчы сялібнай зямлі і пераянятых ад продкаў звычаяў. Усе будынкі двара складаюць як-бы адзін агульны будынак, апроч гумна і лазьні (калі яны ёсьць), якія стаяць воддаль ад сялібы. На вузкіх вучастках у пераважнай большасьці тып забудоўкі—у вадзін шэраг (пагонны) уздоўж вучастку, альбо ў два шэрагі з вузкім дваром. На болей шырокіх вучастках тып забудоўкі—вянковы, зачынены зусім, або ад вуліцы—адчынены, або ў форме літары „Г“. У зачыненай вянковай забудоўцы і вароты знаходзяцца пад страхой (глядзі узорн. плян).

Вянковую забудоўку трэба лічыць горшаю за іншыя, як з санітарнага боку, так і з боку забясьпечанасьці ад пажараў. Мала таго, што двор зачынены з усіх бакоў ад ветру і сонца, ён зьяўляецца як-бы ямай для вады і сьнегу з акружаючых стрэх, апроч таго, у ім яшчэ зьбіраецца розны гной ад жывёлы. Пры такіх умовах двор заўсёды мокры і брудны.

Звычайна хата будуецца ад вуліцы роўналежна, альбо простастаўна да апошняй. Гэта залежыць ад шырыні вучастку і звычаяў, склаўшыхся ў сялян. Лік будынкаў у сялянскім двары залежыць ад велічыні і заможнасьці гаспадаркі. Аб адносінах брудных службаў да хаты будзе адзначана ніжэй.

Галоўны будаўнічы матар'ял нашае вёскі—дрэва для сьцен і салома для стрэх. Ужываецца ў большасьці хвоя і елка. Драўляныя стрэхі (гонта, драніца) мала дзе ўбачыш, і то ў заможных гаспадарках, як выключэньне, сустракаюцца чарапічныя, альбо гліна-саламяныя стрэхі хат—і то ў тых мясцох, дзе будаваліся перад самай вайной.

Знадворку, ад пачарнеўшага дрэва і саломы, вёска мае бруднашэры, мала прывабны выгляд. Толькі ўлетку вёска да пэўнай меры аздабляецца аколічным малюнкам зяляніны.

Агульны лік сельскіх будынкаў—617.882 (паводле даных Дзяржаўнага Страхаваньня на 1923 г.) можна дзяліць на наступныя тыпы: чатырохсьценных хат—83,79 проц., пяцісьценных—5,58 проц., і з дзьвёх палавін—11,34 проц. Усе памянёныя тыпы хат сустракаюцца ўва ўсіх акругах, толькі ў паўднёва-заходняй частцы БССР чатырохсьценак больш (90—95 проц.), чым у паўночна-ўсходняй (70—75 проц.).

## II.

Дзеля вывучэньня сучаснага санітарнага стану мяшканьня і быту беларускага сялянства, улетку мінулага году, па заданьні Мэдсэкцыі Інбелкульту, у гэтай справе зроблена дасьледваньне нашае вёскі. Гэта рабілася паводле азначанага пляну, які быў разгледжаны і зацьверджаны Мэдсэкцыяй. Складзеная анкета, па якой рабілася дасьледваньне, ахоплівае ўсе бакі сялянскага мяшканьня і быту ў залежнасьці ад тэхнікі яго пабудовы, знадворнага ўплыву агульнага дабрабыту вёскі, заможнасьці гаспадаркі, складу сям'і, яе пісьменнасьці, санітарных звычак і г. д. Дасьледваньне зроблена пры дапамозе студэнтаў Мэдфаку Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, якія ад'яжджалі на летні адпачынак у вёску да сваіх бацькоў. На агульных сходах гэтых студэнтаў, перад ад'ездам іх, зроблены былі даклады аб значэньні гэтае працы з адпаведнымі інструкцыямі, як запаўняць анкеты. Усяго




Вянковая (зачыненая) забудова двара. Тып хаты: чатырохсьценка з сенцамі. (Калінінская акруга, вёска Рысін).

раздадзена было 1.500 анкет, з якіх былі запоўнены 1.170. Былі добра выкананы з тэхнічнага боку і апрацованы 1.052 анкеты, што складае каля 0,2 проц. усіх сялянскіх хат БССР. Кожны студэнт дасьледваў сваю вёску і толькі ў некаторых выпадках яшчэ 1-2 суседнія. Дасьледваньне рабілася такім парадкам, што адзін двор дасьледваўся, другі па парадку мінаваўся, трэці дасьледваўся, чацьверты мінаваўся і г. д. Такім чынам, у кожнай вёсцы дасьледвана 50 проц. хат. Хат 25 дасьледвана хутарскіх. Асаблівай розьніцы паміж вясковымі хатамі ня выяўлена.

Былі дасьледваны ўсе акругі, за выключэньнем Полацкае, з рознымі раёнамі і сельсаветамі.

Калі поўнай параўнаўчай характарыстыкі ў адносінах акруг нельга будзе даць, з прычыны неаднолькавай колькасьці дасьледваньня па кожнай акрузе, то для агульнае характарыстыкі гэтага матар'ялу зусім досыць.

З наступнае табл. № 1 мы бачым, колькі дасьледвана ў кожнай акрузе з агульнага ліку дасьледваньняў, і якіх тыпаў хаты.

Табліца № 1.

**Колькасьць дасьледваньняў.**

| НАЗВА АКРУГІ | Чатырохсьценкі. |  | Пяцісьценкі. |  | З 2-х палавін | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
|  | З сенцамі | Бяз сенцаў | З сенцамі | Бяз сенцаў |  |  |
| Бабруйская . . | 32 | 10 | 5 | 4 | — | 52 |
| Барысаўская . . | 56 | 19 | 6 | 3 | 13 | 97 |
| Віцебская . . . | 25 | 12 | 11 | 10 | 3 | 61 |
| Мазырская . . | 3 | 4 | 1 | 12 | — | 20 |
| Менская . . . | 136 | 15 | 45 | 7 | 18 | 221 |
| Слуцкая . . . | 210 | 19 | 18 | 4 | 14 | 266 |
| Аршанская . . | 22 | 15 | 3 | 10 | — | 50 |
| Калінінская . . | 79 | 40 | 19 | 16 | 14 | 168 |
| Магілеўская . . | 30 | 19 | 27 | 22 | 29 | 118 |
| Разам . | 594 | 153 | 135 | 88 | 82 | 1.052 |
| У %% . . . . | 79,32 | 20,48 | 60,5 | 39,5 |  |  |
|  | 71 % |  | 24 % |  | 5 % | 100 |

З гэтай табліцы мы бачым, што пераважным тыпам хаты, як і паводле даных Дзярж. Страху, зьяўляецца чатырохсьценка (71 проц.), на другім месцы—пяцісьценка (24 проц.) і на трэцім месцы з дзьвёх палавін—(5 проц.). Але ў параўнаньні з мінулым процант чатырохсьценкі пачынае спадаць, а таксама і з дзьвёх палавін, у вадносінах

да агульнае колькасьці хат, затое процант пяцісьценкі павялічыўся, напр., з 5,58 проц. да 24 проц.

Цікава пры гэтым прасачыць будаваньне гэтых тыпаў па дзесяцігодзьдзях (глядзі табл. № 2).

*Табліца № 2*

**Эволюцыя росту тыпаў хат па 10-цігодзьдзях у проц.**

| Час будаваньня / Тыпы хат. | да 1905 г. | 1905—1915 г. | 1915—1925 г. |
|---|---|---|---|
| Чатырохсьценкі . . . | 47,32 | 17,24 | 34,67 |
| Пяцісьценкі . . . . | 24,2 | 24,2 | 51,6 |
| З 2-х палавін. . . . | 41,6 | 15,85 | 42,68 |
| Усіх разам . . . | 40,1 | 19,11 | 38,88 |

Адгэтуль мы бачым, што і раней яшчэ ў сялян было імкненьне да пяцісьценнае хаты. Напрыклад, за дзесяцігодзьдзе з 1905 г. па 1915 г. пяцісьценак было пабудавана столькі, колькі іх было да таго часу,




Адчыненая забудова двара (узор няпоўнай літары П). Тып хаты з дзьвёх палавін.
(Барысаўская акруга, вёска Рудня).

між тым як чатырохсьценак і з дзьвёх палавін пабудавана ў тры разы менш, чымся іх было. Што-ж тычыцца павялічанага будаваньня на вёсцы за апошнія дзесяць год, якое пачынаецца, галоўным чынам, з 1918 году (каля 90 проц. усіх новых будынкаў за гэта дзесяцігодзьдзе), дык гэта тлумачыцца, папершае, вольным карыстаньнем лесам у

час грамадзянскае вайны, а, падругое, новым зямлябудаўніцтвам, якое выклікала разьдзелы гаспадарак, таксама спрыяе гэтаму льготнае разьмеркаваньне лесу сярод незаможных. А як хутка растуць гэтыя разьдзелы, можна бачыць з працы М. Кіркевіча (К динамике крестьянских хозяйств БССР с 1917 г. по 1924 г. Бюллетень ЦСУ, выпуск 2, 1925 г.), дзе павялічэньне гаспадарак з 1917 г. па 1924 г. даходзіць да 32,3 проц.

Пераходзячы да характарыстыкі як паасобных тыпаў хат, так і да агульнае, будзем спыняцца, галоўным чынам, на момантах, якія маюць санітарнае значэньне. На стылі і тэхніцы будынкаў спыняцца ня будзем.

Чатырохсьценная хата—гэта драўляны зруб, сярэдніх разьмераў—7-8, альбо 8-9 арш., да якога прыбудаваны нямнога меншых разьмераў, бяз столі, халодныя сенцы. Бываюць выпадкі калі сенцаў няма. Хата мае адны дзьверы ў сенцы, а апошнія—адны ці двое дзьвярэй на двор. Гэта залежыць ад пляноўкі двара: калі хата стаіць уздоўж вуліцы—ёсьць двое дзьвярэй: адны на вуліцу, а другія ў двор. У сенцах часта вылучаецца месца для каморы, дзе ставяць куфры, хаваюць вопратку і іншыя рэчы. У цёплы час году ў сенцах стаяць цэбры з вадой, тут кормяць сьвіней, таксама складаюцца тут розныя гаспадарчыя прылады. Чатырохсьценкі, якія ня маюць сенцаў, складаюць 20,48 проц. Холад з двара ў гэтым выпадку трапляе ўзімку проста ў хату.

Пяцісьценная хата гэта ёсьць эволюцыя чатырохсьценкі, дзе халодныя сенцы прыстасаваны для мяшканьня, а ўжо да іх прыбудоўваюцца невялічкія сенцы, часта з дошчак. 65,5 проц. з агульнага ліку пяцісьценак ня маюць сенцаў. Сярэднія разьмеры пяцісьценкі 8 або 9×12 або 15 аршын. Хата з дзьвёх палавін—гэта ёсьць дзьве чатырохсьценкі, злучаныя між сабой вузкімі халоднымі сенцамі.

Трывалай, добра пабудаванай падмуроўкі, якая ня гніе, беларускі селянін ня робіць. Падмуроўка ня мае патрэбнай глыбіні для трываласьці ўсяго будынку; таксама няма падвойнае падлогі („чорная“ і „белая“), каб не падпускаць пад хату рознага бруду з двара. У лепшых выпадках замест падмуроўкі ўкопваюцца ў зямлю таўстыя хваёвыя або дубовыя цяльпухі (слупкі), па якіх кладуцца ніжнія вянкі сьцен, а паміж цяльпухамі пад сьценамі робіцца драўляны закід. Знадворку да гэтага закіду, ахапляючы і ніжні вянок сьцяны, насыпаецца прызба, дзеля зацяпленьня хаты ў зімны час. Часам такое зацяпленьне робіцца з нутранога боку зрубу. Такія падмуроўкі ёсьць у 60,5 проц. усіх дасьледваных хат. Ува ўсіх іншых выпадках першы вянок зрубу кладзецца проста на зямлю з падкладкамі, ці ўціснутымі ў яе па вуглох каменьнямі і прызба ў такіх выпадках прысыпаецца проста к зрубу. Аб захаваньні сьцен ад вільгаці глебы гаварыць ня прыходзіцца. Усё гэта складае спрыяючыя ўмовы для хуткага гніеньня будынку, а пах гнільля заўсёды пранікае ў хату.

Беларуская хата ў большасьці мае нізкія сьцены. Група хат па вышыні сьцен (ад падлогі да столі) ад 2,6 да 3 арш. складае 32,41 проц. усіх дасьледваных; ніжэй 2,5 арш.—6,37 проц. Групы па нарастаньні вышыні, вышэй 3 арш. паступова зьмяншаюцца і апошняя група ў 4 і вышэй арш. складае ўсяго 7,42 проц. Цяпер калі мы паглядзім на гэтыя групы па тыпах будынку, дык убачым, што ў пераважнай большасьці групы з нізкімі сьценамі належаць да чытырохсьценак,

менш—да пяцісьценак і сярэдняе месца належыць тыпу з дзьвёх палавін, аднак, асабліва рэзкіх хістаньняў няма (глядзі табліцу № 3). Аб нутраной аздобе сьцен гаварыць многа ня прыходзіцца. У лепшым выпадку сьцены абцёсваюцца сякерай і пазы часам замазваюцца глінай. У шчыліны і пазы, з якіх відаць мох, альбо пакульле, набіраецца шмат пылу і іншага бруду, дзе разводзяцца розныя шкодныя кузуркі. У час вялікіх вятроў праз пазы, асабліва ў кутках, прадувае. Хат з абтынкаванымі глінай сьценамі ёсьць толькі 2, 9 проц., якія 1-2 разы ў год (перад калядамі, або вялікаднем) беляцца вапнай; гэта ў значнай меры дадае ім прыгожасьць і сьвежасьць.

Зямляная падлога ёсьць амаль што ў 1/4 усіх хат (22,24 проц.). Пераважная большасьць хат па тыпу чатырохсьценкі—27,58 проц.,




Забудова двара па ўзоры літ. „Г" адваротная. Тып хаты: чатырохсьценка з сенцамі.
(Аршанская акруга).

значна менш—пяцісьценкі—9,5 проц. і з дзьвёх палавін—8,54 проц. Па асобных акругах першае месца па колькасьці хат з зямлянай падлогай займаюць Слуцкая і Мазырская акругі (глядзі таб. № 3). Аб санітарнай якасьці такой падлогі многа гаварыць ня прыходзіцца. У хуткім часе такая падлога псуецца, выбіваюцца яміны, нарастаюць гузы з усялякага бруду і загніваючыя органічныя матэрыі выдзяляюць у памяшканьні шкодныя для чалавека газы. Узімку такая падлога халодная, улетку спрыяе павялічэньню шкодных кузурак; такую падлогу цяжка трымаць у чыстаце, пры падмятаньні дае шмат пылу.

Драўляная падлога таксама ня мае належнай вартасьці. Шчыліны ў ёй і холад з падпольля ў зімовы час зьяўляюцца прычынай розьніцы тэмпэратуры ніжняга і верхняга пластоў паветра, што трэба лічыць галоўным яе недахопам з санітарнага боку. Брудная вада ад мыцьця падлогі і розных хатніх прылад, ад цэбраў з памыямі і г. д., пранікае праз шчыліны ў падпольле, павялічвае там гніцьцё нязьнятага

і неізоляванага верхняга пласту глебы (перагною) і астаткаў будаваньня (дробныя трэскі, мох). З гэтай прычыны выдзяляюцца ад гніцьця шкодныя газы і павялічваецца вільгаць у хаце.

Чорная падлога ў сялянскіх хатах бывае рэдка і робіцца яна ня так як трэба з санітарна-тэхнічнага боку: хутка згнівае і правальваецца. З ліку дасьледваных—чорная (другая) падлога ёсьць толькі ў 7 хатах.

Агульная плошча мяшканьня (жылая) знаходзіцца ў простай залежнасьці ад тыпу яго. Большыя групы мяшканьняў з меншай плошчай пераважна належаць да чатырохсьценак, а большыя групы з большай плошчай маюць пяцісьценкі і з дзьвёх палавін. У чатырохсьценак найвялікшая група будзе з плошчай 50—70 кв. арш. а ў пяцісьценак і з дзьвёх палавін—100 і вышэй кв. арш. Мазырская і Слуцкая акругі маюць большыя групы з меншай плошчай, чымся іншыя акругі (глядзі таб. № 3).

Разьдзяленьне мяшканьня на паасобныя пакоі для розных хатніх патрэб (кухня, спальня, сталовая і г. д.) беларуская хата ня мае. Лік пакояў залежыць проста ад тыпу хаты. Так, чатырохсьценка мае звычайна адзін пакой, які абслугоўвае ўсе хатня-бытавыя і гаспадарчыя патрэбы. Пяцісьценка мае два пакоі, адзін з іх (задні) больш чысты. Хата з дзьвёх палавін мае два пакоі, якія злучаны між сабой халоднымі сенцамі, прычым адна з іх у зімні час, дзеля экономіі апалу, часта не выкарыстоўваецца для мяшканьня і служыць у такіх выпадках для складаньня розных гаспадарчых рэчаў, продуктаў і захаваньня ад маразоў маладое жывёлы. Таб. № 3, якая паказвае большы лік пакояў, чым гэта зьяўляецца адпаведным тыпу хаты, зазначае толькі пачатак дыфэрэнцыяцыі, якая выяўляецца ў тым, што вызначаецца больш чысты куток за няпоўнай перагародкай з дошчак (табліцу № 3 глядзі на 11 старонцы).

З гэтай табліцы відаць, што па тыпах хаты—у лепшых санітарных умовах знаходзяцца пяцісьценкі, а ў горшых—чатырохсьценкі.

Натуральнае асьвятленьне хаты селяніна, якое зьяўляецца магутным фактарам для ўтварэньня жыцьцёвых процэсаў чалавека, далёка нездавальняючае. Дзеля характарыстыкі асьвятленьня, сялянскія хаты разьбіты на 3 групы: 1—здавальняючае, 2—нездавальняючае і 3—напалову цёмнае. Для першае групы ўзята норма коэфіцыенту плошчы акон да плошчы падлогі—1:12, для другое—1:20 і трэцяй—1:28.

Паводле такога дзяленьня большасьць хат з нездавальняючым асьвятленьнем (46,48 проц.), напалову цёмных—21,39 проц. і толькі ў 32,13 проц. усіх хат здавальняючае асьвятленьне. Такія-ж прыблізна лічбы дае і д-р Казанская (Быт и санитарное состояние крестьянства БССР, „Беларуская Мэдычная Думка", № 3, 1925 г.). У вакругах Калінінскай і Аршанскай амаль што палова на палову цёмных хат (40—41 проц.). З тыпаў хат, якія знаходзяцца ў горшых умовах асьвятленьня, знаходзяцца чатырохсьценкі (глядзі таб. № 4).

Лік акон у чатырохсьценцы—3-4, у пяцісьценцы—4-5 і ў тыпе з дзьвёх палавін—6. Аб разьмерах плошчы акон можна меркаваць паводле вышэйпамянёнага коэфіцыенту плошчы акон да падлогі.

Табліца № 3.

**Размеркаваньне мяшканьняў паводле разьмераў плошчы, вышыні сьцен, колькасьці пакояў і якасьці падлогі (у проц. адросінах да агульнага ліку дасьледваньняў [1]).**

| НАЗВА АКРУГІ. | Паводле разьмераў плошчы ў кв. ар.: да 50 | 50.1—70 | 70.1—90 | 90.1—100 | 100 і вышэй | Усяго | Па вышыні сьцен у арш.: да 2.5 | 2.6—3 | 3.1—3.5 | 3.6—4 | 4 і вышэй | Усяго | З земляной падлогай. | Па колькасьці пакояў: 1 | 2 | 3 | 4 | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бабруйск. | 9.62 | 15.38 | 31.62 | 17.30 | 23.8 | 100 | — | 11.54 | 48.08 | 28.85 | 11.54 | 100 | — | 50.0 | 48.08 | 1.92 | — | 100 |
| Барысаўск. | 7.22 | 24.74 | 35.05 | 12.37 | 20.62 | 100 | 18.56 | 65.98 | 8.26 | 5.16 | 2.06 | 100 | 3.09 | 68.04 | 31.96 | — | — | 100 |
| Віцебская. | 4.92 | 3.11 | 14.75 | 8.2 | 59.02 | 100 | 27.87 | 40.98 | 19.67 | 9.84 | 1.64 | 100 | 1.64 | 47.54 | 37.7 | 8.2 | 6.56 | 100 |
| Мазырская | 40.0 | 20.0 | 15.0 | 25.0 | — | 100 | 5.0 | 45.0 | 5.0 | 40.0 | 5.0 | 100 | 35.0 | 35.0 | 65.0 | — | — | 100 |
| Менская. | 14.48 | 22.62 | 24.89 | 3.17 | 34.84 | 100 | 2.26 | 37.56 | 28.96 | 35.79 | 5.88 | 100 | 28.05 | 61.08 | 29.88 | 7.2 | 1,8 | 100 |
| Слуцкая. | 24.53 | 28.11 | 20.0 | 3.77 | 13.58 | 100 | 2.26 | 24.91 | 31.32 | 34.7 | 6.79 | 100 | 50.94 | 79.25 | 19.62 | 0.37 | 0.75 | 100 |
| Аршанск. | 4.0 | 8.0 | 28.0 | 30.0 | 30.0 | 100 | 2.0 | 14.0 | 56.0 | 28.0 | — | 100 | 24.0 | 16.0 | 70.0 | 10.0 | 4.0 | 100 |
| Калінінск. | 5,40 | 23.19 | 29.17 | 22.62 | 19.62 | 100 | 7.74 | 26.19 | 35.71 | 22.62 | 7.74 | 100 | 4.17 | 66.67 | 29.76 | 3.0 | 0.6 | 100 |
| Магілеўск. | 7.66 | 19.49 | 23.7[illegible] | 11.02 | 38.14 | 100 | 5.0[illegible] | 31.36 | 22.03 | 21.19 | 20.34 | 100 | 5.93 | 38.14 | 59.32 | 1.69 | 1.69 | 100 |
| Разам | 13.30 | 25.29 | 25.0 | 9.89 | 26.52 | 100 | 6.37 | 32.41 | 29.18 | 24.62 | 7.42 | 100 | 22.24 | 60.48 | 34.70 | 3.42 | 1.43 | 100 |
| Па тыпах мяшканьняў | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 4-сьценкі | 13.30 | 34.26 | 31.42 | 11.65 | 8.43 | 100 | 7.09 | 36.28 | 29.58 | 22.89 | 4.16 | 100 | 27.58 | 85.0 | 12.85 | 2.15 | — | 100 |
| 5-сьценкі | — | 6.7 | 9.8 | 65.5 | 67.0 | 100 | 4.09 | 2.6 | 26.4 | 30.1 | 18.0 | 100 | 9.5 | — | 87.0 | 9.0 | 4.0 | 100 |
| з 2-х палавін | — | 12.19 | 17.07 | 18.29 | 52.44 | 100 | 3.66 | 29.27 | 32.93 | 25.61 | 8.54 | 100 | 8.54 | — | 91.41 | 6.9 | 2.44 | 100 |

[1]) Дзеля скарачэньня табліцы, абсолютныя лічбы не паказаны, каб выявіць іх можна скарыстаць табліцу № 1, у якой гэтыя лічбы паказаны. Гэта адносіцца і да наступных табліц.

Табліца № 4.

**Групы хат у вадносінах плошчы акон да плошчы падлогі ў $^0/_0{}^0/_0$.**

| Назва акругі / Коэфіцыент асьвятленьня | Бабруйская | Барысаўская | Віцебская | Мазырская | Менская | Слуцкая | Аршанская | Калінінская | Магілеўская | Па ўсіх акругах | Паводле тыпаў хат. 4-сьценкі | 5-сьценкі | з 2-х палавін |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1:12 . . | 53.85 | 29.90 | 26.23 | 25.0 | 42.54 | 42.64 | 12.0 | 17.86 | 11.86 | 32.13 | 30.12 | 33.2 | 47.56 |
| 1:20 . . | 34.62 | 43.3 | 63.93 | 55.0 | 38.46 | 47.17 | 42.0 | 41.07 | 66.95 | 46.48 | 45.92 | 50.2 | 41.46 |
| 1:28 . . | 11.53 | 26.08 | 9.84 | 20.0 | 19.0 | 10.19 | 40.0 | 41.07 | 21.19 | 21.39 | 23.96 | 16.6 | 10.98 |
| Усяго . . | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |

Коэфіцыент асьвятленьня яшчэ меншы, калі прымем пад увагу досыць грубы пераплёт рам.

Вокны з падвойнымі рамамі ёсьць у 53,99 проц. агульнага ліку хат, у 7.94 проц. ня ўсе вокны з падвойнымі рамамі і 39,07 проц.—маюць вокны выключна з ордынарнымі рамамі. Па асобных акругах, першае месца па ліку хат, у якіх вокны з падвойнымі рамамі, займаюць Барысаўская і Аршанская акругі (92—93 проц.) і апошняе месца—Менская і Слуцкая акругі (20—41 проц.) (глядзі таб. № 5).

23,66 проц. усіх хат маюць вокны, якія ніколі не адчыняюцца, (глухія). Па тыпах хат, больш з глухімі вокнамі—чатырохсьценкі (25,97 проц.) і менш—пяцісьценкі (13 проц.). Аконныя форткі ёсьць у 11,12 проц. і то толькі ў тых хатах, дзе вокны адчыняюцца. Пераважна над іншымі тыпамі хат форткі ёсьць у пяцісьценках (27,3 проц.) (глядзі таб. № 5). Як рамы так і форткі звычайна адчыняюцца толькі ўлетку ў час гарачыні, узімку яны наглуха забіты.

Табліца № 5.

**Групы хат па характарыстыцы акон (у $^0/_0{}^0/_0$ да агульнага ліку дасьледван.).**

| Назва акругі / Характарыстыка акон | Бабруйская | Барысаўская | Віцебская | Мазырская | Менская | Слуцкая | Аршанская | Калінінская | Магілеўская | Па ўсіх акругах разам | Паводле тыпаў хат. 4-сьценкі | 5-сьценкі | з 2-х палавін |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| З падвойн-рам. | 57.69 | 93.81 | 62.30 | 8020 | 20.81 | 41.50 | 92.0 | 65.48 | 68.64 | 53.99 | 58.22 | 41.2 | 50.0 |
| Ордынарн. . | 38.46 | 6.19 | 37.70 | 20.0 | 72.02 | 50,2 | 8.0 | 18.45 | 27.12 | 39.07 | 36.01 | 51.1 | 34.15 |
| Зьмешан. . | 3.85 | — | — | — | 7.17 | 8,3 | — | 16, 07 | 4,24 | 6,94 | 5.76 | 7.1 | 15.85 |
| Усяго . . | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| Глухія . . | 11.54 | 51.55 | 50.82 | 70.0 | 15.84 | 16.98 | — | 19.05 | 25.42 | 23.66 | 25.97 | 13.0 | 24.39 |
| З форткамі . | 11.54 | 19.31 | 32.79 | 5.0 | 18.1 | 4.15 | 2.0 | 9.52 | 20.34 | 11.12 | 6.56 | 27.3 | 8.54 |

У зімовы час, каб праз вокны ня выходзіла цяпло з хаты, вокны зачыняюцца на ноч саламянымі матамі, або да паловы акна насыпаецца мяльле, якое трымаецца матай, прыбітай да сьцяны. Гэта захоплівае бадай што палову акна і яшчэ болей зьмяншае натуральнае асьвятленьне хаты. Розьніца тэмпэратуры ў хаце і на дварэ (пры значнай вільгаці паветра ў хаце) выклікае вялікае замярзаньне ордынарных акон, што вельмі павялічвае вільгаць і гніцьцё акон і сьцен. Недахоп натуральнага асьвятленьня і прысутнасьць пры гэтым ордынарных рам тлумачыцца ня толькі імкненьнем сялян захаваць у зімовы час у хаце цяпло, але і дарагоўляй аконных прылад для селяніна. Асабліва гэта яскрава адзначаецца ў гады недахопу і дарагоўлі (1918—21 г.) шкла.

Для штучнага асьвятленьня звычайна ўжываецца газа (маленькая 5 лінейная лямпа і „газьніца“, а ў бяднейшых хатах яшчэ і цяпер хата асьвятляецца лучынай. Асьвятленьне вогнішчам, якое разводзіцца на блясе, падвешанай к пашыранаму канцу коміна сярод хаты і злучанай з комінам, цяпер можна ўбачыць толькі ў вельмі ўбогіх хатах. Для вогнішча выбіраюцца хваёвыя, альбо яловыя карчы (смаляная парода).

Печ у сялянскім быце служыць усялякім жыцьцёвым і гаспадарчым патрэбам: варка яды—сабе і жывёлам, прасушка вопраткі, збожжа і г. д. У зімовы час печ зьяўляецца проста гняздом усёй сям'і. На печы грэюцца і старыя і малыя і хворыя. Каб лёгка было ўзьбірацца на печ, яна мае збоку выступ—прыпечак, альбо прыбудоўваецца да яе ляжанка, якая ўзімку апальваецца. Печ займае ў хаце значную плошчу—у сярэднім 3×3 ар., што зьмяншае агульную плошчу хаты і бяз гэтага невялікую. У пячурках печы, збоку яе, зьбіраецца шмат пяску і іншага бруду ад высушваньня ў іх ануч з лапцей, а ў запечках плодзяцца клапы, прусы і тараканы. Простая тэхніка і тоўстыя сьцены ў печы патрабуюць шмат лішняга апалу.

Падпечча досыць вялікае (у сярэднім 3×3×¾ арш.). Адтуль аддае смуродам ад курэй, катоў і сабак.

У чатырохсьценках печ звычайна ставіцца пры ўваходзе, а ў пяцісьценках—ля сярэдняй сьцяны, прычым сьцяна гэта ў месцы печы часта выразаецца; у такім выпадку ляжанка другой палавіны хаты злучана з печкай і мае адзін комін. У вапошнія часы робяць асобныя грубкі па тыпу галяндзкае печы. У хаце з дзьвёх палавін ставяцца дзьве печы.

Печ, якая характарызуе курную хату, амаль што аджыла свой час. Калі і захавалася яшчэ дзе-небудзь, дык яе сяляне лічаць старадаўнінай.

III.

Сямействаў на адну хату прыходзіцца ў сярэднім 1,13. Асобнай сям'ёй у гэтым выпадку лічыцца кожная жанатая пара. Чужых сямействаў, якія-б жылі супольна ў аднэй хаце, звычайна ня бывае, хіба толькі пасьля пажару.

Па ліку душ на адзін двор прыходзіцца ў сярэднім 5,9. Адносна паасобных тыпаў хат ёсьць некаторае хістаньне гэтай лічбы, напр. на чатырохсьценкі прыходзіцца—5,75, а на пяцісьценкі і з дзьвёх палавін—6,2 і 6,4 (глядзі таб. № 6).

Самая вялікая група мяшканьняў па залюдненасьці душ будзе ад 4 да 8 душ, меншая—9—13 душ, сярэдняя—2—4 душы. Адгэтуль мы бачым, што мінулая вялізная сям'я беларускага селяніна, якая складалася з 25 душ і болей, амаль што развалілася. На гэта ёсьць розныя прычыны. З аднаго боку нарушэньне прававога ладу сям'і, які выяўляўся ў бесьпярэчнай паслухмянасьці ўсіх членаў сям'і аднаму старэйшаму (бацьку, матцы, старэйшаму брату). Цяпер-жа самі сяляне кажуць, што разьдзелы сям'і выклікаюцца частымі сваркамі і іншымі неладамі ў сям'і. З другога боку, разбурэньне вялікай сям'і выклікана льготнымі ўмовамі будаваньня пасьля кастрычнікавай рэволюцыі, аб чым ужо гаварылася вышэй.




Аднашэрагавы тып забудовы двара. Тып хаты: чатырохсьценка з сенцамі. (Слуцкая акруга, вёска Любань).

Цяпер пабачым, якая плошча падлогі і якая кубатура паветра прыходзіцца на душу. Ня гледзячы на тое, што лік людзей у сям'і зьменшаны, нормы гэтыя вельмі нязначныя. Напрыклад, групы мяшканьняў з плошчай да 14 кв. арш. на душу складаюць 54,46 проц. агульнай лічбы, прычым групы да 10 кв. арш. на душу ў гэтай лічбе складаюць 30%. Па асобных тылах хат, большыя групы з меншай плошчай прыходзяцца ў чатырохсьценках (да 14 кв. арш. — 62,38 проц.), меншая—у пяцісьценках (33 проц. з дзьвёх палавін—займаюць сярэдняе месца. Глядзі таб. № 6). Сярэдняя плошча на душу (карысная) у вагульнай лічбе мяшканьняў складае 13,17 кв. арш.

Такія-ж прыблізна даныя і ЦСУ паводле дасьледваньня 1587 хат у 5 акругах за 1923 г. яшчэ не пашыранай БССР, дзе групы хат

з плошчай да 14 кв. арш. на душу складаюць 59,7 проц., што пераважвае ўсяго толькі каля 6 проц. супроць нашых даных.

Табліца № 6.

**Разьмеркаваньне хат, паводле карыснай жылой плошчы ў кв. арш. на душу (у проц. да агульнага ліку дасьледваньняў).**

| ТЫПЫ ХАТ. | На хату прыходзіцца: | | ГРУПЫ ХАТ ПА ПЛОШЧЫ Ў КВ. АРШ. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | сям'і | душ | да 8 | 8.1—10 | 10.1—12 | 12.1—12 | 14 і вышэй [1]). |
| 4-х сьценкі . . . | 1,1 | 5,75 | 18,21 | 18,07 | 15,53 | 10.57 | 37,62 |
| 5-і „ . . . | 1,1 | 6,2 | 4,4 | 9,4 | 8,5 | 10,7 | 67,0 |
| З 2-х палав. . . | 1,2 | 6,4 | 1,22 | 13,41 | 13,41 | 12,2 | 59.76 |
| Па ўсіх акругах разам . . . . | 1,13 | 5,9 | 13.97 | 15,87 | 13,88 | 10.74 | 45.54 |

Калі вышэй гаварылася аб нездавальняючай вышыні сьцен і недахопу плошчы на душу, дык a prі orі можна сказаць аб нездавальняючай на душу кубатуры паветра, бо гэта велічыня якраз залежыць ад дзьвёх першых.




Двухшэрагавая забудова двора. Тып хаты: чатырохсьценка з сенцамі.
(Слуцкая акруга, вёска Любань).

[1]) Далейшая групоўка хат па плошчы (вышэй 14 арш. на душу ня зроблена, дзеля таго, што з санітарнага боку ўсе яны лічацца лепшымі і асаблівага значэньня групоўка іх ня мае. Гэта самае трэба мець на ўвазе адносна іншых табліц, дзе групоўка да канца не даведзена.

Напрыклад, у групе хат з плошчай на душу да 8 кв. арш. кубатуры паветра прыходзіцца менш 1 куб. саж. на душу (гэта група складае 13,97 проц.), у групах-жа з плошчай ад 8 да 14 кв. арш. кубатуры прыходзіцца каля 1,5 куб. саж. на душу (40,49 проц. усіх хат), і толькі 45,54 проц. хат маюць кубатуру больш 1,5 к. с. на душу. У сярэднім прыходзіцца менш 2 к. с. на душу. Што-ж тычыцца кубатуры па тыпах хат, дык тут будуць тыя-ж хістаньні, як і ў адносінах квадратуры, г. зн. у горшых умовах будуць чатырохсьценкі, у лепшых—пяцісьценкі.

Вялікае значэньне мае ў санітарных адносінах адлегласьць хаты ад брудных гаспадарчых службаў і бруднага двара. Некаторыя дасьледчыкі Беларусі, як Доўнар-Запольскі, Сербаў, успамінаюць аб двары селяніна, як пабудаваньні вельмі грунтоўным, у процілегласьць украінскага двара, дзе хата стаіць паасобна ад іншых будынкаў; але тут трэба зазначыць, што грунтоўнасьць гэта мае вялікія хібы як санітарныя, так і проціпажарныя. Аб грунтоўнасьці пабудаваньня двара, якая выяўляецца ў концэнтрацыі ўсіх будынкаў і блізкасьці хлявоў да хаты гаварылася вышэй. Аб'ём пабудаваньня двара, а таксама і лік паасобных службаў залежыць ад велічыні і заможнасьці самае гаспадаркі. Аб характарыстыцы паасобных службаў казаць ня буду, а прывяду толькі даныя адносна адлегласьці хлявоў ад хаты.

Табліца № 7.

**Разьмеркаваньне хат па адлегласьці ад хлявоў у сажнях (у проц. да агульнага ліку дасьледваньняў).**

| Назва акругі / Адлегласьць ад хлявоў у саж. | Бабруйская | Барысаўская | Віцебская | Мазырская | Менская | Слуцкая | Аршанская | Калінінская | Магілеўская | Па ўсіх акругах разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 0 . . . . . . . | 15,38 | 19,59 | 4,92 | 80,0 | 22,17 | 44,53 | 16.0 | 25.6 | 8,47 | 26.05 |
| 0,1—1 . . . . . | — | 37.11 | 4.92 | — | 8,60 | 6.41 | 2.0 | 6,55 | 4,24 | 8,65 |
| 1,1—2 . . . . . | 3,85 | 17,53 | 13.11 | 15,0 | 12,22 | 5.66 | 10.0 | 28,57 | 6.78 | 12,64 |
| 2,1—3 . . . . . | 5,77 | 11,34 | 16.39 | — | 16,74 | 4,15 | 8,0 | 14,29 | 13.56 | 11,03 |
| 3,1—4 . . . . . | 17,31 | 3.09 | 16,39 | 5,0 | 8,60 | 11.70 | 22,0 | 8.33 | 24,58 | 12,07 |
| 4,1—5 . . . . . | 17,31 | 6,19 | 13,11 | — | 6,33 | 4.15 | 16,0 | 9,52 | 16.95 | 8.84 |
| 5 і вышэй . . . . | 40,38 | 5.15 | 31.15 | — | 25.34 | 23.40 | 26.0 | 7.14 | 25,42 | 20,72 |
| | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |

З гэтае табліцы мы бачым, што 26,05 проц. усіх хат знаходзяцца ў непасрэдняй сувязі з хлявамі, а па некаторых акругах, як Мазырская і Слуцкая, проц. значна вышэй (44—80 проц). Яшчэ вялікую частку хат (каля 13 проц.) таксама нельга лічыць паасобнымі, бо ня маюць добра ізоляванай падмуроўкі. Адзначаныя свабодныя плошчы паміж хатай і хлевам яшчэ ня аддзяляе іх зусім; гэтыя незабудаваныя месцы пад агульнай страхой выкарыстоўваюцца для больш чыстых службаў: павець для дроў, гаспадарчага інвэнтару і г. д.

Гной, які выбіраецца з хлявоў 1-2 разы ў год, забруджвае глебу і шкодныя газы лёгка пранікаюць у хату. Зачынены з усіх бакоў двор, пазбаўлены магчымасьці праветрываньня і ўплыву сонца, заўсёды ўгноены і мокры ад дажджоў, яшчэ ў большай меры пагаршае санітарнае становішча хаты. Калі ў некаторых выпадках бываюць і два двары—брудны і чысты, дык апошні не адпавядае сваёй назьве. Асаблівай розьніцы ў адлегласьці хлявоў ад хаты, па характарыстыцы паасобных тыпаў адзначыць ня прыходзіцца.

У часы зімовых маразоў сяляне бяруць з халодных хлявоў у хату наваро̆джаных жывёл: цялят, ягнят, парасят і інш., часта нават з іх маткамі. Часам аўчарні і сьвінярні робяцца з некаторым зацяпленьнем, але ад вялікіх маразоў яны мала бароняць.

Супольнае жыцьцё з жывёламі ў часе вялікіх халадоў бывае ў большасьці сялянскіх хат. У табл. № 7 паказаны толькі тыя хаты, у якіх жывёлы знаходзяцца больш тыдню, меншыя тэрміны не паказаны. У сярэднім, па ўсіх акругах разам, жывёлы трымаюцца ў хатах 37,6 проц., з досыць значнымі хістаньнямі па асобных акругах. Па асобных-жа тыпах хат значная большасьць назіраецца сярод тыпаў з дзьвёх палавін (40,24 проц. гэтага тыпу). Прычына гэтаму тая, што ў аднэй з палавін узімку ня жывуць, а яна служыць для розных гаспадарчых патрэб: там і грэюцца кволыя маладыя жывёліны. Меншы лік жывёл па хатах—адносіцца да пяцісьценак, бо ў гэтых гаспадарках, наагул усе будынкі лепшыя.

Асобных будынкаў для прыгатаўленьня ежы жывёлам: пойла, паранак, запаркі мякіны і г. д. сялянская гаспадарка ня мае; усё гэта робіцца ў хаце. Толькі дзе-ні-дзе ў заможных гаспадарках ёсьць драўляны самавар з бляшанай трубой для награваньня пойла ў двары. Гэта складае ўсяго 6,5 проц. гаспадарак, а ў рэшце—93,5 проц., усе памянёныя патрэбы робяцца ў хаце. Вынікі гэтага вядомы—павялічэньне ў хаце вільгаці і бруду. Асобнай розьніцы па тыпах хат тут адзначыць ня прыходзіцца (гл. табл. № 7).

Адсутнасьць у гаспадарцы вароўні альбо склепа для захаваньня на зіму бульбы, буракоў, капусты і іншых караньплодаў таксама пагаршае санітарны стан сялянскай хаты. У такіх выпадках, значная частка запасаў, якая пэрыодычна выбіраецца з капцоў альбо з глухіх ям на гародзе захоўваецца ў хаце, у ямцы пад падлогаю. Гаспадаркі, якія маюць спэцыяльныя месцы для захаваньня памянёных продуктаў, складаюць 74.62 проц. з досыць значнымі хістаньнямі па акругах (глядзі таб. № 8). Процэсы гніцьця, якія адбываюцца ў хатніх ямах, псуюць паветра і брудзяць хату.

Табліца № 8.

| Назва акругі / Ёсьць: | Бабруйск. | Барысаўск. | Віцебск. | Мазырск. | Менск. | Слуцкая | Аршанск. | Калінінск. | Магілеўск. | Па ўсіх акр. разам | Па тыпах хат: 4-сьцен | 5-сьцен | з 2-х палав. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Варыўня або склеп | 80,77 | 72,16 | 6,56 | 80,0 | 75,57 | 83,16 | 46,0 | 85,12 | 84,75 | 74,62 | — | — | — |
| Жыцьцё з жывёл. | 5,77 | 10,31 | 22,95 | 15,0 | 27,6 | 41,8 | 66,0 | 68,4 | 39,0 | 37,6 | 39,8 | 29,2 | 40,24 |
| Прыгатаўл. жыв. ежы. . . . . | 100 | 93,81 | 77,05 | 95,0 | 95,4 | 94,3 | 98,0 | 92,0 | 93,2 | 93,5 | 93,6 | 92,4 | 96,34 |

Вільгаць у жылых будынінах узімку ёсьць у 65,78 проц. усяе лічбы дасьледваньняў (гл. таб. № 9). Па акругах найбольшы лік вільгаці мае Мазырская акруга (75 проц.), найменшы—Аршанская (56 проц.). Па тыпах хат пераважны лік вільгаці маюць чатырохсьценкі (70 проц.), найменшую—пяцісьценкі (52,04 проц.). Зазначана тая вільгаць, на якую скардзіліся самі сяляне. Калі да гэтага дадаць яшчэ і тую вільгаць, якая лічыцца з санітарнага пункту погляду, дык проц. вільгатных хат будзе значна вышэй.

Гэткае распаўсюджаньне вільгаці ў беларускіх хатах залежыць ад цэлага шэрагу розных умоў і прычын як знадворных, так і ўнутры самай хаты. Папершае, тут трэба мець на ўвазе вільготнасьць глебы ад высокага стаяньня ў ёй вады, балацістыя месцы, вільготнасьць клімату, адсутнасьць ізоляцыі сьцен ад глебы (адсутнасьць адпаведнай падмуроўкі), зямляная падлога, а падругое — цеснага хат і шмат інш. Толькі ўлетку, з зьменай прыродных умоў і жыцьця ўсяе гаспадаркі, хата праветрываецца і прасыхае.

Табліца № 9.

**Вільгаць хат (у проц. агульнага ліку дасьледваньняў).**

| Назва акругі | Бабруйская | Барысаўская | Віцебская | Мазырская | Менская | Слуцкая | Аршанская | Калінінская | Магілеўская | Па ўсіх акругах разам | Па тыпах хат: 4-сьценкі | 5-сьценкі | 2-х палавін |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вільготных | 71.15 | 60.82 | 59.02 | 75.0 | 71.04 | 65.66 | 56.0 | 64.29 | 61.1 | 65.78 | 69.21 | 52.04 | 70.73 |

Няроўнасьць сьцен у сярэдзіне хаты, шмат шчылін у іх, нячыстата месц для спаньня і іншыя закуткі ў хаце, дзе набіваецца ўсялякі бруд, зьяўляюцца месцамі выплоджваньня розных шкодных кузурак, ад якіх ня бывае спакою, асабліва ў начы. Хворыя бываюць так пакусаны, што толькі напрактыкаванае вока мэдыка ў часы нярэдкіх тут пошасьцяй плямнякі, можа паставіць дыфэрэнцыяльны дыагноз паміж плямамі тыфусу і пакусамі кузурак.

Амаль што няма такой хаты, у якой-бы зусім ня было ніякіх кузурак і ў табл. № 10, якая даецца ніжэй пад словам „адсутнічаюць“, трэба разумець, што тут кузурак пападаецца мала і сяляне мала на іх увагі зьвяртаюць. У вадней і тэй-жа хаце бывае па некалькі відаў кузурак. У табл. № 10 паказаны найбольш распаўсюджаныя віды.

З табл. № 10 мы бачым, што клапы і блохі болей распаўсюджаны (57, 13—55, 8 проц. усіх мяшканьняў), менш—прусы і тараканы. Адносна блох трэба заўважыць, што ўлетку (час нашага дасьледваньня) іх вельмі многа па вёсках. Хат „вольных“ ад кузурак усяго 15,18 проц.

Аб вашывасьці і лазьнях будзе сказана ў II нарысе, хатняга быту селяніна.

Дзелячы хаты на тыпы іх пабудовы, увесь час зазначалася, што ў лепшых адносных умовах знаходзяцца пяцісьценкі, а ў горшых—чатырохсьценкі, сярэднее месца займаюць хаты з 2-х палавін. Будова хаты пяцісьценкі каштуе селяніну на 50—70 проц. даражэй хаты чатырох-

Табліца № 10.

**Групы па распаўсюджанасьці шкодных кузурак (у проц. да агульнага ліку дасьледваньняў).**

| Назва акругі / Віды кузурак | Бабруйская | Барысаўская | Віцебская | Мазырская | Менская | Слуцкая | Аршанская | Калінінская | Магілеўская | Па ўсіх акругах разам | Па тыпах хат | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | 4-сьценкі | 5-сьценкі | З 2-х палавін |
| Клапы . . | 42.31 | 41.24 | 55,73 | 55.0 | 60.18 | 58.05 | 84.0 | 76.69 | 62,71 | 57.13 | 58.8 | 47,1 | 55.6 |
| Блохі . . | 57.69 | 35.05 | 34.43 | 65.0 | 60.47 | 58.0 | 50.0 | 57.14 | 55.08 | 55.8 | 55.2 | 51.45 | 50.2 |
| Прусы . . | 26.92 | 20.31 | 18.6 | :3.0 | 25.72 | 21.17 | 6.0 | 6.5 | 21.19 | 17.5 | 19.6 | 12.2 | 18.5 |
| Тараканы . | 28.85 | 14.43 | 3.28 | 20.0 | 12.67 | 13.69 | 14.0 | 12.5 | 21,19 | 16,15 | 14.2 | 30,0 | 13.4 |
| Адсутнічаюць . . | 3.85 | 21.3 | 18.7 | 15.0 | 16.5 | 14.8 | 4.0 | 9.5 | 16.95 | 15.18 | 17.8 | 25,3 | 21.8 |

сьценкі. Удалося выявіць ва ўсіх акругах, што пяцісьценкі будуюць болей заможныя і болей культурныя сяляне (пісьменныя). Мерай заможнасьці за аснову ўзяты лік ворнай зямлі і буйныя жывёлы ў гаспадарцы, а пісьменнасьці — лік пісьменных у хаце, лічбы сярэднія (гл. таб. № 11).

Табліца № 11.

**Пісьменнасьць і экономічная моц паводле тыпу хат.**

| Прыходзіцца ў сярэднім на 1 хату / Тыпы хат | Душ | Пісьменных | Ворнае зямлі | Буйнае жывёлы |
|---|---|---|---|---|
| 4-сьценка . . . . | 5.75 | 1.6 | 3.4 | 2.8 |
| 5-сьценка . . . . | 6.2 | 2.5 | 4.3 | 3.3 |
| З 2-х палавін . . . | 6.4 | 1.0 | 4.0 | 3.0 |

З гэтае табліцы мы бачым, што пяцісьценкі належаць да больш заможных гаспадароў і маюць найбольшы лік пісьменных. Чатырохсьценка па ліку пісьменных хоць і вышэй, чымся з 2-х палавін, але ў экономічных адносінах — ніжэй. У справе павялічанага будаўніцтва пяцісьценкі ў пасьлярэволюцыйны пэрыод мае значэньне ільготнае карыстаньне лесам (аб чым гаварылася вышэй). Блізасьць гораду і чыгункі робіць уплыў у бок павялічэньня лепшых будынкаў у сялян. Напрыклад, больш глухія акругі — Мазырская і Слуцкая — маюць горшыя будынкі. Але гэта цесна зьвязана з экономікай гаспадаркі.

Нешта новае ў будаўніцтва сялянскіх хат унесла вайна і эміграцыя, якая зноў вярнулася на бацькаўшчыну з далёкіх месц б. Расіі і з іншых замежных дзяржаў.

Падагульваючы ўсё разам, лічу магчымым зрабіць наступныя вывады:

1. Павялічаны лік будаваньня вёскі ў апошнія часы адбівае ў сабе політычныя ўмовы: а) вольнае карыстаньне лесам 1918—21 г. г., б) зямляўпарадкаваньне, якое выклікала драбленьне гаспадарак, в) ільготная выдача лесу незаможным і г. д.

2. Павялічанае будаваньне дае нарастаньне жылой плошчы, але з санітарнага боку дадае мала новага ў дабрабыт двара і хаты.

3. У сваёй масе хата беларускага селяніна — вільготная, цесная, няпрытульная ў адзін пакой з многімі шкоднымі кузуркамі; у хаце адбываюцца ўсе жыцьцёвыя і гаспадарчыя патрэбы; плошча падлогі і кубатура паветра на душу значна ніжэй нормы. Натуральнае асьвятленьне праз меру нездавальняючае.

4. Значны лік хат з зямлянай падлогай (22,4 проц.) зьяўляецца галоўным санітарным недахватам пры нашых кліматычных умовах.

5. Блізасьць хаты да брудных службаў і зачынены двор, пры тэхнічных недахопах будаваньня хаты (падмуроўка, падлога, падпольле) пагаршае санітарныя ўмовы хаты.

6. Злучанасьць усіх будынкаў аднэй страхой вельмі небясьпечна ў выпадку пажару. (БССР займае 3-е месца па ліку пажараў у Саюзе).

7. Печ, значна памяншаючы плошчу і кубатуру — не экономна для апалу.

8. У параўнаньні з іншымі, лепшым тыпам існуючых хат зьяўляецца пяцісьценка, якая ў сваім далейшым разьвіцьці вымагае санітарна-тэхнічных паляпшэньняў.

9. Паляпшэньне сялянскіх хат цесна зьвязана з экономічным станам гаспадаркі і культурным узроўнем насельніцтва.

Адсутнасьць здавальняючых лічбаў у санітарнай характарыстыцы сялянскіх хат па іншых рэспубліках Саюзу не дае магчымасьці прывесьці параўнаўчых даных. Паводле лічбаў, якія ёсьць у нас аб Украіне ў гэтай справе, трэба сказаць, што пераважнасьцю Беларусі зьяўляецца большы разьмер плошчы на душу 13,17 кв. арш., Украіна—9,7 кв. арш. і меншы лік зямляных падлог—у нас 22,4 проц., Украіна амаль што 95 проц. Пераважнасьць Украіны—значная адлегласьць хаты ад брудных службаў, меншае ужываньне ў хаце гаспадарчых патрэб і чыста пабеленыя абтынкованыя сьцены.






**Проф. А. Фядзюшын.**

# Да лёсу белавескага зубра.

**(Нэкролёг).**

> «В том, что безвозвратно перестала существовать не внешняя форма, а своеобразное сочетание живых сил и притом сочетание не индивидуальное, а видовое, есть нечто глубоко трагическое, и грустно, что многие не сознают этого трагизма...»
>
> Проф. **Г. А. Кожевников.**

Сярод так званых „помнікаў прыроды“ бязумоўна сусьветнае значэньне меў белавескі зубр—Bos pasus, самы буйны з сучасных сысуноў (Mammalia) Эўропы. У ранейшыя часы зубр быў вельмі распаўсюджаны па ўсёй сярэдняй Эўропе, на поўнач ад Альпаў праз Аўстрыю, Нямеччыну, Польшчу, Літву і далей на ўсход, заходзячы за Дняпро[1]). У Вугоршчыне, Чэхіі, Сылезіі (Шлёнску), Аўстрыі і Галіччыне зубр зьнік з старадаўных часоў[2]). Ува ўсходняй Прусіі, Польшчы і Беларусі зубры захаваліся да пазьнейшага часу. У Прусіі яшчэ з XIV стагодзьдзя пачалі ахоўваць зубра, забараняючы паляваньне на яго і прыпасаючы для яго сена на зіму. Аднак-жа, часам дзякуючы эпізоотыям (пошасная хвароба жывёл) і таксама з прычыны дзейнасьці браконьераў, у 1755 годзе *быў забіты апотні зубр у прускіх лясох*, захаваўшыся толькі ў Польшчы і Беларусі. Хаця ёсьць гістарычнае паказаньне на тое, што ў той час зубр яшчэ існаваў нават у Варонескай губ. Напр., у часопісу „Человек и природа“ (№ 2, люты 1926 г.) на стар. 78 зьявіўся нядаўна артыкул П. Сталпянскага, пад загалоўкам: „Старый Петербург“, дзе апісваюцца паляўнічыя „забавы“ імпэратрыцы Ганны Іванаўны, пры гэтым паказана, што 13 траўня 1739 г. быў „апрабаван“ (зацьверджаны) даклад обэр-егермайстра Валынскага: „О ловле в России и Персии зверей и о присылке оных в зверинцы“. З гэтага дакладу відаць, што з Варонескай губэрні трэба было прывезьці: „зубры или дикие быки, подобные аурксксам“.

---

[1]) С. А. Усов. Зубр (монографія) 1888 г. Масква.

[2]) Па Усаву ibid., стар. 142.

Што тычыцца Польшчы і Беларусі, дык тут і каралі і магнаты пільна ахоўвалі зуброў. У Беларусі аднаго часу была назначана нават кара сьмерцю за забойства зубра. (Вядома, гэта адносілася толькі да сялян, а не да магнатаў, якія мелі выключнае права на паляваньне). Усё-ж такі ў XVIII сталецьці амаль па ўсёй тэрыторыі Польшчы зубры зьніклі. Нарэшце, больш як сто год назад, зубры захаваліся і дажылі да нашых дзён толькі ў аднэй Белавескай Пушчы. Апошняе стада гэтых жывёл каля ста год таму назад лічылася ад 815 галоў (па Струбосаву loc cit) да 500 галоў (па Усаву loc cit). Дзякуючы ахове, лік іх у Белавежы к 1879 г. дасягнуў 2.000 галоў, і гэта колькасьць напэўна была максымальнай таму, што пэрыодычныя эпізоотыі спынялі іх лікавы прырост, а празьмернае расплоджваньне аленяў у пушчы (дзякуючы зьнішчэньню мясажэраў), якія вельмі псавалі падлесак—служыла прычынай недахопу ежы і зубры галадалі[1]). Але відаць, што зубр быў усё-ж такі вымираючай жывёлай, аб чым сьведчыць хоць-бы малая іх пладавітасьць, усяго каля 8% у год. Тую самую думку выказвае ў сваёй працы проф. Н. М. Кулагін, які дасьледваў будову яечніка зуброў[2]). Быў гістолёгічна вывучаны яечнік цяляці аднаго году, яечнік цёлкі двух год, яечнік сталых і старых кароў, пры гэтым аказалася, што лік фолікул у зуброў значна меншы, чым у хатняй рагатай жывёлы. Ооцыты, акружаныя невялікім лікам каморак—membrana granulosa, выцясьняюцца злучальнай тканкаю і не даюць сьпелых фолікул. Апроч таго, адсутнасьць пубертатных каморак, недахоп гутенновых каморак, напэўна зьяўляюцца прычынай зьніжанага палавога тонусу зуброў[2]). Вя-



Астатнія зубры ў Белавескай Пушчы ў 1915 годзе.
(Bialowies in deutscher Verwaltung).



Забіты зубр у прэпаратальні.

[1]) У 1913 годзе дзеля забесьпячэньня зуброў падножным кормам, дзеля зьмяншэньня жывога інвэнтара Пушчы было забіта 3.000 (!) штук аленяў.

[2]) „Труды I Всероссийск. С'езда зоологов, анатомов и гистологов в Петрограде“, 1922 год.

лікае распаўсюджаньне сярод зуброў хваробы дыстоматозам („матыліца“), адсутнасьць уплыву натуральнага адбору (дзякуючы ахове чалавека)—безварункова дапамагала выраджэньню стада. Ужо даўно была зьвернута ўвага на тое, што такія буйныя паасобнікі зуброў, якіх калісьці забівалі польскія каралі, як аб гэтым сьведчыць запісваньне вагі забітых жывёл, у вапошнія часы зусім ня было. Так ці іначай зубровае стада, гэты надзвычайна каштоўны помнік прыроды, захавалася ў Белавежы да імпэрыялістычнай вайны 1914 году. У часы апошняй, калі Белавеская Пушча была ахоплена фронтам, зубровае стада нішчылася расійскім і нямецкім войскам. Ня мала зуброў было забіта ў той момант браконьерамі з бліжэйшых сялян. Праўда, калі нямецкія часьці занялі тэрыторыю Белавескае Пушчы ў верасьні 1915 году, быў выдадзены проэкт паляўнічых правіл для Белавежы, паводле якога зубр браўся пад ахову. Кіраваньне і ахова Пушчы былі даручаны інспэктару этапнага праўленьня нямецкіх войск генэрал-лейтэнанту фон-Зэцкендорфу, які выдаў загад аб ахове Пушчы; загад гэты пачынаўся словамі: „...мы хочам, хоць гэта адбываецца ў краіне няпрыяцеля, існуючую колькасьць зуброў па магчымасьці захаваць дзеля таго, каб прадоўжыць у патомках гэты від, як выключны помнік прыроды“ [1]). На жаль, пажаданьне нямецкіх окупантаў ня зьдзейсьнілася. Зубры ў Белавежы, урэшце, канчальна былі зьніштожаны, як і сама Пушча, і ў паказанай рабоце („Белавеж у нямецкім кіраваньні“) апісаньне і ілюстрацыі да яго, малюючыя дзейнасьць нямецкіх зоолёгічных музэяў, якія сквапна накінуліся, „каб не празяваць“, на збор колекцый,— відавочна і падрабязна апавядаюць аб гэтым гэройскім учынку. Вайсковым кіраўніцтвам былі апавешчаны ўсе нямецкія музэі і паасобныя вучоныя спэцыялістыя для ўтварэньня ў Белавежы навукова-дасьледчай працы. — „Калі-небудзь сьвет убачыць, як „барбары-немцы“ у заваяванай краіне сярод страшных і крывавых бітваў спаборнічалі ў навуцы і аказалі вучонаму сьвету неацэненыя паслугі“—чытаем у вышэйазначаным апісаньні. І запраўды, на кліч вайсковага Кіраўніцтва ў Белавеж адразу сталі зьяжджацца вучоныя, а галоўным чынам прэпаратары ад розных музэяў з колекцыянэрскімі мэтамі. У балотах і дрыгвах шукалі яны часта цэлымі днямі па сьнезе і лёдзе захаваныя астачы аграмадных быкоў, і з лістапада па люты месяц было знойдзена і ўратавана 9 няпоўных шкілетаў! (loc cif стар. 50). Большасьць шкілетаў былі астачамі зуброў, загінуўшых ад браконьерскіх куль. Трапляліся, паміж іншым, сьвежыя касьцякі і ласёў. Што-ж тычыцца аленяў, дзікіх коз, ланяў і вяпрукоў, дык астачы іхніх скур і кась-



Прэпаратная ў Белавежы за немцамі. Відаць шкілеты зуброў.

[1]) Bialowies in deutscher Verwaltung. 1918. Berlin bd I.

цякоў трапляліся ў вадзе даволі часта. Апроч таго забіваліся і жывыя паасобнікі з дапамогаю паляўнічай каманды. У лістападзе 1915 году ў Белавеж прыяжджаў на адзін дзень, паміж іншым, прэзыдэнт Дзяржаўнага Т-ва Аховы Прыроды ў Прусіі, тайны саветнік Conwentz (Конвенц) дзеля азнаямленьня з становішчам справы на месцы. Бэрлінскім музэем вывезена з Белавежы багатая здабыча, пры гэтым, апроч шкілетаў і скур дзікіх коз, аленяў і вяпрукоў, былі вывезены на чучалы тры забітыя зубры.

Паводле даных, Нямецкае Вайсковае Кіраўніцтва вывезла ўсяго 26 паасобнікаў шкілетаў зубра. Большасьць іх загінула ад куль і толькі некалькі, як нам удалося выявіць, ад хваробы, альбо ад голаду. Існуючыя цяпер у Нямеччыне 66 штук зуброў пасьпешна размнажаюцца і, дзякуючы добраму дагляду і навукова пастаўленым назіраньням, даюць такія-сякія надзеі на аднаўленьне ў будучыне гэтага віду. Такім чынам, лёс белавескага зубра, як дзікай жывёлы, якую хацяі ахоўвалі на працягу сталецьцяў, нечакана закончыўся на нашых вачох поўным яго зьнішчэньнем у роднай тэрыторыі. Некалькі паасобнікаў яго, якія былі вывезены яшчэ да вайны з мэтай акліматызацыі ў Крым, Асканію-Нову і яшчэ раней у Гатчыну—таксама або загінулі ў апошнія часы, або ў якасьці гібрыдаў (бізон × украін. шэрае быдла × зубр) у вадзіночках дажываюць свае апошнія дні. (Маскоўскі заол. сад).

Каўказкі зубр, які захаваўся да гэтага часу ў ліку 30 галоў, належыць да другога падвіду—Bos lonosus cau-casicus sat.





Проф. В. Пераход.

# „Ліставыя груды“ і „вольсы“ Беларусі.

**(Да вывучэньня беларускіх лясоў).**

Беларускія лясы маюць многа парод. У той час, калі большасьць расійскіх лясоў складаецца з сасны, елкі, асіны ды бярозы, у лясох Беларусі да гэтых дрэў далучаюцца яшчэ іншыя пароды: дуб, ясен, клён, вольха, ліпа і граб.

Возьмем, напрыклад, Жорнаўскую лясную дачу [1]), якая знаходзіцца ў 90 вярстах ад гор. Менску (на Верайцоўскай ветцы). У гэтай дачы, дзе налічваецца ўсяго каля 9.335 дзес., ёсьць 10 дрэўных парод:

| Пароды дрэў / Плошча | Сасна | Елка | Дуб | Ясен | Ліпа | Вольха | Граб | Клён | Асіна | Бяроза |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пакрытая лесам (дзес.). | 2,025 | 1,054 | 50,20 | 51,74 | 2,683 | 1,518 | 272 | 353 | 1.023 | 303 |

Найбольш каштоўнымі пародамі зьяўляюцца: сасна, дуб, ясен; гэта „экспортныя“ пароды Беларусі, да іх, у вапошнія часы, далучаюцца яшчэ: асіна, вольха (фанерная) і елка (балянсы).

Граб у Расіі не спатыкаецца, дзеля гэтага ён можа лічыцца *„нацыянальным“* дрэвам Беларусі, таксама, як у Нямеччыне—бук.

Немцы называюць граб—„белым букам“ і адносяцца да яго з вялікаю ўвагаю.

У нас, у Беларусі, граб трапляцца, як прымешка, рэдка пераходзячы ў пануючую пароду.

Асноўнымі тыпамі багатых на пароды лясных дач Беларусі, апроч сасновых бароў, трэба лічыць:

1. *„Ліставыя груды“*—гэта мяшаныя, двох-павярховыя дрэвастаны з пануючай ліставой пародай (дуб, ліпа, ясен, клён) і з нязначнаю прымешкаю іглdepастых (елка, месцамі адзіночкаю сасна), якія разам

[1]) Гл. нашу працу „Жорновская лесная дача, как об'ект для изучения лесов Белоруссии и хозяйства в них“. 1922 г. *Аўтар.*

утвараюць першы паверх; у склад другога паверху ўваходзяць граб, елка, іншы раз клён; у падлеску трапляюцца—ляшчына, каліна, Lonicera, брызьліна і інш.

*„Беларускі груд“* падзяляецца на тры тыпы (альбо падтыпы):



1. *Урадлівы груд* (ялова-грабавы дубняк), які мы лічым самым характэрным якраз для лясоў Беларусі [1]).

У першым паверху ёсьць: дуб, ліпа, елка, асіна, ясен, часткаю клён і бяроза.

Другі паверх складаюць: граб, часткаю клён, елка і бяроза.

Прымешка іглястых (елка) нязначная, сасны няма. Падлесак утвараюць: елка, дуб, ясен, клён і граб.

Глебавае акрыцьцё—шыракаліставыя травы (кісьліца, майнік і інш.).

Таксацыйныя даныя „ўрадлівага груда“ наступныя:

| ПАРОДЫ ДРЭЎ | Узрост | Лік пнёў на 1 гэктары | Сярэдняя вышыня ў мэтрах | Сярэдні дыямэтр у сантым. | Сума плошчаў сячэньняў у кв. мэтрах | Сярэдні запас у куб. мэт. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Граб | Першага паверху 110-130 г., другого паверху 40-50 г., апроч граба (120) | 316 | 15 | 20,8 | 10,72 | 99,64 |
| 2. Дуб | | 16 | 32 | 76,2 | 7,28 | 135,3 |
| 3. Ліпа | | 24 | 32 | 55,8 | 5,84 | 76 |
| 4. Елка | | 136 | 15,5 | 19,5 | 4,04 | 9,3 |
| 5. Клён | | 52 | 22 | 30,7 | 2,96 | 45 |
| 6. Асіна | | 4 | 30 | 41,0 | 0,52 | 7,2 |
| Усяго | — | 536 | — | 40,7 | 31,36 | 372,44 |

[1]) Тыпы дрэвастанаў вызначаны яшчэ проф. Высоцкім, фотографіі зьняты дасьледчай станцыяй і, разам з данымі, зьмешчаны ў аднэй з дыплёмных прац, выкананых па маёй катэдры. *Аўтар.*

2. *Густы груд* „сугрудак“ займае слаба павышаныя месцы і больш бедныя глебы („пустыя“), ад якіх ён і атрымаў сваю назву, як і „ўрадлівы груд“, які займае багатыя, сугліністыя глебы.

„Пусты груд“—таксама двох-павярховы дрэвастан, але ўжо з значнаю прымешкаю іглbackstых (амаль 30 проц.).

Першы паверх утвараюць: дуб, ліпа, асіна, елка, сасна, часткова клён (Acer platanoides).

Другі паверх складаецца, галоўным чынам, з граба і прыгнечанай елкі, а таксама бярозы і клёна (востралістага).

*Травяное* акрыццё складаецца, пераважна, з чарніцы, ад якое яно атрымала яшчэ менш характэрную назву „груда-чарнічніку“. Апроч чарніцы, трапляецца брусьніца, папараць, імхі.



Таксацыйныя даныя „сугрудка“ наступныя:

| ПАРОДЫ ДРЭЎ | Сярэдні ўзрост | Сярэдняя вышыня ў мэтрах | Сярэдні дыямэтр у сантым | Сума плошчаў сячэньняў (кв.м.) | Лік пнёў на 1 гэктар | Сярэдні запас у куб. мэтр. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дуб | I паверх | 27 | 42,2 | 15,36 | 112 | 23,0 |
| Елка | | 20 | 20,4 | 10,52 | 320 | 19,43 |
| Сасна | 100-120 год. | 34 | 64,5 | 2,92 | 8 | 35,64 |
| Граб | | 11 | 13,9 | 2,56 | 168 | 27,28 |
| Асіна | II паверх | 30,5 | 47,0 | 2,28 | 12 | 60,72 |
| Бяроза | 40-50 год. | 23,5 | 26,3 | 0,96 | 16 | 7,61 |
| Клён | | 10,7 | 10,1 | 0,16 | 24 | 0,75 |
| Усяго | — | — | 32,06 | 34,76 | 660 | 418,29 |

*Увага:* Пусты груд дае да 60 проц. драўніны, у той час як урадлівы груд павінен даваць большы процант вырабнага лесу.

3. *Сярэдні груд* або сьветлы, менш тыповы, займае сярэдняе месца паміж першымі тыпамі *„беларускіх грудоў“*; ён займае лёгкія суглiністыя глебы (пусты груд на супесях) і таксама складаецца з двух паверхаў.

У першым паверху: дуб, ліпа, елка, асіна, клён, адзіночкаю бераст; у другім—граб, прыгнечаная елка, клён, бяроза.

Падлесак складаецца з елкі, ліпы, граба, дуба, клёна, асіны; ясена тутака няма.



Таксацыйныя даныя „сярэдняга груда“ гэткія:

| Пароды дрэў | Узрост | Лік пнёў на 1 гэкт. | Сярэдняя вышыня ў мэтрах | Сярэдні дыямэтр у сантым. | Сума плошчаў сячэньняў (кв. м.) | Сярэдні запас на 1 гэкт. у куб. мэт. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дуб . . | I паверх | 48 | 30,5 | 41,6 | 6,92 | 96,84 |
| Граб . . | 100-120-150 | 232 | 15,5 | 19,4 | 6,84 | 55,48 |
| Асіна . . | год. | 40 | 32,0 | 43,7 | 6,00 | 80.0 |
| Елка . . | II паверх | 352 | 14,0 | 14,7 | 6,00 | 52,0 |
| Ліпа . . | 60-70 г. | 8 | 28,5 | 34,5 | 1,88 | 24,52 |
| Клён . . | ад 120 г. | 32 | 13,5 | 18,2 | 0,84 | 6,52 |
| Усяго . . | — | 712 | — | 28,68 | 28,48 | 315,36 |

*Увага*. У гэтым тыпе „беларускага груда“ елка складае, паколькасьці, каля 16 проц.

Пяройдзем цяпер да групы „Вольсаў“, якія займаюць нізінныя, вільготныя месцы з перагнойна-гляіста-сугліністымі глебамі і блізкімі грунтовымі водамі.

„Вольсы“—гэта альхоўцы, у якіх, аднак, апроч вольхі, маюцца і іншыя пароды.

Для характарыстыкі „вольса“ прывядзем даныя [1]) для плошчы ў 1 гэктар:

| Пароды дрэў | Лік пнёў | Сярэдні дыямэтр у сант. | Сумма плошчаў сячэньняў (кв.м.) |
|---|---|---|---|
| Вольха . . | 304 | 40,6 | 39,24 |
| Елка . . | 224 | 14,5 | 3,68 |
| Ясен . . | 20 | 33,5 | 1,76 |
| Бяроза . . | 16 | 24,4 | 0,64 |
| Бераст . . | 4 | 13,0 | 0,04 |
| Усяго. . | 562 | — | 45,36 |

З гэтых даных відаць, што галоўнае месца, па колькасьці дрэў, прыналежыць *вольсе* (Alnus glutinosa), ад якой „вольсы“ і атрымалі сваю назву, як тып *беларускага лесу*.



[1]) Таксацыйныя даныя ўзяты з дыплёмнай працы студэнта Санкоўскага. *Аўтар.*

Другое месца прыналежыць, у даным прыкладзе, елцы, але пры іншых умовах, на месцы елкі стаіць ясен, а іншы раз і бяроза.

На падставе гэтага, у залежнасьці ад таго, якая з парод складае галоўную прымешку да вольхі, падзяляюць на:

1. *Яловы вольс*, адна-павярховыя дрэвастаны, з падлескам таксама з елкі і травяным акрыцьцём.

2. *Ясенавы вольс* (вольха з ясенам), на ўрадлівых, але менш вільготных месцах.

3. *Бярозавы вольс* на балотных мясьцінах (альховая дрыгва).

„Яловы вольс“ характэрны значнаю прымешкаю елкі, прычым апошняя на 80 проц. па колькасьці пнёў уваходзіць у падлесак і толькі на 20 проц. прымешваецца да пануючай пароды (вольхі).

„Ясенавы вольс“ адзначаецца ад папярэдняга тым, што ясен складае ў ім ад 40 да 60 проц. па колькасьці, прычым ясен разам з вольхаю, утварае пануючы полаг[1]).



„Бярозавы вольс“ характэрны тым, што тутака бяроза нярэдка даходзіць да 6/10 усяго складу дрэвастану; вольха вызначаецца кепскім ростам, травяное акрыцьцё—асака балотная, чароты.

Продукцыя гэткага бярозавага вольсу нізкая, дзякуючы вялізарнай колькасьці вільгаці.

---

У заключэньне мы дазволім сабе сказаць наступнае.

Лясы Беларусі вывучаны вельмі мала. Да вывучэньня прыступілі толькі з таго моманту, калі ў Беларусі адчынілася свая беларуская вышэйшая лясная школа, спачатку, у відзе Ляснога аддзяленьня Беларускага Дзяржаўнага Інстытуту Сельскае і Ляснoе Гаспадаркі ў

---

[1]) Прыкладзеныя зьнімкі дэмонструюць нам адгароджаныя „спробныя плошчы“ Жорнаўскага вучастку Ляснoй Дасьледчай Станцыі.

Менску, яшчэ ў непашыраны Беларусі, а потым, у форме Ляснога факультэту Беларускай С.-Г. Акадэміі ў Горках (Аршаншчына).

Лясны факультэт займаецца ня толькі навучальнай працай, але і дасьледчай.

Каб вывучыць лясы і лясную гаспадарку Беларусі, кожная катэдра вызначае тэмы для дыплёмных прац, і студэнты, разьехаўшыся па месцах, зьбіраюць даныя, закладаюць спробныя плошчы, вымяраюць і інш.

Атрыманыя матар'ялы паступаюць у распараджэньне катэдраў Ляснога Факультэту, які, такім чынам, у хуткім часе зробіцца *„навуковай лясной скарбніцай“* Беларусі.

Гэтым закладаецца фундамант „беларускай лясной навуцы“.

Вялізарная роля прыналежыць і Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыі, якая знаходзіцца цяпер пры Акадэміі і мае пакуль два дасьледчых вучасткі: Горацкі і Жорнаўскі.





**М. Зьбіткоўскі.**

# Сям. Ericaceae—верасавыя. Мучаньнік.

## Aretostaphylos Uva ursi Spr.

З сям'і верасавых (Ericaceae) у беларускай флёры распаўсюджаны наступныя расьліны:

*Журавіна* (Vaccinium Oxycoccus L.). Трапляецца многа па імшарах; красуе з пачатку мая чырвонымі кветкамі. Побач з звычайнай журавінай можна заўсёды спаткаць і яе адмены з дробнымі лісткамі і пладамі (V. Oxycoccus L. var. microcarpa S. D. Hook).

*Чарніца* (Vaccinium Myrtyllus L.)—па сасновых барох, красуе з пачатку да канца мая. Сьцяблы маюць жалабкі, па якіх дажджавая вада і раса сьцякаюць з лісьцяў да галоўнага сьцябла куста і далей да карэньняў.

*Брусьніца* (Vaccinium vitis idaea L.)—па мохавых лясох; красуе з сярэдзіны мая да канца чэрвеня. Лісьці на ніжняй староньцы маюць ямінкі ў выглядзе чорных кропак. У глыбіні кожнай ямінкі знаходзіцца прылада, якая ўсасвае ваду. На ягадах, лісьцях, сьцяблох часта трапляюцца бялявыя пухірыкі—гэта хваравітыя нарасты, якія зьяўляюцца, дзякуючы паразітным грыбком: Exobasidium vaccinii.

*Буякі* (Vaccinium Uliginosum L.)—расьце ў мностве па імшарах і забалочаных лясох. Красуе з сярэдзіны мая да сярэдзіны чэрвеня. Кветкі спачатку глядзяць уверх; у гэты час на іх прылятаюць шасьціножкі (крыжавое запылкаваньне); пазьней, калі запылкаваньне не адбылося, кветкі панікаюць і ў той час пылок высыпаецца з пыльнікаў, трапляе на лычок і запылкоўвае слупок (самазапылкаваньне).

*Багун* (Ledum palustre)—па тарфяных балотах; красуе з сярэдзіны мая да сярэдзіны чэрвеня белымі кветкамі ў выразных суквецьцях. Даўгаватыя лісткі па берагох загнуты ўніз і ніжняя старонка пакрыта бура-шаршавым пушком (абарона ад параваньня). Ад расьліны і кветак ідзе дурманячы пах. Трапляецца гэта расьліна на балотах разам з буякамі. Багун дурманіць, але ў гэтым абвінавачваюць буякі, чаму іх яшчэ завуць „п'яніцаю".

*Імшарніца многалісьцёвая* (Andromeda Polifolia L.). Трапляецца на імшарах разам з журавінаю і тамака, дзе расьце багун. Красуе з пачатку мая да сярэдзіны чэрвеня. Вузкаланцэтаватыя лісьці імшар-

ніцы зьверху пакрыты васковай павалокай, а берагі загнуты ўніз і ніжняя старонка лісьцяў мае белы густы лямец з валаскоў.

*Касандра* (Cassandra Calyculata Don.)—хмызьняк ня рэдкі на тарфяных балотах; красуе на працягу ўсяго мая і другі раз з пачатку жніўня.

*Верас* (Callupa vulgaris Salisb.)—па пяшчаных барох—нярэдка займае цэльныя плошчы. Там, дзе ў глебе адбываецца процэс ападзольваньня (лугаваньне верхніх пластоў і адклады коркі орштэйну на некаторай глыбіні). Красуе ружовымі кветкамі з паловы чэрвеня па кастрычнік. Падвяночак кветкі абхварбаваны ў ружовы колер. З красуючай расьліны пчолы бяруць мёд.

*Мучаньнік* (Aretostaphylos uva Ursi 4 Spr.). Нярэдка трапляецца ў мностве па пяшчаных баравых палянах. Красуе ў маі. Вяночак закрыты валоскамі.

*Азалея* (Rhododendron flavum Don=Azalea pontica L.). Рэдкі хмызьняк, які спаткалі толькі ў двух месцах Мазырскае акругі. Красуе ў маі жоўтымі буйнымі кветкамі. Трапляецца па балотах і на пяшчаных глебах. Цікава было-б вызначыць магчымыя месцы знаходжаньня гэтае расьліны ў іншых мясцох, апроч Мазырскае акругі.



Arctostaphylos Uva ursi (L.) Spreng.

а.-кветка; в-плод; в₁-разрэз папярэчны плода; а₁-разрэз уздоўжны кветкі; г-суквецьце з пладамі.

Усе гэтыя расьліны шматгадовыя хмызьнякі і напоўхмызьнякі (чарніца) з невялікімі цэльнакрайнымі простымі, часта перазімоўваючымі (журавіна) лісьцямі. Гэта нашыя вечназялёныя расьліны. Цікава іх біолёгія. Скураватыя лісьці з васковай павалокай і апушэньнем або, як у вераса, іголкаватыя лісточкі гавораць аб тым, што яны, як і іншыя любячыя сухмень расьліны, добра абараняюць сваю вільгаць ад згубы, нібыта большая іх частка расьце не на вільготнай глебе, а ўва ўмовах нястачы вільгаці. Цікавы адносіны паміж гэтымі расьлінамі і іншымі організмамі. Напрыклад, карэньні журавіны, чарніцы, буяноў, брусьніцы, імшарніцы, багуна і касандры ня маюць валаскоў

для ўцягваньня вільгаці, заместа таго яны бываюць аплецены белым лямцам з грыбных нітак. Грыбы маюць сужывецтва з карэньнямі гэтых расьлін. Таму, напрыклад, чарніца, журавіна і г. д. ня будуць расьці ў садзе, калі апроч іншых умоў ім ня даць балотнай альбо лясной глебы, у якой знаходзяцца патрэбныя для гэтых расьлін грыбы. Кветкі запылкоўваюцца шасьціножкамі, але ёсьць і самазапылкаваньне.

Шырокая распаўсюджанасьць гэтых расьлін на балотах і ў лясох (барох з ягаднікамі) і пяшчаных баравых месцах, звычайных у Беларусі,—робіць гэтыя расьліны настолькі звычайнымі, што вока мінае іх, не затрымліваючы на іх увагі. Але, калі мы пазнаёмімся з гэтымі расьлінамі і іх жыцьцём бліжэй, дык пераканаемся, што самыя звычайныя творы прыроды ня толькі варты нашае ўвагі, але могуць выклікаць вялікую зацікаўленасьць да сябе. Прыгожасьць пабудовы мізэрных на першы пагляд, кветак, нязвычайная прыстасаванасьць гэтых расьлін да знадворных умоў іх жыцьця—усё гэта вельмі цікава для нагляданьняў і вывучэньня, ня кажучы ўжо аб тэй карысьці, якую яны прыносяць чалавеку. Адна з найбольш каштоўных спаміж гэтых расьлін—гэта мучаньнік. Мучаньнік—гэта шматгадовы распасьцёрты напоўхмызьняк, моцна галіністы. Лісьці даўгаватыя адваротна-яйкавідныя (гл. мал.), сеткавата-зморшчаныя, зьверху з бляскам (воск), а зьнізу блядыя. Кветкі ад 3—10 у гронцы. Вяночак белы, на верхавінцы—ружовы. Ніткі тычачак (гл. мал. б) апушаныя, а пыльнікі чорна-чырвоныя. Плод ($в_1$ *в*)—костаўка яскрава чырвонага колеру. Мучаньнік падобны да брусьніцы, але лісьці яго ня маюць кропкападобных залозак (кропак) і плады—сухія мучністыя. Усе расьліны ў сухім выглядзе ўжываюцца для ахварбоўкі скур у чорны і шэры колеры, а таксама для гарбаваньня саф'яну. Сухія лісьці даўкія на смак, але бяз паху, маюць у сабе да 30 проц. галёвага квасу (гарбарнага квасу) і горкую матэрыю—арбутыі, якая ўжываецца ў мэдыцыне. У народнай мэдыцыне ўжываюць, як вяжучае і мочагоннае лякарства, адвар лісьцяў, узятых у пропорцыі гарбаты, вельмі прыемнага смаку.

Збор адбываецца ў часе красаваньня, з мая. Сушаць—у цяньку. Пры зборы трэба клапаціцца аб тым, каб ня зьнішчаць усяе расьліны, а заўсёды пакідаць частку, каб яна не пераводзілася. На адпаведных месцах—баравых палянах—яе пажадана было-б разводзіць, кідаючы дасьпелае насеньне, узятае тамака, дзе расьце гэтая расьліна. У школах яе няцяжка завесьці, пасадзіўшы насеньне ў гаршчкох з пяшчанаю альбо верасаваю зямлёю. Дасьпелыя плады пажадана зьбіраць для насеньня.

На мучаньнік ёсьць значны попыт, як на лекавую і гарбарную расьліну і было-б вельмі пажадана сабраць весткі аб яе колькасным (шмат, мала, рэдка) распаўсюджаньні. Гэта важна таму, што Беларусь зьяўляецца дастатчыкам гэтае расьліны на рынку лекавых траў.



М. Зьбіткоўскі.

# Menyanthes trifoliata L. (Вахта, бабок).

У большай частцы Беларусі па балотах, берагох рэк і канаў, па вільготных мясьцінах трапляецца часта ў значнай колькасьці шматгадовая расьліна з сям'і гарачаўкавых (gentianaceae) з ляжачымі вузлаватымі сьцяблямі зялёнага колеру. Ад зялёнага парожняга ўнутры сьцябла (сьцябло-кораня), таўшчынёю ў мезены палец, адходзяць дадатковыя карэньчыкі. З паловы мая і ў чэрвені пачынаецца красаваньне бабка [1]). У тым месцы сьцябла, дзе прымацоўваецца ліст, падымаецца стрэлка з гронкаю белых, ледзьледзь ружаватых кветак. Пяць кветкалісьцікаў вяночка на сваім нутраным баку касматыя; у тычачак ніткі белыя, а пыльнікі бурага колеру, слупок з шыйкаю і дзьвюхлопасным рыльцам. Плод—кулявідная пушачка з буйным гладкім насеньнем.

Лісьці бабка маюць у сабе горкую матэрыю, якая дапамагае траўленьню. З іх гатуюць экстракт у ваптэках. Бабок ужываецца ў народнай мэдыцыне.




Menyanthes trifoliata L.

*а*) кветка *в*) слупок *в*) плод.

Збор лісьцяў адбываецца ў часе красаваньня. Лісьці сушаць у цяньку пад паветкаю. На 100 частак сьвежых лісьцяў атрымліваецца 22 часткі сухіх. Сухія лісьці павінны захаваць свой колер—пачарнелыя і пакрышаныя нягодны.

Нутраны попыт на сухія лісьці гэтае расьліны—прыблізна вышэй за 2.000 пудоў штогодна.

Разьвесьці гэтую расьліну лёгка, раскідаўшы кавалкі жывых сьцяблоў на адпаведных месцах.

---

[1]) Каля Менску зарасьнікі яго можна бачыць блізу саўхозу Сьляпянкі і Хінусава.



**В. Полянская.**

# Бяроза прысадзістая.

Усяму насельніцтву Беларусі добра вядомы нашыя бярозы—высокія дрэвы з белай карою і доўгімі зьвіслымі кветкавымі каткамі. Але мала хто з тых, хто не займаўся ботанікай, ведае бярозу прысадзістую (Betula humilis Schrk.), якая бывае толькі ў выглядзе хмызьняку 1—1½ мэтры вышыні і расьце выключна на балотах. Ад звычайных бяроз—дрэў—яна адрозьніваецца ня толькі малою вышынёю і ценкасьцю пня, але таксама колерам кары, формаю лісьцяў і знадворным выглядам каткоў. Кара прысадзістай бярозы ня белая, а бурая і пакрыта бародаўкамі; лісьці яе эліптычнай формы і невялікія, а каткі яе кароткія і таўстыя і ня зьвісаюць, а тырчаць на галінах амаль што простастаўна. „Каткі“ бярозы—гэта суквецьці. Кветкі яе бываюць двух радоў—мужчынскія і жаночыя. Кожная мужчынская кветачка складаецца з групы тычачак, пакрытых некалькімі лусачкамі; кожная жаночая кветачка—з трох слупкоў, пакрытых аднэй патройнай лусачкай. У вадных каткох сабраны толькі мужчынскія кветачкі, у другіх—толькі жаночыя. І тыя і другія каткі знаходзяцца на адным паасобніку расьліны. Такім чынам, кветкі бярозы прысадзістай зьяўляюцца аднаполымі і аднадомнымі. Пабудаваны яны, як мы бачылі, вельмі прымітыўна і, замест каляровага вяночка і падвяночка, якія бываюць шмат у якіх расьлін, маюць толькі мізэрныя лусачкі.

Бяроза прысадзістая расьце ў нас выключна на балотах і разьмяркоўваецца па тэрыторыі Беларусі вельмі няроўнамерна: месцамі яе бывае вельмі многа, а месцамі на вялікіх прасторах яе зусім не спаткаеш. Вельмі цікавы малюнак прадстаўляе яе ўсясьветнае распаўсюджаньне. Яна раскідана амаль што па ўсёй земнай кулі, але не бесьперарыўна, а паасобнымі астравамі альбо плямамі. Гэткімі астравамі ў Эўропе зьяўляюцца: 1) Альпы, 2) Паўночная Нямеччына і Сярэдняя Расія і 3) Паўднёвы Урал. Апроч таго, бяроза прысадзістая трапляецца ў Сібіры і ў Паўночнай Амэрыцы. Ботанікі лічаць гэтую расьліну за вельмі старажытную і некалі шырака распаўсюджаную па ўсёй земнай кулі; потым яна павымірала на вялікіх абшарах і засталася толькі ў выглядзе пяці вялікіх астравоў распаўсюджаньня.

Беларусь ляжыць у „нямецка-расійскай“ краіне распаўсюджаньня прысадзістай бярозы. Падобна на тое, што гэтая краіна распаўсюджаньня таксама не бесьперарыўная, а, у сваю чаргу, таксама падзяляецца на рад больш дробных „астраўкоў“. Таму вельмі важна ў мэтах складаньня гео-ботанічнае карты Беларусі, вызначыць дакладна тыя мясцовасьці, дзе трапляецца прысадзістая бяроза.




Бяроза прысадзістая, Betula humilis: 1) галіна з дасьпелымі жаночымі каткамі (пладамі); 2) галіна з жаночымі кветкавымі каткамі; 3) галіна з мужчынскімі кветкавымі каткамі; 4) мужчынская кветка; 5) жаночая кветка.



М. Грамыка.

# Геолёгічныя матар'ялы і краязнаўчыя гурткі.

*(Лекцыя, читаная па радыё ў Менску 27 мая 1926 г.).*

Для кожнага краязнаўчага аб'яднаньня пытаньні географічных асаблівасьцяй яго раёну, як і пытаньні геолёгічнай будовы тэй часткі земнае кары, на якой стаіць даны раён—павінны быць першымі крокамі ў яго рабоце.

Без знаёмства з географічнымі асаблівасьцямі раёну ня можа быць навуковага дасьледваньня ні мінуўшчыны, ні сучаснай гаспадаркі, ні дасьледваньня далейшых магчымасьцяй экономічнага разьвіцьця данага раёну.

Але географічныя асаблівасьці—рэльеф (выгляд паверхні зямлі), разьмяшчэньне рэк, узгоркаў, лугоў і лясоў, урадлівасьць глебы і гушчыня залюдненьня—усё гэта стаіць у прычыннай залежнасьці ад геолёгічнае будовы зямлі.

Тут мы і спынімся якраз на способах зьбіраньня геолёгічнага матар'ялу і на некаторых геолёгічных рысах нашае краіны. У большасьці выпадкаў геолёгічная будова мясцовасьці схавана пад двума пакровамі, якія ляжаць адзін на адным: 1) пакроў расьлінны, іначай глебавы пакроў (верхні) і 2) пакроў з продуктаў выпятрэньня тых парод, якія складаюць даную мясцовасьць.

Мы можам рабіць геолёгічныя нагляданьні толькі там, дзе гэтыя два пакровы выдалены альбо натуральна (прыродай), альбо штучна (чалавекам).

Мы называем такія месцы *абгаленьнямі* і адзначаем: *прыродныя абгаленьні*—берагі рэчак, схілы ўзгоркаў і раўчакоў—і *штучныя абгаленьні*—яміны для калодзежаў і скляпоў, яміны на гліну, пяскі і на розныя карысныя каменьні, яміны і канавы пры пракладцы вуліц і дарог, чыгуначныя выемкі і г. д.; з даследаваньня па магчымасьці ўсіх падобных абгаленьняў як прыродных, гэтак і штучных, мы і павінны распачынаць геолёгічнае апісаньне нашага раёну.

На геолёгічную экскурсію трэба браць з сабой наступныя прылады: 1) геолёгічны малаток з добрай сталі, вагой каля 250 грамаў; з аднаго боку ён павінен быць чатырохкутны, з другога—мець лязво;

2) добрую, але лёгкую рыдлёўку; 3) тонкі, але моцны шпагат з намечанымі на ім праз вузялкі мэтрамі і сантымэтрамі; 4) запісную кніжку (лепш з цьвёрдай вокладкай); 5) хімічны аловак; 6) некалькі аркушоў газэтнай паперы (на ўпакоўку кавалкаў парод); 7) да дзесятку невялічкіх, ня болей 10 сантымэтраў вышыні, торбачак (для набіраньня сыпкіх парод); 8) добра таксама мець маленькі компас. Знашоўшы тое ці іншае абгаленьне, трэба раней за ўсё занатаваць у кніжку, па магчымасьці дакладна, яго географічнае месца: акруга, раён, вёска; затым, каля якога шляху, якой рэчкі, хутара, сядзібы, фабрыкі, мосту і г. д.—і на якой адлегласьці ад гэтых вядомых пунктаў нашае абгаленьне. Адлегласьць можна вымяраць і крокамі, перавёўшы іх пасьля больш дакладна ў мэтры і кілёмэтры. Калі ў экскурсіі некалькі чалавек, добра, каб заняўся гэтымі вымерамі хто-колечы адзін з удзельнікаў, прыстасаваўшы для аднастайнай меры сваю хаду. Кожнае абгаленьне занатоўваецца пад асобным нумарам.

З прычыны таго, што і прыродныя і штучныя абгаленьні звычайна бываюць парушаны living рознымі апоўзкамі, засыпаны па схілах зямлёй, прыходзіцца рабіць так званую „зачыстку“. Дзеля гэтага робяць рыдлёўкай стромкі, старчовы зрэз абгаленьня, шырынёй каля мэтру (можна і вузей), пачынаючы згары так, каб мець зусім сьвежую сьценку ўсіх парод. Калі абгаленьне (бераг рэчкі, роў, яміна) нявысокае, у дватры мэтры, і само-па-сабе стромкае, то зрэз можна рабіць адзін, бесьперарыўна згары да самага споду. Калі абгаленьне досыць высокае і засыпана грубым пластом апоўзкаў, зрэзы робяць прыступкамі. Уся зачыстка тады будзе мець выгляд вялізнага ганку, але вышыня кожнае прыступкі, як і шырыня яе, залежаць ад грубіні тых пластоў земных парод, якія тут выходзяць. Трэба каб кожная прыступка прарэзала цалкам адзін які-небудзь (калі ён грубы) або некалькі (калі яны ценкія) пластоў парод і дайшла да наступнага ніжняга пласту. Тады на гэтым пласьце робіцца роўны паземны пляцок і зразаецца новая прыступка, пакуль ня будзе пройдзены да канца і гэты пласт і ня будзе закрануты новы і так, па магчымасьці, да самага споду (да рэчкі, да дна раўчаку, ямы).

Цяпер запісваем абгаленьне па зачышчаным зрэзе і бярэм у торбачку (або ў паперу) узоры кожнае пароды, кожнага асаблівага пласту, пачынаючы згары. У кожную торбачку разам з пародай укладаем квіточак з нумарам узору. Вось прыклад запісу: Абгаленьне № 2. Правы бераг р. Птыч каля в. Гайнічы.

1. Перагнойны пласт. Грубіня 12 см. (Узору глебы можна ня браць).

2. Пласт ледавіковай, цагельнага колеру гліны. Грубіня... $1^1/_2$ м. Узор № 8. Гліна залягае пластом на значнай пrasторы па правым беразе р. Птычы, пад усёй вёскай Гайнічы. Сярод гліны трапляюцца ледавіковыя каменьчыкі ад макавага зерня да гарохвіны.

Мясцовае насельніцтва саматужным спосабам вырабляе з гэтай гліны цэглу.

3. Непасрэдна пад глінай залягае пласт белага, адборнага пяску. Грубіня... $1—1^1/_2$ м. Узор № 9.

Пясок складаецца з кварцавых белых дробных зярнят, з уключэньнем рэдкіх чорных зярнят такой-жа велічыны. Пласт пяску залягае неаднолькавай грубінёй, выкліньваючыся ўгару па плыні рэчкі, на адлегласьці ад зачысткі ў 125 крокаў.

4. Пясок падсьцілаецца шэрай вільгатнай у верхніх горызонтах глінай. Грубіня невядома, бо пласт уходзіць пад узровень рэчкі. Узор № 10.

Гліна тлустая, плястычная (з вадой дае вязкую масу), без каменьчыкаў. І гэтак, прыблізна, апісваць далей. Якія пры гэтым могуць вынікнуць запытаньні, можна знайсьці ў брошуры Б. К. Тэрлецкага— „Кароткая інструкцыя для зьбіраньня вестак аб глінах, пяскох і г. д.“ адбітак з часопісу „Наш Край“ № 2—3.

Карысна бывае зарысаваць і нават замаляваць каляровымі алоўкамі абгаленьне. Чырвоны і сіні аловак заўсёды варта мець з сабой.



Дняпро. Правы бераг.

Кожны пласт і пароду зарысоўваюць асобнымі ўмоўнымі значкамі, напрыклад, пяскі—кропачкамі; гліна аднародная—кароткімі рысачкамі; гліны пескаватыя—рысачкамі з кропкамі; каменьні ледавіковыя—няправільнай формы плямінкамі і г. д.

Калі зрыў берагу рэчкі або раўчаку дае аднолькавы малюнак на значнай адлегласьці, новых зачыстак можна не рабіць; але пры кожнай зьмене малюнку, нават самай, здавалася-б, нязначнай, варта спыніцца і зрабіць новую зачыстку і новае апісаньне.

Геолёгічнае абсьледваньне раёну трэба весьці ў адным якім-небудзь кірунку, уздоўж рэчкі, напрыклад, адхіляючыся ўбок ад рэчкі, толькі па тых раўчакох, якія ўпадаюць у гэтую рэчку, і робячы тады па гэтых раўчакох такія-ж самыя зачысткі і запісы, як і па берагох рэчкі.

Абсьледваўшы свой раён у вадным кірунку, можна пасьля абраць другі, напрыклад, паралельны першаму, па іншай рэчцы, або ўзяць кірунак, пэрпэндыкулярны да першага. Два-тры геолёгічныя маршруты ў адным кірунку, два-тры ў пэрпэндыкулярным,—дадуць ужо сетку геолёгічных нагляданьняў данага раёну. Робячы нагляданьні ўздоўж рэчкі, надзвычайна практычна і выгодна карыстацца чоўнам, што дае магчымасьць адначасна абследваць абодвы берагі. Човен дае магчымасьць, побач з абсьледваньнямі берагавых абгаленьняў, рабіць і іншыя геолёгічныя і фізыка-географічныя работы—вымяраць шырыню рэчкі і глыбіню яе, скорасьць плыні, рэльеф дна і г. д. Рэльеф дна, між іншым, можна досыць лёгка вызначыць так: па працягнутым праз рэчку і прымацаваным канаце, на роўных адлегласьцях, адзначаных вузялкамі (праз мэтр, поўмэтра), спускаюць так званы „лінь" (пляцёную, але ня скручаную вяроўку) з торбачкай на канцы, напоўненай пяском або каменьнем. Лінь апускаюць да дна рэчкі каля кожнага вузла па канаце і адзначаюць глыбіню ў гэтым месцы. Пасьля на паперы можна па запісах вырысаваць профіль дна рэчкі.

Абраны маршрут ніколі ня можа быць простай лініяй—гэта будзе альбо рэчка, альбо роў, дарога і г. д., з пераменчывым на рознай адлегласьці кірункам. Каб адзначаць усе гэтыя зьмены ў кірунку шляху дасьледчыка, і служыць компас.

Компасам карыстаюцца так. Абраўшы які-небудзь пачатковы пункт для досьледаў, напрыклад, млын, мост, хутар і г. д. занатоўваюць яго ў запісную кніжку. Затым, стаўшы тварам па абраным шляху (уздоўж берагу, уздоўж дарогі), шукаюць на ім які-небудзь выразны пунк (дрэва, хату, камень), ад якога шлях мяняе свой кірунак, тады „візіруюць" компасам, трымаючы яго перад вачыма, на гэны выразны пункт так, каб лінія ад вока праз прарэзкі, або шпінёчкі компаса, была паралельнай кавалку абранага шляху (напрыклад, паралельна берагу рэчкі) на нейкай адлегласьці. Тады асьцярожна, не зьмяняючы палажэньня компаса (ён павінен стаяць горызонтальна і стрэлкі вольна хістацца), заўважваюць, на якім градусе спыняецца нарэшце (пасьля некаторага хістаньня) *паўночны* (чорны) канец стрэлкі. Занатоўваем градус і пачынаем мерным крокам адмяраць адлегласьць ад пачатковага пункту (мосту, хаты) да абранага намі другога пункту (дрэва, каменя).

Лепш, каб крокі лічыў адзін хто, а нагляданьні розныя па дарозе занатоўваў другі. Дашоўшы да абранага пункту, дзе шлях (або рэчка) выразна мяняе кірунак, лічбар голасна выклікае лік крокаў, а той, хто з компасам, занатоўвае гэта і пачынае візіраваць компасам па новым кірунку і г. д.

Ня цяжка ўцяміць, што калі паўночны канец стрэлкі стаіць, напрыклад, на 270°, то, значыцца, даная частка нашага шляху мае кірунак з *заxаду на ўсход*. Калі паўночны канец стрэлкі стаіць на 90° вы кіруецеся з *усходу на захад* і г. д. Гэтыя меркаваньні можна зрабіць ужо дома і тады можна заняцца і папраўкай палявога, накіданага насьпех пляну вашага маршруту.

Звычайна, у дзень можна прайсьці геолёгічным маршрутам ад 7 да 12 вёрст, залежна ад колькасьці абгаленьняў і іншых нагляданьняў.



Роў каля вёскі Кабелякі ў 6 кл. ад Воршы.

Увесь геолёгічны матар'ял разьбіраецца і разьмяшчаецца ў раённым краязнаўчым музэі. Кожнаму ўзору пароды адводзіцца асобая картонная пушачка (можна скарыстоўваць пушачкі ад папярос), на якой наклейваецца этыкетка з назвай і адрэсам узору, датай геолёгічнай экскурсіі і іншымі нататкамі.

Узоры каменьняў павінны мець з усіх бакоў „сьвежыя“ паверхні злому, дзеля чаго і выкарыстоўваецца геолёгічны малаток; каменьні павінны быць, па магчымасьці, аднаго памеру, напрыклад, 10 см. даўжыні, 7 см. шырыні і 2 см. грубіні.

У музэй паступае і дзеньнік запісаў, і малюнкі, і пляны,—усё гэта можа быць надзвычайна каштоўным матар‘ялам пры больш дэтальным, сталым абследваньні раёну, можа значна палегчыць работу геолёгаў і з‘экономіць сродкі досьледаў.

Трэба адкінуць старую байку аб тым, што ў нас „няма чаго зьбіраць,—толькі пяскі ды гліны“. Папершае, пяскоў і глін у нас надзвычайная рознастайнасьць; падругое, багата якія з пяскоў і глін маюць важнае практычнае значэньне; патрэцяе, ня гледзячы на нібыта аднастайнасьць нашых земных парод, геолёгічная будова багата якіх раёнаў Беларусі таіць у сабе надзвычайную цікавасьць, і да гэтага часу ня высьнена канчаткова геолёгамі.

Вядома, што наш край знаходзіцца пад моцным пакровам ледавіковых і пасьляледавіковых адкладаў, але і адклады гэтыя далёкі яшчэ да поўнага і дасканалага вывучэньня, і кожны раён дае свае, часам надзвычайна цікавыя, асаблівасьці.

Збор, па магчымасьці, усіх парод і разьмяшчэньне іх у музэі па клясыфікацыйных адзнаках (пяскі, гліна, вапнякі і г. д.) і па асобных абгаленьнях у парадку напластаваньня; збор ледавіковага каменьня з палёў (так званых *накідняў*) і поўная колекцыя ўсіх парод і мінэраляў, якія сустракаюцца сярод гэтых накідняў; азначэньне на карце раёну палёў з накіднямі і палёў без накідняў—усё гэта надзвычайна карысная і цікавая работа краязнаўчых таварыстваў на бліжэйшыя гады.

Краязнаўцы сваімі досьледамі могуць даць матар‘ял па такіх, напрыклад, пытаньнях: 1) Наколькі раён быў ахоплены алядненьнем. 2) Які ледавіковы або пасьляледавіковы матар‘ял пераважае. 3) Ці праходзіла і як праходзіла так званая *канцавая морэна*—грудавіны з каменьня глін і пяскоў, якія ледавік пасоўваў перад сабой і якія зараз уяўляюць часам надзвычайна даўгія бесьперарыўныя, як-бы насыпныя крэпасныя ўзгоркі рознай вышыні. 4) Колькі было ў данай мясцовасьці ледавіковых і міжледавіковых пэрыодаў і інш.

Трэба дадаць, што ў нашым краі, апроч ледавіковых парод, ёсьць выхады парод больш старадаўных геолёгічных пэрыодаў. Так, па Меншчыне (раён Койданава, напрыклад), па Калініншчыне і іншых раёнах непасрэдна на даную паверхню выходзяць пласты *крэйдавага пэрыоду* ў выглядзе пісальнай белай крэйды, гляўконітавых пяскоў і іншых парод.

У раёне вёскі „Раванічы“ на Чэрвеншчыне ёсьць выхады зялёнаватых і бурых пескавікоў, якія адносяцца геолёгамі да *кэмбрыйскага* і *сілюрыйскага* пэрыодаў. Што іх падсьцілае, што іх прыкрывае, прастора гэтых выхадаў і плян іх—усё гэта яшчэ не дасканала занатавана.

У раёне Дняпра (ад Воршы да Дуброўны) выходзяць вапнякі і долёміты дэвонскага часу. Гэтыя дэвонскія вапнякі надзвычайна бедныя так званымі *выкапнямі*—адбіткамі жывёлін (молюскаў), якія некалі жылі на Беларусі ў дэвонскім моры. І вось, кожны новы апрабаваны геолёгічным малатком кавалак такога вапняку можа даць выпадкова надзвычайна цікавую і каштоўную для навукі вынаходку. А колькі яшчэ можа быць занатавана краязнаўцамі новых выхадаў?

А нашыя ледавіковыя гліны? Ды ў іх-жа могуць быць знойдзены (і знаходзілі ўжо ня раз) касьцякі маманта, пячэрнага мядзьведзя, вялізарнага лася, і нават самога першабытнага чалавека!

Для пачатку знаёмства з геолёгіяй можна раіць кніжку І. Вальтэра „Начаткі геолёгіі“. Пераклад з нямецкая мовы Носкова.

Гісторыя геолёгіі ведае і выпадковыя вынаходкі неспэцыялістых, якія рабілі пераварот у навуцы. І вучань пачатковае школы і профэсар унівэрсытэту ў сваёй дасьледчай працы толькі розныя прыступкі адзінае па сутнасьці лесьвіцы навуковае работы.

Хто хоць раз пераждыў асалоду зрабіць якую-небудзь вынаходку, альбо пасьля дню здаровае экскурсіі, надыхаўшыся сьвежага паветра, сабраць геолёгічную колекцыю, той заўсёды ўжо будзе імкнуцца да гэтага. Але той, хто зьбірае каштоўнасьці прыроды, павінен умець падзяліцца імі з іншымі людзьмі.






Зм. Даўгяла.

# Крашаніна, набойка і выбойка [1]).

I.

Пад такімі назвамі да XX сталецьця ў Беларусі існавалі вырабы ахварбовачнай прамысловасьці. Майстэрні гэтага рамяства мелі значнае пашырэньне ў мястэчках і гарадох усходняй Беларусі. Вырабы іх былі вельмі пашыраны сярод сялян.

У мінулым 1925 годзе Віцебскім Акруговым Краязнаўчым Бюро былі надрукаваны дзьве працы па гэтым пытаньні. Спачатку кніжачка І. П. Фурмана пад назвай: *„Крашаніна. Матар'ялы да гісторыі яе ў Віцебшчыне“* (16°, ст. 35+15 табліц). Хутка гэта праца вышла і ў другім выданьні. За ёй была надрукавана і другая праца па гэтым самым пытаньні — А. Шлюбскага — *„Крашаніна (набіванка)“* — (1926 г. 16°, ст. 17+6 табліц).

Абодвы аўтары добра аднесьліся да закранутага пытаньня. Паклалі яны шмат працы на тое, каб адшукаць па гарачых слядох, што толькі можна яшчэ было ў Віцебшчыне аб сінельніках-крашаніньніках і іх прамысловасьці. Апроч таго, Фурман скарыстаў тыя сінельныя набіўныя дошкі, якія захоўваюцца ў Віцебскім музэю. А. Шлюбскі сам зьбіраў гэткія дошкі. Трэба, аднак, заўважыць, што ўсе гэтыя дошкі-клішэ для друкаваньня набойкі—маюць адно пахаджэньне: яны знойдзены на Віцебшчыне.

Можна шчыра рэкамандаваць названыя дзьве кніжкі кожнаму, хто цікавіцца нашым саматужным сінельна-набіўным рамяством, якое зьнікла ў нядаўны час на Беларусі.

Аднак, абодвы аўтары не абмежаваліся адным матар'ялам, які сабралі ад навочных сьведкаў гэтага саматужніцтва.

Фурман зьбіраў і літаратуру аб гэтым цікавым пытаньні. Ён пазнаёміўся з поглядам былага ў 1860—1870-х гадох загадчыка Віцебскага Статыстычнага Камітэту Семянтоўскага, які катэгорычна заяўляе, што беларус наагул ня ведаў крашаніны і што яна занесена з Масквы. Фурман згаджаецца з гэтым поглядам.

Але сам Фурман, здаецца, лічыць „набойку“ беларускай па малюнках (ст. 14—15, 30).

[1]) Малюнкі зроблены з набоек і пячаткі з колекцыі А. Шлюбскага.

Шлюбскі таксама хістаецца ў сваіх поглядах. Беларусы павінны былі пераняць друкаваньне палатняных вырабаў з усходу... І зараз-жа зьвяртае ўвагу на Францыю, якая ў XVII сталецьці была асяродкам ахварбовачна-друкавальнага мастацтва. Мала гэтага. Шлюбскі занадта падкрэсьліў той гістарычны факт, што французскія гугэноты (кальвіністыя), ратуючы сваё жыцьцё і ўцякаючы з Францыі пасьля 1685 г., разьбегліся па ўсіх кутках сьвету (ст. 6—9).

Шлюбскі пры гэтым высоўвае такі тэзіс: з пэўнасьцю можна казаць, што мастацтва друкаваньня тканіны перш зьявілася не ў маскоўцаў (як гэта сьведчаць маскоўскія вучоныя), а на Беларусі, што вельмі важна для выяўленьня культурнага беларускага ўплыву на разьвіцьцё этнографічнай Расіі (ст. 13).

Шчыра вітаем абедзьве працы, Фурмана і Шлюбскага, па адным з вельмі цікавых пытаньняў народнага Беларускага мастацтва. Для маладых дасьледчыкаў гэта будзе добрым прыкладам у далейшай працы. Толькі няхай яны не лянуюцца пашукаць на беларускіх мястэчках, якнайболей набойных прылад і ўспамінаў аб „сінельніках“ і іх „сінельнях“.

З свайго боку просім усе краязнаўчыя бюро і гурткі і паасобных сяброў зьбіраць на мясцох (па мястэчках і гарадох) матар'ялы аб гэтым рамястве. З дапамогай усяго назьбіранага можна будзе даць усебаковае высьвятленьне „сінельнай“ прамысловасьці, што мае вялікую навуковую каштоўнасьць, як можна заўважыць з далейшага.



II.

Паміж надрукаваных актаў да гісторыі Магілеву ёсьць адзін статут брацтва цэху „крашаніньнікаў“, складзены ў Магілеве 23 сьнежня 1647 году (Историко-Юридические материалы, извлеченные из актовых

книг губерний Витебской и Могилевской, т. X. Витебск 1879 г., стр. 234—237).

Вызначаны статут, або парадак „крашаніцкага цэху“ ў сваіх сямі артыкулах мае такі зьмест:

Сябры крашаніцкага цэху павінны быць паслухмянымі ўладзе і паміж сабой—у братэрскай міласьці і сталай згодзе (арт. 1).

Паміж сабой сябры цэху абіраюць на агульным сходзе старшыню на адзін год. Гэты старшыня павінен узгадняць усе справы, якія будуць належаць да крашаніцкага рамяства, а таксама наглядаць за належнай якасьцю продукцыі: каб кожны з брацьцяў ужываў да крашаніны добрую хварбу, а ня дрэнную і фальшаваную, пад страхам кары ў пяць грывен за кожнае злоўжыцьце (арт. 2).

Ніхто з сяброў цэху не павінен рабіць другому ані ў набыцьці матар‘ялаў, ані ў продажы вырабленага тавару ніякой перашкоды пад штрафам таксама ў суме пяці грывен (арт. 3).

Калі-б хто з вёскі, або прыбылы адкуль-небудзь з другога места, або тутэйшы Магілеўскі мешчанін, пажадаў займацца „крашаніцкім рамяством“ і ім зарабляць сабе хлеб, то дазвол, каб займацца гэтым рамяством, яму даецца толькі пры наступнай умове: а) ён павінен умовіцца з цэхам аб прыйме яго ў сябры брацтва; б) уплаціць у брацкую скрынку суму, якая будзе вызначана брацтвам; в) упісацца ў брацкі цэхавы рэестр і г) абавязацца выконваць належныя паслугі гэтаму цэху (арт. 4).

У выпадку, калі прыбылец, або хто з даўных сяброў цэху будзе абвінавачаны ў патайнай працы, то ўвесь тавар у яго адыймаецца: адна палова—суду, а другая—на карысьць цэху (арт. 5).

Ніводзін з сяброў цэхавых, пад страхам штрафу, не павінен перашкаджаць жанчынам,—рамесьніцам і перакупшчыцам,—якія хвар буюць самі шнуркі і пасы,—у выраблянні, у продажы і таксама і ў набыцьці хварбаў, якія патрэбны для гэтых пасаў і шнуркоў. А калі-б хто пажадаў-бы аддаць для ахварбаваньня пасы і шнуркі якому з сяброў цэху за ўмоўленую плату, то кожны павінен прымаць без усялякага адмаўленьня (арт. 6).

Цэху крашаніньнікаў дазваляецца ўжываньне і карыстаньне з статутаў іншых цэхаў тымі артыкуламі, якія мелі-б адносіны да брацтва крашаніцкага рамяства і былі-б яму пажытачны і патрэбны (арт. 7).

З прыведзенага статуту мы бачым, што ўжо да 1647 году ў Магілеве існавала, як паасобная галіна саматужнага промыслу—рамяство *„крашаніцкае“*, або *„крашаніціцкае“*. Ім займаліся Магілеўскія мяшчане. Паводлуг свайго промыслу-рамяства яны мелі паасобную назву „мяшчане-крашаніньнікі“.

Бязумоўна, што гэта галіна саматужніцтва зьявілася ў Магілеве ня раптам у 1647 г. Яна і тагды ўжо была здаўна існуючай, старым рамяством у Магілеве.

Але толькі ў 1647 годзе спэцыялістыя крашаніньнікі Магілеўскія згуртаваліся ў брацтва, або цэх.

Гэта згуртаваньне было, бязумоўна, выклікана прыкладам іншых галін саматужнага рамяства і наагул экономічнымі ўмовамі часу, які прымусіў крашаніньнікаў стаць вышэй за штодзённую традыцыю і руціну.

У тым-жа дакуманце знаходзім некалькі іншых рысак, якія высьвятляюць нам адну дэталь: лік крашаніцкіх майстэрань у Магілеве ў пачатку 1647 году.

Тут даецца паасабовы пералік Магілеўскіх мяшчан-крашаніньнікаў, вось у якім выглядзе: 1) Аксён Федаравіч,
2) Васька Федаравіч,
3) Радзька Сапронавіч,
4) Арцём Васькавіч,
5) Федар Аксёнавіч,
6) Іван Радзькавіч,
7) Ільля Аксёнавіч,
8) Іван Васькавіч,
і 9) Ардрэй Васькавіч.

На жаль, гэтыя дзевяць асоб запісаны бяз прозьвішчаў іх.

Але ўсё-ж можна зразумець, што з гэтага ліку толькі трое (1, 2 і 3) маюць, як-быццам, паасобнае нешта, бо іхняе імя і імя па бацьку дазваляе падзяліць іх на тры паасобныя сямяйствы:

I. Аксёна Федаравіча (1) сыны,—Ільля (7) Федар (5).

II. Ваські Федаравіча (2) сыны Арцём (4), Іван (8) і Андрэй (9).

III. Радзькі Сапронавіча (3) сын Іван (6).

Па нашай думцы, у сувязі з гэтым фамільным разьлікам, у 1647 годзе ў Магілеве было ўсяго тры майстэрні крашаніньнікаў.

Пералічаныя дзевяць асоб і складалі ўсё брацтва, або цэх Магілеўскіх крашаніньнікаў у 1647 г. Падставай для гэтай думкі зьяўляецца адсутнасьць у дакуманце паказаньня, каб названыя дзевяць асоб былі толькі прадстаўнікамі, або ўпаўнаважанымі, якія 23 сьнежня 1647 г. запісвалі ў кнігах Магілеўскага магістрату свой „парадак"—статут. А між тым, у падобных выпадках, калі зьяўляліся ў Магістрат прадстаўнікі дзеля ўпісаньня ў кнігі сваіх „парадкаў", то заўжды запісвалі, што яны паклалі свой парадак (статут) „для актыкаваньня" „самі ад сябе і ўсяе сваёй брацьці" (Ист. Юрид. Мат. т. X, стр. 237, 274, 296 і інш.).

А вось як адзначана ў дакуманце мэта, з якой складзена брацтва-цэх крашаніньнікаў і для яго кіраваньня парадак-статут:

„Мы, крашаніньнікі, мяшчане места Магілеўскага пад зьверхнасьцю і ўладай ратушнай, і пад замкавай юрыздыкай, колькі знаходзіцца нас у тутэйшым месьце, ад малага да большага сабраўшыся на агульны сход, усе згодна і аднагалосна прымаем статут па прыкладу іншых раместваў, якія звычайна кіруюцца сваімі статутамі ў іншых местах і ў тутэйшым Магілеўскім, з тэй мэтай, каб мы самі і нашы дзеці ў патомныя часы маглі кіравацца добрым парадкам у нашым крашаніцкім рамястве і ўзмацняцца". (Ист. Юрид. Мат. т. X, стр. 235).

Такім чынам, ня гледзячы на малы лік Магілеўскіх крашаніньнікаў у 1647 г., яны ўсё-ж злажылі свой паасобны цэх. Арганізавацца прымушае прыклад іншых рамёстваў і забясьпека легальнага існаваньня і разьвіцьця прамысловага дабрабыту.

III.

Усе іншыя вытрымкі з статуту Магілеўскага крашаніцкага цэху накіроўваюць да думкі, каб тэрміны: „крашаніна", „крашаніньнікі", „крашаніцкае рамяство" лічыць, бязумоўна, старымі беларускімі.

Крашаніну можна бачыць у многіх рознастайнасьцях ў беларускіх акруговых музэях, дзе захоўваюцца царкоўныя вопраткі ад XVII—XVIII сталецьцяў (іх ёсьць шмат у Магілеве), а таксама ў тых цэрквах, дзе ёсьць вялізныя малявідлы „страсьцей", якімі закрываліся іконастасы і абразы ў цэрквах на „страсны тыдзень" у старыя часы на Беларусі

Хто цікавіцца крашанінай з „страсьцямі“, можа прачытаць у Запісках Маскоўца стольніка П. Таўстога, які праяжджаў праз Магілеў у 1697, накіроўваючыся з Масквы ў Зах. Эўропу. Пад 31 сакавіка ён



запісаў: „на страстной неделе в Богоявленской церкви Братского монастыря иконостас весь и святые иконы завешаны были крашениною вишневою и по той крашенине писаны страсти Христовы живо, добрым письмом“ (Могил. Старина. Вып. I).

IV.

На падставе ўсяго сказанага нельга згадзіцца з рэдактарам „Віцебшчыны“ М. І. Касьпяровічам, які догматычна высунуў такое тлумачэньня тэрміна „крашаніна“, як-быццам—гэта ахварбаванае палатно з белымі ўзорамі па каляровым полі (Шлюбскі, А.—Крашаніна. Стр. 4—прадмова Касьпяровіча).

Таксама мы лічым, што ні праца Фурмана, ні праца Шлюбскага па сваім зьмесьце не адпавядаюць тытулу, надрукаванаму на вокладцы— „Крашаніна“.—Абодвы, між тым, даюць матар'ялы датычачыя „Набойкі“.

V.

„Набойкай“ называецца крашаніна, на якой надрукаваны, „набіты“ ўсялякія ўзоры: кветкі, расьліны, птушачкі і г. д. пры дапамозе спэцыяльных „набіўных дошак“, на якіх зроблен той, або другі ўзор, выпуклы, з масянжовай бляхі.

Малюнак гэты найбольш рабіўся на сінім фоне белай або жоўтай хварбай. Але мы ня ведаем, каб была такая конструкцыя набівальных дошак, калі ўзор быў неахварбаваны.

„Набойшчыкі“ — гэта „крашаніньнікі“ вышэйшае кваліфікацыі. Яны ня толькі ўмелі ахварбаваць палатно ў адну хварбу, але на гэтым ахварбаваным палатне рабілі яшчэ набойным спосабам, друкавалі малюнак. І чым большы лік такіх „набіўных дошчак“ быў у набойшчыка, тым ён больш меў кліентаў.

VI.

Ужо ў другой палове XIX веку, калі бабаўнянка пачынае выціскаць з ужываньня хатнія тканіны, па гарадох (напр. у Віцебску) зьявіліся хварбоўні, галоўным чынам яўрэйскія, у якіх па белым паркалі выбіваліся (нахварбоўваліся) малюначкі гарошкаў, кветак, кутнічкаў і г. д.

Гэта штучна ахварбаваная паркалёвая тканіна, з белым фонам, называлась выбойкай.

Назва „выбойка“ сустракаецца ў дакумантах XVI сталецьця. Напрыклад, у інвэнтары Менскага Ўзьнясенскага манастыру 27 лістапада 1579 г., які надрукаваны ў „Собрании древних грамот и актов городов Минской губернии“ (Минск 1848 г., № 28, стр. 34). Тут чытаем: *„в олтари престол накрыт выбойкою“*.

Прыймаючы пад увагу, што накрыўка прастолу, як, і царкоўныя „аблачэньні“ рабіліся з тканіны, прыгожай па малюнку, можна лічыць, што „выбойка“ была матар'ялам някепскім па сваім харастве, а можа, і па каштоўнасьці.

Такім чынам, назва „выбойка“ таксама ўжывалася і была добра вядома на Беларусі ў даўнія часы.

Гэта павінна зьвярнуць на „выбойку“ пэўную ўвагу дасьледчыкаў беларускага мастацтва.

VII.

Вядома назва „выбойка“ і Маскоўскай старасьветчыне XVI—XVII ст.

Яе мы, напрыклад, сустракаем у працы Савваітава па вывучэньні старарускага быту: *„фата цветная выбойка Турская“*.

Відаць,—гэта тонкае палатно, па якім быў выбіты нейкі малюнак. Як малюнак, таксама і выраб маюць тутака назву *Турскае*.

Паўстае пытаньне: ці не павінны мы бачыць у гэтым прыклад турэцкага, усходняга рамяства?

А калі гэта так, дык ці ня будзе больш правільным шукаць пахаджэньне *выбойкі*, а таксама і *набойкі* на ўсходзе, з якім Беларусь мела ў старыя часы бязумоўную сувязь у ткацкім рамястве?







Ал. Шлюбскі.

# Беларуская мова арабскай транскрыпцыяй.

Татары, якія з XIV сталецьця жывуць у нас на Беларусі (на Меншчыне, Віленшчыне і Горадзеншчыне), к XVI ст. настолькі зьбеларусізаваліся, што страцілі нават сваю мову і іх рэлігійныя абрады пачалі адбывацца па кнігах пісаных *беларускай мовай, але арабскімі літарамі*.

Лічыцца, што гэтае, вельмі цікавае ў быце народу, здарэньне адбылося з прычыны таго, што татарам (асабліва забраным у няволю) не дазвалялася мець з сабой жанчын свайго народу і яны прымушаны былі жаніцца з беларускамі (а тыя, якія знаходзіліся ў Літве і Польшчы—з літоўкамі і полькамі). Гэта і было галоўнай прычынай зьнішчэньня татарскай мовы, бо маткі гаварылі і навучалі сваіх дзяцей на сваёй беларускай мове, а сполёнізаваныя—на полскай, а не на невядомай ім татарскай.

Але, ня гледзячы на гэта, татары канчаткова з беларускім народам не асіміляваліся, яны і па сягонешні дзень захавалі свой асобны этнографічны тып.

Наагул быт беларускага народу меў вялікі ўплыў на іншыя народы, якія на працягу больш-менш доўгага часу жылі разам з беларусамі. Так, апроч прыведзенага прыкладу ўплыву беларускае культуры на татар—трэба адзначыць гэты ўплыў і на гэбрэяў, якія ў старадаўныя часы, падобна татарам, пісалі *пабеларуску гэбрэйскімі літарамі.* [1])

І калі ва ўжываньні гэбрэйскай транскрыпцыі ў адносінах да беларускай мовы мы ня маем нічога дакладнага, нічога стала выяўленага,

[1]) З. Бядуля. Рукапіс чорнакніжніка XVIII веку. „Вольны Сьцяг", 1921, № 5. Гэбрэі ўвялі шмат беларускіх слоў у сваю мову і наадварот. (З. Бядуля, Жыды на Беларусі. Менск. 1918), і ўжо ў XV ст. перакладалі свае біблійныя кнігі на беларускую мову. (В. Ластоўскі, Гісторыя беларускае кнігі, Коўна, 1926. стар. 14, 241—243, 396—398. Е. Карскій, Белорусы, III, 2, стар. 18—21); кнігі гэтыя пісаліся кірыліцай, але з часам у наступныя сталецьці пры пісьме пабеларуску пачала ўжывацца і гэбрэйская транскрыпцыя. Пытаньне гэтае зусім новае і нікім яшчэ не дасьледванае, мае вялікую бытавую значнасьць пры выяўленьні культурных узаемаадносін і ўплываў паміж беларусамі і гэбрэямі.

дык ў адносінах ужываньня арабскай транскрыпцыі ёсьць большыя навуковыя дасягненьні.

Вядома, што татары пісалі пабеларуску арабскай транскрыпцыяй цэлых два сталецьці:—XVI і XVII.

У 1857 г. проф. А. Мухлінскі, які быў паходжаньнем з Беларусі, адзначаў, што кніжак, напісаных пабеларуску арабскімі літарамі такі значны лік, што з іх можна скласьці цэлую бібліотэку (А. Мухлінскій, Изслѣдованіе... стр. 29), але дзякуючы таму, што ў XVIII ст. полёнізацыя, якая значна павялічылася пачала выцясьняць беларускую мову і замяняць яе польскай, рукапісы, пісаныя пабеларуску арабскай транскрыпцыяй, пачалі зьнішчацца, рабіліся рэдкімі (Е. Карскій, Бѣлорусы, т. III, в. 2, стр. 239), а І. Луцкевіч ледзь-ледзь знаходзіць 1 паасобнік, (Луцкевіч, Ай-Кітаб „Наша Ніва“, 1920). У навуцы вядома ўсяго толькі сем такіх рукапісаў: 4 знаходзяцца ў бібліотэцы Ленінградзкага Унівэрсытэту, 1—у музэі Луцкевіча (Вільня) у сучасны момант ён пера-транскрыбоўваецца ў Празе Я. Станкевічам і М. Тауэравай, 2—у Лейпцыгу ў музэі Ябланоўскіх, (Ластоўскі, Гісторыя беларускай кнігі, стар. 13) ды 1 адрывак, выдрукаваны ў досьледзе А. Мухлінскага (стар. 66—68).

Вось і ўсё. А між тым навуковая значнасьць помнікаў гэтага роду даволі вялікая, гэта адзначана такімі выдатнымі беларускімі вучонымі і дзеячамі, як акад. Е. Карскі, І. Луцкевіч, В. Ластоўскі і М. Гарэцкі. Найбольшую значнасьць гэтыя рукапісы набываюць 1) для выяўленьня ўзаемных бытавых уплываў паміж беларусамі і татарамі; 2) для нашай беларускай філёлёгіі, бо яны лепш за ўсе іншыя стара-даўнія рукапісы перадаюць беларускае вымаўленьне XVI-XVII ст., як не маглі перадаць дакуманты пісаныя афіцыйнай кірыліцай.

Як прыклад прывяду 2 адрыўкі з кнігі „Кітаб“, запісаныя мной улетку 1923 г. (у прысутнасьці Л. Дашкевіча) у часе этнографічнае падарожы ў мястэчку Узьдзе (Меншчына), якія былі прачытаны мулай мястэчка з кнігі напісанай арабскай транскрыпцыяй.

Адзначу, што паводле маёй просьбы арабскія літары чыталіся бяз зьмен у вымаўленьні гукаў. Гэтым я хацеў праверыць ці можна беларускія гукі запісваць арабскімі літарамі і наколькі дакладна будзе гэтая перадача.

Падобнага роду запісы маглі-б дапамагчы тым дасьледчыкам, якія працуюць над ператранскрыбаваньнем памянёных рукапісаў.

**Адрывак I.**

„Ото—баб і то прыповесь жэвыйся прорак; аднаһо дня ехаў трыма чэлавекамі ему у таварыстве былі. Едучы відзелі пліту злота. Уйся прорак да сваіх таварышаў мувіў: жываты вашы ніхай не квапяцца, ні бярыця—то ест злая рэч; тыя тры чэлавекі не слухалі—засталіся. А ўся—прорак паехаў, а тыя тры чэлавекі аднаһо паслалі да мяста абы купіў жыўнасьці і хлеба і стравы і пілу купіць тую тую пліту злота парэзаць на троя і падзяліць сабе. Каторы паехаў да мяста куповаць хлеба і стравы, то купіў труцізны з хлебам і з стравай памешаў, штоб тыя пад‘елі і памерлі, а яму аднаму засталося, а тыя два намувіліся: „як ён прыедзе, то мы зараз яһо заб‘ём, то нам двум злота застанецца“. Як той прыехаў, то яны яһо зараз забілі, а самі селі есьці. І з труцізнаю пад‘елі і пamарлі. Уся прорак вярнуўшыся на то мейсца абачыў-—ужо яны ўсе тры умерлыя ляжаць“.

**Адрывак II.**

„Кітаб Меўрут ад пана боћа з неба чтэры літэры, чтэры кнігі засланы с прэз дзебраіля; перша кніћа Тэўрыд, літэрамі ћібрэйскімі, дана Мусі прарок; другая кніћа Зебур, літэрамі ћрэцкімі, дана Давыду прароку; трэцьця кніћа Інджыль літэрамі лацінскімі, дана Высю прароку; чварта кніћа Кур-ан, літэрамі арабскімі, дана Мухамеду прароку нашаму“ [1]).

Гэты артыкул мае мэтай зьвярнуць увагу нашых краязнаўчых організацый на зьбіраньне рукапісаў, пісаных пабеларуску арабскімі літарамі, на запісваньне тэкстаў з слоў саміх татар, а таксама на дасьледваньне ўзаемных культурна-бытавых уплываў беларусаў і татар.

Для асоб, якія гэтым зацікавяцца, прыводжу бібліографію літаратуры па закранутым пытаньні.

## Літаратура (аб арабскай транскрыпцыі).


1. **А. Мухлинскій**, Изслѣдованіе о происхожденіи и состояніи Литовскихъ татаръ. Спб. 1857, стр. 29, 66—68.

2. **Е. Карскій**, Бѣлоруссы, т. I, Вильна, 1904, стр. 174—178.

3. **І. Луцкевіч**, Ай-Кітаб-Кіцёп. „Варта“, Менск, 1918, № 1.

4. **І. Луцкевіч**, Ай-Кітаб. „Беларускае Жыцьцё“, 1920, № 6.

5. **І. Луцкевіч**, Ай-Кітаб, Зборнік „Наша Ніва“, Вільня, 1920, стар. 28—32.

6. **Е. Карскій**, Бѣлоруссы, т. III, в. 2, Петроградъ, 1921, стр. 239-240.

7. **Е. Карский**, Белорусская речь арабским письмом, „Учен. Записки Высшей Школы г. Одессы“, Одесса, т. II, 1921 г.

8. **М. Гарэцкі**. Гісторыя беларускае літаратуры, Выд. II, Вільня, 1921, стар. 40—42.

9. **Е. Карскі**, Беларуская мова арабскім пісьмом, „Вестник Нар. Комиссариата Просвещения“, Менск, 1922, № 1 (3).

10. **М. Гарэцкі**. Гісторыя беларускае літаратуры, выд. III, Менск, 1924, стар. 101.

11. **Я. Станкевіч**, Адрывак з Ай-Кітабу, „Крывіч“, Коўна, 1924, № 2 (8), стар. 46—52.

12. **М. Тауэрава** і **Я. Станкевіч**, Апавяданьне з Аль-Кітабу, „Крывіч“, Коўна, 1925, № 9 (1), стар. 69—80.

13. **В. Ластоўскі**, Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі, Коўна, 1926 г., стар. 364—371.


---

[1]) У вадрыўках з кнігі „Кітаб“ націскныя літары набраны курсівам.



# Бюлетэнь надвор‘я ў Беларускай ССР за сьнежань 1925 г.

Вывучэньне сыноптычных карт ДГТ дае падставу для вываду наступных заключэньняў аб стане барычнага рэльефу і агульнага ходу і разьвіцьця дынамічных процэсаў атмосфэры ў Эўропе ў сьнежні 1925 г. Краіна высокага ціску пакрывала сабою Паўночнае Ледаватае мора на ўсход ад Грэнляндыі, уздоўж паўночных берагоў Эўропы і значнай часткі Азіі. Найбольшае разьвіцьцё і найбольшую магутнасьць гэта арктычная (паўночная) краіна мела, відаць, месца каля ўсходніх берагоў Грэнляндыі. Ядры высокага ціску, якія ў гэтым месцы аддзяліліся, ішлі ў большасьці спачатку праз Ірляндыю на поўдзень, часткова захопліваючы заходнія берагі Эўропейскага контынэнту, а затым, праз паўднёва-заходнюю ўскраіну Эўропы заломіста паварачвалі на ўсход і ішлі ўздоўж Міжземнага мора, абумоўліваючы гэтым самым павышаны ціск у крайняй частцы Эўропейскага контынэнту. Краіна высокага ціску пакрывала сабою таксама і паўночна-ўсходнюю частку Азіі.

Астатняя частка Эўропы (увесь амаль контынэнт, а асабліва яго паўночна-заходняя частка) і прылеглая да яе частка Азіі—ляжалі ў краіне зьніжанага ціску. Значыць, уся Эўропейская і Заходняя Азіяцкая частка СССР уяўляла сабою вялізнае поле, куды свабодна маглі трапляць і разьвівацца з паўночнай часткі Атлянтычнага акіяну мінімумы. Пры гэтым, пасоўваючыся адсюль у ўсходнім кірунку, яны, дзякуючы паўночнай краіне высокага ціску, значна зьніжаліся, больш выбіраючы паўднёвыя шляхі.

Паказаныя агульныя падставы барычнага рэльефу ў Эўропе абумоўлівалі сабою тое, што цыклёны, якія ішлі тут у сьнежні, захоплівалі БССР, галоўным чынам, паўднёвай сваёй палавінаю, а антыцыклёны—паўночнай. Натуральна, што гэтыя цыклёны і антыцыклёны выклікалі на тэрыторыі БССР панаваньне паўднёва-заходніх (цёплых) вятроў, вялікую хмарнасьць, вялікі лік дзён з ападкамі і выпаданьне іх у колькасьці большай за норму.

На працягу першых 3-х дзён месяца стан надвор‘я ў БССР азначаўся невялікім цыклёнам, які праходзіў з цэнтральнай Эўропы і, ідучы на ўсход, захапіў сваёй паўднёвай палавінай БССР і выклікаў

зьмену вятроў у такой пасьлядоўнасьці: SE, S, SW, W і NW. Зьяўленьне халодных NW вятроў тлумачыцца, паміж іншым, і тым, што сьледам за ціклёнам ад берагоў Ангельшчыны пасоўваўся магутны антыцыклён канцавоснага паходжаньня. Усё гэтае разам узятае і тлумачыць, што сярэдняя ночадзенная тэмпэратура паветра, падняўшыся 2-га ў паўночных акругах да мінус 6-7°, а ў паўднёвых—да мінус 4-5°, пасьля так хутка і рэзка зьнізілася (3-4-га) да мінус 12-15°. Уначы з 4-га на 5-ае тэмпэратура паветра месцамі занадта падала: да —22,4° у Стукачове, да —22,7° у Горках, да —20,6° у Менску і да — 24,1° у Турскім дасьледчым полі. На працягу ўсяго гэтага часу неба амаль усьцяж было пакрыта воблакамі, ападкі, у стане сьнегу, выпадалі штодзенна ў невялікай колькасьці; таўшчыня сьнегавага насьцілу за гэты час узрасла ня больш, як на 3-4 см.

З 4-га і да 9-га БССР знаходзілася ў сфэры ўплыву магутнага антыцыклёну, які захапіў яе сваёю паўночнай часткаю і выклікаў з 5-га чысла пераважаньне цёплых вятроў паўднёвай палавіны кругавіду. 7-8-га сярэдняя ночадзенная тэмпэратура паветра амаль усюды ў БССР паднялася да 0°. У дзень тэмпэратура паветра ў гэтыя дні даходзіла ў некаторых месцах да +1,0° (Стукочава), а ў начы нідзе ня зьніжалася за —5°. Стаяла, такім чынам, мяккае і пахмурнае надвор'е. Сьнег выпадаў у паўночнай і сярэдняй частках рэспублікі 5-7-га, а ў паўднёва-заходніх акругах 4-5-га, але ня даў прыметнага павялічэньня насьцілу.

З 9-га чысла пачаўся новы процэс зьмены надвор'я БССР., абумоўлены ўплывам паўднёвай палавіны магутнага цыклёну ісляндзкага паходжаньня. Выкліканыя ім (9-10-га) SE вятры ў сваю чаргу выклікалі зьніжэньне тэмпэратуры паветра. Сярэдняя ночадзенная тэмпэратура зьнізілася 11-га да мінус 8-9°. У начы на 12-ае мароз даходзіў да—11,0° (Новае Каралёва). Далейшае пасоўваньне цыклёну ў усходнім кірунку выклікала (12-14-га) зьмену SE вятроў на SW і павышэньне сярэдняй ночадзеннай тэмпэратуры, якая 13-га павысілася да—1,0°. У дзень 12-13-га ўсюды наглядалася адліга, а ў начы значныя маразы да—10°. З 15-га чысла пачаўся процэс паступовага распаданьня цыклёну. Абмяжованы з усіх бакоў краінамі высокага ціску ён пачаў падзяляцца на часткі і, такім чынам, паступова зьнікаць. Дзякуючы ўплыву ўтвораных пры яго распаданьні па собных невялікіх ядраў з нізкім ціскам, на тэрыторыі Беларусі наступіў пэрыод дужа зьменнага і featured розностайнага ў розных частках надвор'я. Так 16-17-га сярэдняя ночадзенная тэмпэратура паветра ўсюды зьнізілася да —10-13°. Некалькі павысіўшыся пасьля гэтага яна мясцамі стала і далей павышацца, а мясцамі (у паўночных акругах) і надта зьніжацца, так што 20-га сярэдняя ночадзенная тэмпэратура па БССР хісталася ад —6° да —15°. Сьнег за паказаны працяг часу выпадаў па ўсёй рэспубліцы даволі часта, аднак, за ўсе 10 дзён ён ня даў значнага павялічэньня таўшчыні насьцілу, якая ўзрасла ў сярэднім толькі да 8-10 см.

З 21-га і да 29-ае фактарам, азначыўшым ход надвор'я ў БССР, зьявіўся новы цыклён, які зарадзіўся ў паўночнай частцы Атлянтыкі і памалу пасоўваўся ўва ўсходнім кірунку. Беларусь ён захапіў сваёй паўднёвай палавінай. Вятры тут панавалі спачатку SE, а потым SW. Сярэдняя ночадзенная тэмпэратура паветра спачатку, з 21-га, неперарыўна нарастала, павысіўшыся 23-24-га ў паўночных акругах да 0°, а ў паўднёвых—нават да +2, але пасьля яна стала паступова зьніжацца, і 27-28-га зьнізілася да — 5-6°. Увесь гэты час стаяла параўнаўча роўнае

## Мэтэоролёгічная характарыстыка БССР за Сьнежань 1925 г.

паводле сярэдніх за дэкады і за месяц.

| Назовы станцый | Акруга | Ціск атмосфэры ў мм. за месяц | Тэмпэратура паветра C°. 1-я дэкада | 2-я дэкада | 3-я дэкада | За месяц | Адхіленьне ад нормы | Сума ападкаў у мм. 1-я дэкада | 2-я дэкада | 3-я дэкада | За месяц | Адхіленьне ападкаў ад нормы ў %% | Лік дзён за месяц: З ападкам | Са сьнегам | З марозамі | З мяцеліцай | Без адлігі | Хмарнасьць за месяц | Пераважны кірун. ветру за месяц |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Стукачова . . | Полацкая | — | —5,6 | —7,5 | —2,5 | —5,1 | +0,2 | 4,0 | 3,5 | 19,0 | 26,5 | —30 | 18 | 16 | 30 | 10 | 20 | 9,1 | SW, SE |
| Нов. Каралёва . | Віцебская | 755,3 | —6,8 | —7,4 | —3,2 | —5,7 | +0,7 | 10,5 | 9,0 | 48,1 | 67,6 | +57 | 23 | 21 | 30 | 5 | 25 | 9,8 | SW, W |
| Лускінопаль. . | „ | — | — | — | — | — | — | 3,7 | 7,5 | 24,6 | 35,8 | —15 | 23 | 20 | — | 10 | — | — | |
| Фатынь. . . | Барысаўск. | — | — | — | — | — | — | 5,2 | 8,0 | 18,8 | 32,0 | —24 | 22 | 19 | — | 7 | — | — | |
| Княжае. . . | Смаленская | — | — | — | — | — | — | 6,0 | 6,0 | 20,6 | 32,6 | + 5 | 26 | 23 | — | 11 | — | — | |
| Горкі . . . | Аршанская | 756,1 | —7,0 | —7,0 | 2,6 | —5,4 | +0,9 | 11,1 | 13,1 | 24,4 | 48,6 | +47 | 25 | 22 | 30 | 7 | 22 | 8,8 | SSW, WSW |
| Менск . . . | Менская | 757,3 | —5,9 | —6,4 | —1,4 | —4,5 | +0,4 | 2,4 | 15,2 | 40,0 | 57,6 | +40 | 24 | 22 | 29 | 11 | 19 | 9,1 | W, SW |
| Кукшэвічы . . | „ | — | — | — | — | — | — | 4,0 | 23,0 | 45,1 | 72,1 | +72 | 24 | 21 | — | — | — | — | |
| Мар'іна Горка . | „ | 756,2 | —5,9 | —5,8 | —0,7 | —4,1 | +0,6 | 2,8 | 13,4 | 32,6 | 48,8 | +35 | 24 | 21 | 29 | 12 | 20 | 9,2 | SW, SSE |
| Магілеў . . | Магілеўск. | 757,6 | —6,2 | —6,8 | —2,1 | —5,0 | +0,6 | 6,6 | 6,4 | 21,7 | 34,7 | —32 | 18 | 16 | 30 | — | 23 | 9,0 | SSW, WSW |
| Жорнаўка . . | Бабруйская | — | —5,9 | —5,9 | —0,6 | —4,0 | +0,8 | 1,0 | 8,7 | 24,6 | 34,3 | —14 | 24 | 21 | 26 | 2 | — | 9,3 | SW, SE |
| Турск . . . | „ | — | —6,9 | —5,9 | —1,1 | —4,5 | +0,8 | 3,1 | 2,9 | 19,6 | 25,6 | —27 | 13 | 13 | 20 | — | 21 | 9,3 | SW, W |
| Салонае . . | „ | — | — | — | — | — | — | 7,4 | 10,0 | 30,2 | 47,6 | +44 | 24 | 20 | — | 6 | — | — | |
| Сьвіслач . . | „ | — | — | — | — | — | — | 1,6 | 7,3 | 19,9 | 28,8 | —28 | 20 | 15 | — | — | — | — | |
| Андрэеўка . . | „ | — | — | — | — | — | — | 8,0 | 4,8 | 31,0 | 43,8 | +28 | 17 | 11 | — | — | — | — | |
| Капацэвічы . . | Слуцкая | — | — | — | — | — | — | 1,9 | 4,1 | 27,2 | 33,2 | — 2 | 16 | 14 | — | 2 | — | — | |
| Х. Морын . . | „ | — | — | — | — | — | — | 0,6 | 10,5 | 28,1 | 39,2 | +15 | 16 | 13 | — | 3 | — | — | |
| Ямінск . . . | „ | — | — | — | — | — | — | 1,2 | 6,8 | 25,1 | 33,1 | — 5 | 19 | 14 | — | — | — | — | |
| Морач . . . | „ | — | — | — | — | — | — | 3,0 | 5,0 | 28,3 | 36,3 | + 7 | 23 | 18 | — | — | — | — | |
| Новадворцы . . | „ | — | — | — | — | — | — | 0,2 | 6,8 | 22,[illegible] | 29,1 | —12 | 20 | 14 | — | — | — | — | |
| Старобін . . | „ | — | — | — | — | — | — | 2,1 | 8,8 | 27,2 | 38,1 | +12 | 27 | 18 | — | — | — | — | |
| Вярхуцін . . | „ | — | — | — | — | — | — | 1,6 | 7,9 | 35,4 | 44,9 | +32 | 13 | 8 | — | — | — | — | |
| Мазыр . . . | Мазырская | — | — | — | — | — | — | 4,8 | 15,4 | 29,0 | 47,2 | +25 | 15 | 11 | — | — | — | — | |
| Лучыцы . . | „ | — | — | — | — | — | — | 6,6 | 8,6 | 35,6 | 50,8 | +75 | 22 | 17 | — | 6 | — | — | |
| Баравая-печ . . | „ | — | — | — | — | — | — | 5,0 | 9,8 | 36,4 | 51,2 | +70 | 17 | 12 | — | — | — | — | |
| Майсеевічы . . | „ | — | — | — | — | — | — | 7,3 | 10,5 | 41,7 | 59,5 | +98 | 25 | 20 | — | — | — | — | |
| Сярэднія па БССР | — | 756,5 | —6,3 | —6,6 | —1,8 | —4,8 | +0,6 | 4,3 | 8,9 | 29,1 | 42,3 | +18,2 | 21 | 17 | 29 | 7 | 21 | 9,2 | SW |

і мяккае надвор'е. У начы тэмпэратура зьніжалася да —5-7°, і толькі ў Жорнаўскім лясьніцтве на 29-ае яна ўпала да —11,4°. Сьнег выпадаў часта. Таўшчыня сьнегавога насьцілу ў сярэднім у БССР у канцы гэтага пэрыоду дасягнула 20 см. (хістаючыся ад 10 да 45 см.). 23 і 24-га ападкі выпадалі ў стане дажджу і сьнегу.

З 27-га ў паўднёвых, а з 28-га—у вастатніх акругах пачаўся рэдкі і дужа бурны процэс пацяпленьня. 31-га сярэдняя ночадзенная тэмпэратура паветра ўсюды павысілася да +5°. Ноч на 1-ае студзеня таксама не дала прымаразкаў. Ападкі 30-31-га выпадалі выключна ў стане дажджу. Вынікам гэтага зьявілася тое, што сьнегавы насьціл усюды хутка амаль зусім зьнік. Некаторыя невялікія рэчкі і каналы паўзьнімаліся, а на астатніх лёд зьверху пакрыўся вадою.

Зусім ясных дзён за месяц ня было ніводнага. Увесь час стаяла пахмурнае надвор'е. Неба за рэдкім выключэньнем, было зацягнута суцэльнаю плёнкаю шэрых воблакаў. Пераважалі паўднёва-заходнія воблакі, радзей наглядаліся паўднёва-заходнія. Тэмпэратура паветра на працягу месяцу хісталася даволі моцна.

Крайнія граніцы гэтых хістаньняў у БССР такія:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 дэкада 10 (дзён) | ад | +1,3° | да—24,1° |
| 2 „ | „ | +0,6° | „ —22,5° |
| 3 „ | „ | +7,5° | „ —26,6° |
| За месяц | „ | +7,5° | „ —26,6° |

Дзён з маразамі за месяц было каля 30, а без адлігі каля 20.

Значныя хістаньні былі і ў ходзе сярэдняй начадзеннай тэмпэратуры паветра, а іменна:

| | | | |
|---|---|---|---|
| У 1 дэкаду | ад | +0,3° | да—15,3° |
| „ 2 „ | „ | —0,1° | „ —14,8° |
| „ 3 „ | „ | +6,0° | „ —10,6° |
| За месяц | „ | +6,0° | „ —15,3° [1]) |

Сьнег, як паказана вышэй, выпадаў хоць і часта, але не асабліва інтэнсыўна і з перапынкамі, а таму і закрываў зямлю пластам невялікай таўшчыні. Рэдка дзе, на роўных і ўкрытых ад сільных вятроў мясцох (дзе яго не адувала ветрам і не навявала гурбамі) таўшчыня яго дасягнула 40 і больш сантымэтраў. Мяцеліцы наглядаліся ўсюды і выклікалі ўтварэньне гурбаў і наагул няроўнае заляганьне сьнегавога насьцілу, які, аднак, як паказана вышэй, да 1-га студзеня амаль зусім зьнік.

---

[1]) Сярэдняя тэмпэратура паветра за месяц перасягнула нормальную (сярэдняя за многа гадоў), для сьнежня ў БССР на +0,6°.

# Матар'ялы з месц.

А. Ф. Квяткоўскі.

## Фатыньская гаспадарка і яе значэньне.

(*Лепельскі раён*).

Выдатным, вельмі цікавым і навучальным кутком у Лепельшчыне і бадай ува ўсім нашым краі трэба прызнаць фальварак Фатынь, які ляжыць на паштовым тракце „Старае Сяло Лепля" ў 30 в. ад гораду. Фатынь уваходзіў калісь у лік зямельных угодзьдзяў езуітаў, а затым пры „сэквістры" іх маёнткаў, гэты фальварак дастаўся сярод іншых маёнткаў, аднаму расійскаму чыноўніку Мэрлінгу, які ніколі ў ім не знаходзіўся, а жыў увесь час у горадзе.



Гаспадар Фатыні.
Язэп Кандратавіч Мароз.

У 1888 годзе Язэп Мароз, сын садоўніка, які працаваў у ўласьніка гэтага фальварку шмат гадоў, адкупіў фальварак Фатынь у чыноўніка Мэрлінга. Язэп Мароз, разьбіў гаспадарку на тры часткі: а) садоўніцтва, б) агародніцтва і в) пчалярства. Да кожнай з гэтых частак ён прымацаваў аднаго з сваіх сыноў, паказваючы ім, як і што рабіць. Дзеці з вялікай ахвотай сталі ўва ўсім дапамагаць бацьку, кожны ў сваёй справе. У 1890 г. коняй было сталых—8, кароў—15 і маладняк, але праца звычайна ішла, як і раней, па сыстэме трохпольнага севазвароту.

Толькі з 1900 году Язэп Мароз зусім узмацніўся, меў ужо каля 40 штук кароў і каля 12 сталых коняй. З таго году ён пачаў зьмяняць севазварот, але ня так хутка. Перш-на-перш пачаў сеяць канюшыну, віку і інш. Потым пачаў весьці гаспадарку, выключна паводле кніг, якія выпісваў ад профэсароў і інш. культурна-гаспадарчых устаноў.

### Садоўніцтва.

З 1900 да 1903 г. Язэп Мароз і яго сыны пасадзілі з уласнага гадавальніка каля 8 дзесяцін саду. Пладовых, ужо плоданосных, але яшчэ маладых дрэў ёсьць больш 3000 штук. Груш і яблыкаў налічваецца

болей як сто гатункаў. Леташні год гаспадары набралі дужа цікавую колекцыю з яблыкаў, у якую увашло больш чым 110 розных гатункаў. Вішняў ёсьць гатункаў 10, гэтулькі-ж гатункаў і сьліў. Малін і траскавак да 20 гатункаў. Ёсьць таксама шмат гатункаў агрэсту і смародзіны.

Гадавальнік разьведзены на 4000 штук. Ён здавальняе ня толькі патрэбы гаспадароў, але служыць, галоўным чынам, мэтай збыту. У ім разводзяцца толькі тыя гатункі пладовых дрэў, якія па дасьведчаньні гаспадароў лепш прыгодныя для нашае старонкі.

Паводле ўласнага дасьледваньня Язэп Мароз зацьвярджае, што некаторыя кволыя гатункі яблыкаў, як напрыклад, ранэткі: „Абердзіна", „Залаты-Пісгуда" і „Дансберга", дужа добра жывуць і могуць жыць у нашай старонцы. Наадварот, іншыя гатункі, якія могуць расьці ў нас, як тутэйшыя, растуць кепска, напрыклад, „Кальвіль" чырвоны зімні; плады яго не дасьпяваюць і дужа кепска растуць. Гэты „Кальвіль" Язэп Мароз зьмяняў на такі, які дае добры плод і добра сьпее, яго называюць „Кальвіль дымчаты" і іншымі гатункамі, „Арабкай" (яблыкі апошняй ня трэба зьмешваць з цыганамі, бо па колеры яны дужа падобны).

Асабліва добрым яблыкам для гандлю зьяўляецца паласаты яблык пад назвай „Штрэйфлінг", які расьце вялікім і моцным. У гаспадара Мароза было раз такое здарэньне: надышоў час рабіць прышчэпы і, ня знаўшы, што салодкі прышчэп папаўся сярод кіслых, гаспадар памылкова прышчапіў „антонаўку". Вырасьлі яблыкі па колеры і форме падобныя да антонаўкі, а па смаку—салодкая бель. Гэтыя яблыкі Мароз вазіў аж у Маскву, дзе далі назву новаму гатунку.

У 1925 годзе гаспадар Фатыні зрабіў досыць цікавы досьлед з вішнямі. Ён узяў самую буйную Ўладзімерскую вішню з свайго ўласнага саду і заважыў, аказалася, што на 1 фунт ідзе толькі 64 штукі, тады, як у кнізе пішуць, што болей.

Апроч пладовых дрэў, у гадавальніках Мароз гадуе таксама дэкорацыйныя тапол і 4-х гатункаў, дуб. Дзеля практыкі культывуецца чорная рабіна, калуская і плакучая. Не запомніў і лазу кашолачную. У вадно лета гэта лаза вырастае больш як на пяць аршын.

Для аколічнага сялянства фатыньская гаспадарка зьяўляецца як-бы ўзорнай. Штодзенная праца ў садзе зацікавіла ўсё сялянства; яны прыходзілі да Мароза і ён даваў ім тую ці іншую параду, як і што рабіць.

Шмат хто з сялян Віцебскай акругі мае цяпер садок з Фатыньскага гадавальніка і шчыра дзякуе Язэпу Марозу за ўсе яго дасягненьні і навуковыя бакі ў працы гаспадаркі.

### Гародніцтва.

Вялікую ўвагу зьвяртаў Мароз таксама і на разьвядзеньне лепшых гатункаў гародніны. Самым галоўнейшым продуктам гародніны ў яго зьяўлялася капуста, якой ён меў звыш 15 гатункаў. Капуснай рассадай гаспадар здавальняў усю аколіцу. Да яго прыяжджалі сяляне за 30 в. купіць добрага гатунку рассаду капусты, з якой выраслалі дужа вялікія качаны. Былі і ёсьць цяпер парнікі, у якіх сьпеюць дыні, гарбузы і памідоры. На кучах дзернавіка ў перагноі ляжыць вялізная „тыква". У цяпліцах, галоўным чынам, было і ёсьць цяпер вялікія пальмы і мірты. Ёсьць у цяпліцах шмат гатункаў розных кветак, але гандлю на іх бадай няма. Самая цяпліца перараблялася некалькі разоў паводле ўласнага пляну гаспадара. Увесь матар'ял здабывалі самі і ўсю буды-

ніну рабілі ўласнымі рукамі. Каля самага дому ўлетку разьбілі дужа прыгожы кветнік, у якім пасаджаны шмат розных пахучых кветак, як, напрыклад, хрызантэмы, белыя лілеі і ружы. Апошніх да 20 гатункаў. Каля хаты разводзіцца і вінаград. Яго ня вельмі многа, але ў цёплае лета ён добра сьпее і дае смачныя сьпелыя ягады. Зімой карані вінаграда закопаны ў гной, каб не памерзьлі.

**Пчалярства.**

Пасеку разьвёў Мароз дужа даўно, але даўнейшая пасека была звычайнай, ня была так добра пастаўлена, як цяпер.



Хутар Фатынь.
Агульны выгляд пасекі.

У пасецы налічваецца вульляў больш за 40 і ўсе яны вышэйшай конструкцыі, пад назвай, „Маларасійская дуплянка“ профэсара Куланды,

якая ў добрыя гады дае больш прыбытку ад рамачных. Дзеля даскаиалага падліку ў пасецы ёсьць контрольны вулей, які стаіць на вазе, зьмену якога можна бачыць кожны дзень.

1925 год быў для пасекі дужа кепскі, холад і дажджы не далі магчымасьці пчолам назьбіраць столькі мёду, каб яны бяз клопату



Хутарь Фатынь.
Пасадка рою.

маглі пражыць да вясны. На ўсю пасеку пашло мёду каля 6 пудоў, які быў у запасе з старых, даўнейшых гадоў. Лічу патрэбным падкрэсьліць усе тыя прылады, якія ёсьць у пасецы. Сярод пасекі пабудавана хатка, у якой знаходзяцца ўсе прылады: (там можна знайсьці ўсё, што патрэбна кожнаму пчаляру). З прылад найбольш выдатныя вось



Хутар Фатынь.
Контрольны вулей.

якія: медагонка, раяўні (дужа лёгкія, зробленыя з кашолачнай лазы), дымкі (куравешкі), маталенікі розных гатункаў, рамы з вузай і шмат інш.

Усе прылады зрабіў сярэдні сын Мароза, які мае вялікую ахвоту да пасек.

**Гаспадарчае становішча фальварку „Фатынь".**

Добра пастаўлена і гаспадарка. Як мы казалі раней, гаспадар фальварка „Фатынь" больш аддаваў часу на садоўніцтва, гародніцтва і пчлярства, але і гаспадарку не закідаў. Мароз з 1900 году пачаў добра паляпшаць сваю гаспадарку ў справе зьмены севазвароту.

Да апошняга часу ён карыстаўся 5-ціпольным севазваротам, а ўжо ў 1925 годзе ён перашоў на 9-ціпольны севазварот. Цікава глянуць на разьбіты правільна плян палёў. Плян разьмеркаваньня такі:

Табліца дзевяціпольнага севазвароту.

| Паля / Гады | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1926 | Пар гной | Жыта з канюш. | Канюшына I | Канюшына II | Лён Авёс | Зел. пар. гной | Жыта | Бульба | Авёс |
| 1927 | Жыта канюшчына | | | | | | | | |
| 1928 | Канюшына I | | | | | | | | |
| 1929 | Канюшына II | | | | | | | | |
| 1930 | Лён Авёс | | | | | | | | |
| 1931 | Лёл пар гной | | | | | | | | |
| 1932 | Жыта | | | | | | | | |
| 1933 | Бульба | | | | | | | | |
| 1934 | Авёс | | | | | | | | |

і г. д.

З прылад да апрацоўкі зямлі гаспадар Мароз мае наступныя: дзіскавых барон—2, спрунж.—2, плугоў-сакоўскіх—2, плугоў простых парачных—6, барон драўляных—4 пары і інш.

Шмат прылад згарэла ў т. Мароза ў 1923 г., і з таго часу ён нічога ня купляў. Апроч усяго, Мароз мае колекцыю чучал розных зьвяроў і птушак, якія толькі ёсьць у Віцебшчыне, ёсьць чучала нават маладога лася, якога забіў у Валовай гары, Барыс. акругі.

Апроч усяго вышэйпамянёнага, у фальварку Фатынь ёсьць уласныя майстэрні: а) сталярня, кузьня, сьлясарня і пераплётная, у якіх працуюць сыны гаспадара Мароза, яны навучыліся самі майстраваць на ўсе рукі.

Не забыўся т. Мароз для назіраньня за атмосфэрнымі асадкамі, адчыніць мэтэоролёгічную станцыю, якая існуе ўжо больш як 20 год.

Колькасьць душ у фальварку Фатынь сваіх—24, яны разьмяркованы так: дарослых мужч.—7, жанч.—7 і дзяцей—10.

Нанятых усяго трое. Тав. Мароз паказаў усім сялянам, як трэба вясьці гаспадарку, карыстаючыся навукай. Тав. Мароз карыстаецца вялікай пашанай з боку сялян, якім ён дае парады і дапамагае ў іхняй гаспадарцы.

---



Д. Васілеўскі.

# З матар‘ялаў да архэолёгічнай карты Аршанскае акругі.

У пачатку 1925 г. Аршанскае Акруговае Таварыства Краязнаўства пачало рэгістрацыю ўсіх помнікаў старажытнасьці, мастацтва, якія захаваліся на абшарах акругі. Ва ўсе раённыя таварыствы былі разасланы анкеты Інбелкульту па вучоту помнікаў старажытнасьці. Частка запоўненых анкет была накіравана ў Інбелкульт, большасьць страцілася, а дзесяць анкет было зьвернута Акруговаму таварыству і распрацавана гісторыка-этнографічнай сэкцыяй. Акруговае таварыства пачало складаць архэолёгічную карту Аршаншчыны, але гэтае карта пакуль што ня поўная. Зараз Прэзыдыум Акруговага Акрвыканкому, на падставе дэкрэту Саўнаркому і інструкцыі Наркамасьветы БССР, загадаў усім райвыканкомам зарэгістраваць і пачаць ахову ўсіх помнікаў старажытнасьці, быту і мастацтва ў раёнах. Гэтая кампанія дасьць пэўны малюнак старажытных багацьцяў на Аршанчыне. Пакуль-жа зарэгістраваны наступныя помнікі старажытнасьці:

*1. Аршанскі раён*: Каля вёскі Чаркасова, Межаўскага сельсавету, у лесе бyўшага маёнтку пана *Кіркілеўскага*, на абшары 8 дзесяцін ёсьць шмат курганоў, якія народ лічыць „швэдзкімі магілкамі“. Весткі аб гэтых курганох ёсьць у старасьвецкіх актах, надрукаваных у 25 томе „Историко-юридических материалов“, выдадзеных „Витебск. Губернским Архивом“. Акты гэтыя адносяцца да XVII сталецьця. Зараз Акруговае таварыства організавала на гэтай плошчы гістарычны заказьнік.

На беразе рэчкі Адроўкі, паміж рэчкай і вёскай Горняя-Веравойша ёсьць замчышча „Гарадок“. Замчышча мае форму сечанай піраміды сажанёў 40 ушыркі і 35 увышкі, таўшчыня верхняга слою попелу шэсьць-восемь вяршкоў. З паўднёвага боку відаць вал, уезд на пляц, пляц мае 50—60 квадратных сажняў. Курган нікім не раскопваўся, але яго аглядалі некаторыя дасьледчыкі. Паданьні аб гэтым кургане сярод сялянства розныя: адны кажуць, што тут стаяла праваслаўная царква, другія апавядаюць, што гэты курган служыў батарэяй для палякаў і французаў. Ёсьць паданьні, што ў гэтым кургане калісьці былі пячэры, але цяпер іх няма. З заходняга боку саўхозу Забалацьце, уверх па рэчцы Адроўцы, былі два курганы: адзін на левым, другі на правым беразе рэчкі. Адзін з іх раскапалі гадоў 25 таму назад. Былі знойдзены

зброя, косьці, якія кудысь адаслалі. Абодвы курганы маюць выгляд сечанага стажка. З заходняга боку вёскі Пагост захаваліся сьляды будынкаў старадаўняй культурнай гаспадаркі ксяндзоў-езуітаў XVII—XVIII ст. У народзе ёсьць паданьні, што ў скляпы езуіты саджалі бунтаўшчыкоў сялян, а ў падзямельлях хаваліся паўстанцы 1863 г. Касьцёл і капліца ў Пагосьце існавалі да 1863 г. Цяпер, апроч скляпоў і падзямельляў, відаць капаныя, але заросшыя аірам і чаротам, стаўкі, вялікія саджалкі, руіны муроў. Тут-жа на палёх сустракаюцца курганы.

Каля вёскі Выдраца, Высоцкага сельсавету, на бальшаку ў 70 сажнях ад вёскі Рагазіна ёсьць гарадзішча пад назвай „Гарадзец", якое мае выгляд магілы: плошча гарадца да $^1/_4$ дзесяціны, вышыня больш 3-х сажняў, бер гі надта крутыя. Верхні слой попелу $1^1/_2$ аршына. Вясной, у часы паводак, вада вымывае косьці людзей і пліткі з лацінскімі надпісамі. Сярод сялянства аб гэтых курганох кажуць, што тут стаяла царква, якая правалілася ў зямлю. Уздоўж шляху Ворша-Бабінавічы, каля азёр Арахі, Перавалочні, ёсьць шмат курганоў, абведзеных равамі. Курганы цягнуцца градой вёрст на 10. Вышыня курганоў $1^1/_2$ сажня, а шырыня ад 3 да 5 сажняў. Нагляду над імі няма, жыхары знаходзілі там зброю і медныя грошы. Шмат курганоў знаходзіцца ў аколіцах Воршы, каля вёсак Гародня, Антавіль, пры заводзе Чырвоны Кастрычнік, каля вёскі Кабылякі і пры ўтоцы рэчкі Крапівінкі ў Дняпро.

Каля вёскі Забалацьця і Васькаўшчыны, у сучасным Аршанскім раёне, засталіся сьляды старадаўняга шляху з Воршы на Смальяны і Сянно. Каля Васькаушчыны, гэты шлях далёка адхадзіў на поўнач ад сучаснага бальшака таму, што тут раней былі непраходныя балоты, якія цяпер высахлі і зрабіліся добрай сенажацьцю, але каляіны шляху і канавы добра відаць. Каля вёскі Арахі, Брухава і Высокае відаць стары Кацярынінскі бальшак з Ленінграду ў Крым па правым беразе Дняпра. На гэтым бальшаку ёсьць старыя Кацярынінскія слупы вышынёй да 2-х сажняў, такія слупы ўцалелі дагэтуль і каля м-ка Талачына, Талачынскага раёну. Яны ляжаць адзін ад аднага на 750 сажняў.

У сяле Юрцава, Аршанскага раёну, ёсьць старая царква вельмі цікавая ўнутры сваім убранствам, а ў маёнтку Юрцава стаіць незакончаны пабудовай палац графіні *Грабоўскай.* Палац пачалі будаваць з 40-х гадоў мінулага веку, але ён застаўся незакончаным да 1863 г. калі маёнтак, здаецца, быў сконфіскаваны. Палац вельмі цікавы сваёй архітэктурай, але, на жаль, без дагляду разабраны столь і падлога, развалілася страха, толькі стаяць моцныя і вялізарныя сьцены.

На возеры Арахі ёсьць некалькі мясьцін, якія завуцца „пристанямі": Юр'ева, Карпіцкая, Пляханаўская пристань. На Юр'евай прыстані ляжыць камень з адбіткам падобным да ступні чалавека. Камень карыстаецца вялікай павагай у сялян і на Юр'я туды ходзяць на прошчу.

*Талачынскі раён.* Каля вёскі Гарадзішча, Талачынскага раёну, пры балоце Бук, з заходняга боку, ёсьць курган пад назвай Гарадзішча, ён мае выгляд сечанага кантаслупа, вышынёй да 5 мэтраў. У сяле Саколіне на беразе Ракі Ўсьвіж-Бук ёсьць замчышча. Вялікія замчышчы сустракаюцца ў Друцку і ніжэй па плыні ракі Друці. Каля Друцку шмат курганоў, якія раскіданы па абодвых берагох ракі Друці. Каля вёскі Драздова Талачынскага раёну ёсьць курганы, магільнікі часоў францускай вайны. Шэсьць курганоў маюць форму батарэй вышынёй больш 1 саж. Агульная плошча больш за 60 квадратных саж. У часы пахаты знаходзяць там астаткі ручной зброі.

*Круглянскі раён.* Курган пад назвай „Горад“ на беразе Друці, з усходняга боку м-ка Цяцерына. Курган мае плошчу каля 2-х дзесяцін і вышыню да 13 саж. Перагнойны слой больш аршына. На кургане ёсьць 4-х кутныя насыпы і рсў, які ўцалеў з паўднёвага боку. На кургане знаходзілі зброю, грошы і чалавечыя чарапы. За $2^1/_2$ вярсты ад м-ка Цяцерына ёсьць урочышча пад назвай „Курганьнё“. Курганы цягнуцца ўздоўж ракі Друці. У вадным месцы 2 курганы, а ў другім—13. У часы вялікай Паўночнай вайны швэдзкае войска праходзіла праз Цяцерына. Цяпер яшчэ відаць старыя шлякі ў выглядзе насыпу, а ў некаторых мясцох засталіся і палі ў рэчцы Друці. Гадоў 25 таму назад адзін курган раскапалі, а другая група кurганоў носіць сьляды месца старадаўняй бойкі. Ніякіх паданьняў аб гэтых курганох у народзе не захавалася.

*Горацкі раён.* Курган „Гарадок“ ёсьць каля вёскі Валынцава, за вярсту ад яе, на беразе невялікай рэчкі. Курган мае выгляд сечанага стажка, вышыня 3 саж., верхняя плошча 16 кв. саж. Верхні слой попелу таўшчынёй у 3-4 вяршкі. Ніякіх паданьняў аб пахаджэньні гэтага кургана ў народзе не захавалася. Каля мястэчка Леніна, (б. Раманава) ёсьць курган Гарадок. Плошча яго $^1/_2$ дзесяціны. Курган ляжыць на беразе рэчкі Людны. Вышыня яго прыблізна 5 саж. Ад м-ка Леніна курган ляжыць за 1 вярсту на захад. Такі-ж самы курган ёсьць каля вёскі Старасельле. Ён мае выгляд магілкі з плошчай каля 9 кв. саж. За вёскай Лугіны, на паўночна-заходняй старане, улева ад дарогі на Красуліна, ёсьць курган, які мае выгляд стажка ў папярэчніку каля 7 саж. Вакол пахатная зямля і недалёка ляжаць могілкі. Курган ніхто не раскопваў, але пры пахаце знаходзілі чалавечыя чарапы. Ёсьць паданьні што перад пошасьцьцю з кургана зьяжджаў нейкі коньнік на белым кані, ці зьбягаў з кургана на дарогу белы бык.

*Коханаўскі раён.* У м-ку Смальлянах захаваліся руіны замка. Частка сьцен абвалілася, уцалела толькі сьцяна вежы. У народзе ёсьць паданьне, што з замка ёсьць падземныя ходы ў царкву.

*Дубровенскі раён.* Каля вёскі Гараны-Мужычыя, над рэчкай Гаранкай, ёсьць вялікі курган пад назвай „Замак“. Ён ляжыць за гародамі вёскі і далёка відаць. Частка кургана парасла лесам, а ў сярэдзіне на верхняй плошчы—глыбокая яма. Ёсьць паданьне, нібы ў гэтым замку пахаваны нейкі князь. У м-ку Дуброўна ёсьць вялізны курган пад назвай „Гарадок“. У ім знаходзяць косьці, старадаўнія грошы і бяруць гліну на цэглу. Каля вёскі „Новая Тухінь“ на лядах сустракаецца шмат курганоў, якія сяляне ўжо пачалі разворваць.

*Дрыбінскі раён.* Каля вёскі „Верба“, на беразе рэчкі ёсьць вялікае Гарадзішча, плошчай больш за 5 дзесяцін. На ім раскідана цэгла, кафлі, і ляжаць два камяні з крыжамі і надпісамі. Каля вёскі Старая-Прыбужжа сустракаецца замчышча, якое добра ўцалела да нашых дзён.

*Крыніцы.* Каля вёскі Ганусін Бор, Аршанскага раёну, у мясцовасьці пад назвай „Крынічкі на Бароўцы“ знаходзіцца крыніца, вада з якой у народзе лічыцца лекавай. Такая-ж самая крыніца ёсьць у шасьці вярстах па Дняпры ад м-ка Дуброўны, на правым беразе, у мясцовасьці Грутава і каля фальварка Бародзінцы. Каля вёскі Парэчча Азярэцкага сельсавету, Талачынскага раёну на беразе рэчкі, ёсьць крыніца, якую сяляне лічаць лекавай. На Юр‘я тут адбываецца кірмаш і зьбіраецца шмат народу.

*Каменьне і крыжы.* У Коханаўскім раёне, каля вёскі Дзятлава ляжыць Рагволадаў камень, над ім пабудавана капліца. Камень з над

пісам паславянску, добра апісаны вядомым этнографам Раманавым. Аб гэтым камені ў народзе існуюць розныя паданьні. Адны апавядаюць, што на гэтым месцы адбілася бітва паміж Рагвалодам і Друцкімі князямі. Друцкія князі былі разьбіты і ў памяць гэтага Рагвалод загадаў высеч на камені крыж з напісам. Другія кажуць, што Рагвалод, вяртаючыся з паходу, адпачываў на гэтым месцы з сваёй дружынай, і ўгледзеў тут свайго нябожчыка бацьку Барыса з братам Глебам, пасьля чаго дружына Рагвалода пабудавала гэты помнік і з тых часоў камень завецца Барысаглебскім. Каля вёскі Галашоўка, Коханаўскага раёну, ёсьць курганы і каменныя крыжы каля іх на беразе возера. У Круглянскім раёне на беразе рэчкі Друці, каля м-ка Цяцерына, знаходзіцца камень, які мае форму крыжа. Каля вёскі Пневішча, Дрыбінскага раёну быў знойдзены камень з фінікійскім напісам. Ён быў апісаны князем Дундуковым-Карсаковым і доктарам Ванкелем. Каля вёскі Высокі Гарадзец, Талачынскага раёну, ляжыць Барысаў камень з крыжам і славянскім напісам. Гэты камень апісаны вядомым этнографам Раманавым.

У Багушэўскім раёне каля вёскі Тур'ева была знойдзена, у мінулым сталецьці каменная баба, якая цяпер стаіць у садзе маёнтку Смальляны, Коханаўскага раёну. Абшары Аршаншчыны вельмі багаты курганамі і іншымі помнікамі старажытнасьці. Апроч Раманава, здаецца, ніхто з Расійскіх і польскіх вучоных не займаўся дасьледваньнем гэтых помнікаў нашай мінуўшчыны. Распачатая Акруговым Таварыствам праца па іх вывучэньні дае надта цікавыя вынікі. Шмат знаходак ужо перавезена ў Аршанскі Акруговы Музэй і Беларускі Дзяржаўны Музэй.

---

# Програмы і інструкцыі.

## Да ўсяго грамадзянства БССР.

Аднэй з мэт, якую паставіла перад сабой Сэкцыя па вывучэньні рэволюцыйнага руху ў Беларусі, зьяўляецца складаньне гістарычна-біографічнага слоўніку рэволюцыйных барацьбітоў на Беларусі.

На працягу доўгага часу рабочыя і сяляне Беларусі вялі барацьбу за сваё вызваленьне з-пад ярма капіталістых і памешчыкаў, пакуль у Кастрычнікавай рэволюцыі працоўныя перамаглі сваіх клясавых ворагаў.

Царская ўлада бесчалавечна распраўлялася з рэволюцыянэрамі Беларусі, пасылаючы іх на шыбініцы трымаючы па турмах, высылаючы іх з Беларускага краю ў далёкую Сібір і ўчыняючы над рэволюцыянэрамі розныя рэпрэсіі на месцы. Імёны гэтых барацьбітоў не павінны быць забытымі.

Апроч гістарычнай вартасьці біографічных даных аб барацьбітох рэволюцыянэрах, іх жыцьця і змаганьня, гэты матар'ял, будучы надрукаваным, паслужыць добрым прыкладам у выхаваньні нашай моладзі. Зараз неабходна прыступіць да збору біографічных даных аб усіх барацьбітох, якія змагаліся з царызмам за соцыялістычны лад, не зважаючы на прыналежнасьць іх да тэй ці да іншай соцыялістычнай партыі.

Гэтая пастаўленая Сэкцыяй мэта можа быць выканана толькі пры шырокай дапамозе ўсяго грамадзянства Беларусі.

Вось чаму Сэкцыя па вывучэньні рэволюцыйнага руху на Беларусі зьвяртаецца да ўсіх грамадзян Беларусі, якім вядома рэволюцыйная чыннасьць таварышоў да Кастрычнікавай рэволюцыі, таксама зьвяртаецца і да саміх удзельнікаў рэволюцыйнай барацьбы прысылаць Сэкцыі ўсялякія матар'ялы з дадаткам фотографічных здымкаў рэволюцыйнай вартасьці, галоўным чынам такія весткі: 1) Прозьвішча, імя і імя па бацьку. 2) Калі радзіўся, а калі памёр—дату сьмерці (дзень, месяц, год) і месца. 3) Дзе радзіўся, горад, мястэчка, вёска. 4) Соцыяльны стан бацькоў. 5) Адукацыя. 6) Чарговы пералік заняткаў. 7) Літаратурныя або іншыя творы і праца. 8) Па магчымасьці дакладна яго рэволюцыйная і грамадзкая дзейнасьць.

Ні памерам ні выкладам просьба не затрымвацца і надсылаць усё тое, што вядома, або засталося аб барацьбітох.

Усё гэта належыць пасылаць па адрасу:

**Менск, Рэволюцыйная, 21, Інстытут Беларускае Культуры. Сэкцыя Рэвруху.**

Паштовыя пасылкі (да аднаго пуду вагою) і ўсялякага характару простыя паштовыя адпраўкі, так заадрасаваныя, згодна пастановы СНК СССР ад 2-IX—24 г. і 26-XII—22 г. і цыркуляра НКП і Т ад 16-IX—24 г. за № 34 868, прымаюцца паштовымі інстытуцыямі без паштовае аплаты.

---

# Аб распаўсюджаньні стронгі (форэлі) на Беларусі.

Сучаснае распаўсюджаньне стронгі (форэлі) азёрнай і ручавой на Беларусі зусім невядома, а між тым гэты від рыбы вельмі цікавы як з практычнага так і тэорэтычнага боку. Азёрная форма форэлі (Śalmo frutta s morpha lacustris Linnué), якая надта распаўсюджана ў Віцебскіх ледавіковых азёрах, павінна разглядацца як свайго роду рэлікт ледавіковага пэрыоду і распаўсюджаньне яе заслугоўвае з гэтага пункту погляду вялікай увагі.

Ручавая форэль (Śalmo frutta s morpha fario L), калі пападае ў умовы азёрнага жыцьця, то перарабляецца ў азёрную форму і дасягае вагі да 20—25 фунтаў, у той час, калі ў ручаёх форэль звычайна важыць ад $^{1}/_{2}$ да 3-х фунтаў.

Распаўсюджаньне ручавой форэлі ў нас ня вывучана і выяўленьне сучаснага яе распаўсюджаньня дапаможа выявіць гісторыю фаўны нашага краю і яго гістарычны лёс.

Прыродазнаўчая сэкцыя Інбелкульту зьвяртаецца з просьбай да ўсіх настаўнікаў-прыроднікаў і наагул да аматараў прыроды, прысьці на дапамогу ў вывучэньні сучаснага распаўсюджаньня форэлі на Беларусі і запоўніць вось якую анкету:

1. Паказаць дакладна назву рэчкі, ручая, возера, у якіх у сучасны момант жыве форэль (месца павінна быць паказана так дакладна, каб яго лёгка можна было знайсьці на карце, дзеля чаго павінна быць паказана назва вёскі, каля якой ловяць форэль).
2. Ці ёсьць многа форэлі ў данай мясцовасьці, ці яна тут трапляецца рэдка.
3. Існуе спэцыяльная лоўля форэлі, ці яна пападаецца выпадкова з іншай рыбай.
4. Якімі спосабамі яе ловяць.
5. Указаць найбольшую велічыню форэлі, якая лавілася ў данай мясцовасьці раней і цяпер.
6. Калі ловяць форэль—у восень, узімку, у час нерасту, ці толькі ўлетку.
7. Ці трэба гэту рыбу ў вашай мясцовасьці ўзяць пад ахову і што, паводле вашай думкі, трэба для гэтага зрабіць.

Просьба запоўненыя анкеты прыслаць на такі адрас: *Прыродазнаўчая Сэкцыя, Інстытут Беларускае Культуры, Менск, Рэволюцыйная вул., д. № 21.*

(Перасылаецца бяз марак).

# ХРОНІКА.

## У ЦБК.

За апошні час, пачынаючы з сярэдзіны мая да першага ліпня, у Цэнтр. Бюро Кр. пры ІБК паступілі з месц: картак—слоў да слоўніку жывой беларускай мовы 9949; песень, казак, прыпевак, замоў, загадак прыказак і іншых фольклёрных матар'ялаў 4484 нумары; фэнолёгічных назіраньняў 104, шмат апісаньняў мясцовых помнікаў прыроды і старасьветчыны, шэраг паведамленьняў аб знойдзеных скарбах, значны лік каменных прылад, старых грошай, узораў народнага орнамэнту, колекцый вусеняў, шмат запоўненых анкет па розных пытаньнях краязнаўства і гэтак далей. Усе гэтыя матар'ялы перададзены ў адпаведныя сэкцыі ды камісіі Інбелкультуру для навуковай апрацоўкі.

**Краязнаўчая праца на курсах настаўнікаў беларускіх школ РСФСР.**

Саветам Нацыянальных Меншасьцяй організаваны ў Менску курсы для настаўнікаў беларускіх школ РСФСР. На курсы пакуль што зьехалася 35 настаўнікаў з Гомельшчыны і Смаленшчыны, асабліва з Рэчыцкага і Гомельскага паветаў.

На курсах, між іншым, чытаецца спэцыяльны курс краязнаўства, на які адпушчана 20 гадзін. Апроч таго 20 гадзін прызначана на краязнаўчыя экскурсіі, якімі кіруюць спэцыялістыя па розных галінах краязнаўства. Экскурсіі маюць на мэце падрыхтоўку настаўнікаў да кіраваньня самастойнай краязнаўчай працай у школах. У бліжэйшыя часы намечаны экскурсіі з мэтай азнаямленьня з спосабамі зьбіраньня расьлін, з мэтодамі вывучэньня расьлінных згуртаваньняў, далей на балотную станцыю, на станцыю па барацьбе са шкоднікамі і г. д.

**Краязнаўчая праца ў Бабруйскай акрузе.**

Да 1-га ліпня гэтага году ў краязнаўчай працы акругі дасягнута наступнае:

Кожны раён мае раённае т-ва. Большасьць раённых т-ваў утварылі пры сельсаветах краязнаўчыя гурткі.

Раённыя краязнаўчыя конфэрэнцыі адбыліся ў Асіпавіцкім, Глускім, Сьвіслацкім, Б. Кашалеўскім, Гарадзецкім, 1-м і 2-ім Бабруйскім, і Парыцкім раёнах. У гэтых конфэрэнцыях прымалі ўдзел партыйныя, савецкія і профэсыянальныя організацыі, а таксама і сялянства.

Па ліку членаў і па шырокай краязнаўчай працы асабліва вызначаюцца ў акрузе гурткі пры Чырвона-Бярэскім Гаспадарчым тэхнікуме і Рагачэўскім пэдтэхнікуме.

Краязнаўчыя гурткі ёсьць амаль пры ўсіх раённых сямігодках.

На летні сэзон большасьць раённых т-ваў разьбілі краязнаўчую працу на некалькі галін, а тэрыторыю раёну на некалькі частак і далі заданьне працы кожнаму члену т-ва.

Да гэтага часу пры дапамозе краязнаўчых організацый удалося папоўніць музэй даволі каштоўнымі экспонатамі. Гэтае папаўненьне настолькі значнае, што ўсе экспонаты не зьмяшчаюцца ў памяшканьні му-

зэю. Патрэбна вышукаць пад музэй новы будынак.

Краязнаўчыя організацыі сабралі па акрузе каля :000 слоў жывой беларускай мовы і значны этнографічны матар'ял. Збор лексычнага матар'ялу, а таксама фолькльёру, вядзецца і цяпер. Некаторыя раённыя т-вы склалі этнографічную і расьлінную карту свайго раёну. Робяцца досьледы і апісаньні гістарычных помнікаў акругі. Каштоўныя з навуковага боку будынкі ў згодзе з РВК краязнаўчыя т-вы ўзялі на вучот і ахову. Члены т-ваў зьбіраюць сярод сялянства выпадкова знойдзеныя рэчы старасьветчыны. Дзе толькі ёсьць магчымасьць раённыя т-вы супольна з адпаведнымі ўстановамі праводзяць агрокультурную дасьледчую працу. Некаторыя раёны заснавалі краязнаўчыя музэі.

Трэба адзначыць, што краязнаўчая праца па акрузе становіцца больш сыстэматычна-організаванай.

На ліпень—кастрычнік г. г. Праўленьне Акруговага т-ва вызначыла вось які плян працы:

1. Правесьці раённыя конфэрэнцыі і агляд працы краязнаўчых організацый.

2. Увязаць працу раённых краязнаўчых організацый з усімі дасьледчымі ўстановамі раёну.

3. Зьвярнуць увагу на вывучэньне і дасьледваньне мэліорацыйнай справы ў акрузе.

4. Популярызаваць працу краязн. органаў у вахове прыроды і ў барацьбе са шкоднікамі.

5. Залажыць лектарска-экскурсійнае бюро, якому даручыць організацыю экскурсій (экскурсіі робяць збор колекцый для музэю).

6. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на колекцыянаваньне і збор лекавых расьлін; зьвярнуцца ў Саюз Мэдсантруд з просьбаю, каб усе раённыя дактары былі ўцягнуты ў гэтую працу, каб яны інструктавалі краязнаўчыя організацыі і сялянства.

7. Правесьці кампанію па зборы колекцый жывёл і тэхнічных гандлёвых дзікіх расьлін.

8. Зьвярнуць больш увагі на вывучэньне экономікі і прамысловасьці акругі.

9. Павесьці кампанію па ўцягненьні школ у летні пэрыод у краязн. працу.

10. Паставіць шырака пытаньне аб заснаваньні пры школах музэяў.

11. Паставіць шырака пытаньне аб заснаваньні дасьледчага ботанічнага вучастку.

12. Правесьці поўны падлік рэчаў старасьветчыны ў раёнах.

13. Правесьці кампанію па абсьледваньні каштоўных выкапняў і экспонаваць у музэй усе віды мінэраляў акругі.

14. Нарыхтаваць болей рэгулярныя выезды ў раёны.

15. Вясьці далей працу ў зьбіраньні слоўнікавага і этнографічнага матар'ялу Бабруйшчыны.

16. Пашыраць экспонаваньне музэю.

17. Адшукаць для музэю прыстасаваны ў пэўнай меры будынак.

18. Узмацніць працу яўрэйскай і польскай сэкцый.

19. Узьняць пытаньне перад Цэнтр. Мэтэоролёгічнай станцыяй аб організацыі ў Бабруйску Мэтэоролёгічнай станцыі.

20. Вызначыць тыповы раён для абсьледваньня і прыкладнай працы.

21. Папаўняць краязн. бібліотэку пры Акр. Праўленьні і раённых т-вах.

22. Пленум Праўленьня склікаць штомесячна.

### Абсьледваньне яўрэйскага местачковага паселішча.

*(М-ка Лапічы, Асіпав. раёну, Бабр. акругі).*

Член Прэзыдыуму ЦБК. т. Г. С. Аляксандраў наведаўся ў м. Лапічы, у зьвязку з прыкладным дасьледваньнем Асіпавіцкага раёну. На т.

Аляксандрава была ўзложана арганізацыя апісаньня соцыяльна-эканомічнага стану гэтага мястэчка, якое зьяўляецца тыповым яўрэйскім местачковым паселішчам.

Галоўная частка абсьледваньня—параўнаньне да і пасьля рэволюцыйнай экономікі мястэчка.

Як выявілася, значная частка орыгінальных матар'ялаў і дакумантаў згарэла ў часы пажараў, якія адбываліся ў м-ку некалькі разоў, асабліва пры пажары 1909 г., калі згарэла большая палова м-ка. Шмат матар'ялаў знаходзілася ў архіве Пагарэльскай воласьці, у склад якой уваходзіла і м-ка Лапічы. Гэтыя матар'ялы цяпер знаходзяцца ў Менску.

Праца па абсьледваньні ўзложана на т. т. Лезьнікава, Палуйка і Родава і будзе рабіцца пад наглядам ЦБК і Яўрэйскага Аддзелу Інбелкульту.

Такога-ж характару абсьледваньне адбудзецца і ў м-ку Асіпавічы, якое мае значную яўрэйскую насельнасьць. Гэтае м-ка цікава з боку характарыстыкі дарэволюцыйнай экономікі Беларусі.

Трэба прыняць пад увагу, што такога роду апісаньні яўрэйскага местачковага паселішча рабіліся вельмі рэдка. Вядома вышаўшае асобным выданьнем у 1909 г. монографічнае апісаньне д-ра Рохліна—„Местечко Краснополье“ (Калініск. акругі) і паасобныя невялікія артыкулы ў пэрыодычных выданьнях.

**Праца Магілеўскага акруговага т-ва краязнаўства.**

У Магілеўскай акрузе апроч акруговага т-ва ёсьць 10 раённых т-ваў, 4 студэнцкіх гурткі ў г. Магілеве і 12 школьных гурткоў у вакрузе. Пры акруговым таварыстве існуюць наступныя сэкцыі: 1) экономічная, 2) этнографічная, 3) прыродазнаўчая, 4) гісторыка-архэолёгічная, 5) польская, 6) яўрэйская, 7) сэкцыя вучнёўскіх організацый.

Апроч сэкцый існуюць 2 камісіі: 1) па зьбіраньню слоўнікавага матар'ялу, 2) па вывучэньні гарадоў і мястэчак.

За час ад 1-га лютага да 1-га ліпня адбылося 4 агульных сходы членаў т-ва. На сходах былі заслуханы наступныя даклады:

а) Даклад т. Мацьвяёнкі і садаклад т. Ламакі аб Усебеларускім Краязнаўчым Зьезьдзе.

б) Даклад т. Ламакі на тэму: „Філёзофскі сьветапагляд беларуса на падставе народных казак“.

в) Даклад т. Ларычкава на тэму: „Экономіка Магілеўшчыны“.

г) Даклад т. Мацьвяёнкі на тэму: „Тотэмізм на Магілеўшчыне“.

Пасяджэньняў Праўленьня адбылося 14. На іх разгледжана многа пытаньняў, галоўным чынам, організацыйнага характару.

Праўленьне організавала 2 беларускія концэрты: адзін пад кіраўніцтвам т. Чуркіна, другі пад кіраўніцтвам т. Грайкі. Апроч таго быў організаваны грандыёзны вечар поэзіі нацыянальнасьцяй: беларускай, польскай, яўрэйскай і расійскай. Вечар прашоў з вялікім посьпехам.

Акруговае т-ва мае багата матар'ялу для выданьня зборніку „Магілеўшчына“.

На летні пэрыод (ліпень, жнівень і верасень 1926 г.) Акруговае т-ва апрацавала для раённых т-ваў акругі заданьне такога зьместу:

I. *У галіне організацыйнай:* 1) Зараз-жа зьвярнуцца да раённай організацыі ЛКСМБ з прапановай вызначыць свайго прадстаўніка ў раённае таварыства і ўстанавіць гэткім чынам больш цесную сувязь з комсамольцамі з мэтай уцягнуць іх у краязнаўчую працу. 2) Наладзіць больш цесную сувязь з акруговым таварыствам краязнаўства шляхам больш акуратнай дасылкі сабраных матар'ялаў і г. д.

II. *У галіне экономічн й:* 1) Закончыць зьбіраньне матар'ялаў па заданьні на красавік—чэрвень месяцы. Кожнаму краязнаўчаму гуртку раёну зрабіць дакладнае абсьледваньне ся-

лянскіх гаспадарак дзеля вывучэньня бюджэту часу селяніна. Раённае т-ва павінна ўвесь матар'ял накіраваць у акруговае т-ва. 2) Рабіць дасьледваньне тэхнікі сялянскага ральніцтва па анкеце Інбелкульту, якая раздадзена была загадчыкам райкультаддзелаў у маі гэтага году.

III. *У галіне этнографіі*: 1) Сабраць сенакосныя песьні. 2) Сабраць купальскія песьні і абрады. Сабраць жніўныя песьні і абрады: а) зажынкі, б) заломкі і в) дажынкі. 4) Прыслоўі на падставе летніх прац. 5) Загадкі, зьвязаныя з летняй працай.

IV. *У галіне гісторыі і археолёгіі:* Выявіць помнікі старасьветчыны, якія захаваліся ў кожным раёне. Запоўніць „Опросный лист" Наркамасьветы БССР, якія былі высланы ў раёны вясной.

V. *У галіне прыродазнаўства:* 1) Скончыць выкананьне заданьня на вясеньні пэрыод. 2) Павесьці сыстэматычнае зьбіраньне летняй флёры для свайго раённага музэю і для Магілеўскага Аддзяленьня Беларускага Дзяржаўнага Музэю, зьвярнуць асаблівую ўвагу на лекавыя і тэхнічныя расьліны і пустазельле. 3) Ня спыняць зьбіраньня і адсылкі праз Акруговае т-ва ў Горкі проф. Салаўёву камароў для вывучэньня малярыі 4) Зьбіраць шкоднікаў азімых пасеваў і ячменю згодна інструкцый, якія да гэтага дадаюцца. Прысылаць сабраных шкоднікаў у Магілеўскае Аддзяленьне Беларускага Дзяржаўнага Музэю.

**Пытаньне краязнаўчай працы на нарадзе загадчыкаў сямігодак Барысаўскай акругі.**

19-20 чэрвеня ў Барысаве адбылася нарада загадчыкаў сямігадовых школ Барысаўскай акругі. Заслуханы былі справаздачы аб працы некаторых гарадзкіх і раённых сямігодак (6-й яўрэйскай, Бабруйскай і Лепельскай), даклад АкрАНА аб кірунку далейшай працы і даклад В. Самцэвіча „Краязнаўства ў працы сямігадовых школ".

З дакладаў з месц выявілася, што краязнаўства ў сямігадовых школах пачынае займаць належнае месца, школы зьбліжаюцца з мясцовым жыцьцём і вывучаюць яго, вывучаюць мясцовую вытворчасьць, быт, культуру. Шляхам школьных экскурсій набываецца матар'ял, які апрацоўваецца ў часе клясных заняткаў. Краязнаўчы нахіл у працы школ ажыўляе самую працу, выклікае зацікаўленасьць вучняў.

Гарадзкія школы вывучалі, галоўным чынам, фабрыкі і заводы; іх працу, экономічнае значэньне, умовы жыцьця і працы рабочых; раённыя школы вывучалі прыроду і сельскую гаспадарку, знаёміліся з багацьцямі сваёй мясцовасьці. Каменская сямігодка, напрыклад, вывучае прыроду каля возера Камень, знаходзіць там жалезную руду, вывучае яе ня толькі па кнізе, але і ў прыродзе.

Пры большасьці сямігодак (пры 11) зорганізованы школьныя краязнаўчыя гурткі, у якія ўваходзяць вучні старэйшых груп. Праца гурткоў выяўлялася ў большасьці ў зьбіраньні фольклёрнага матар'ялу, прылад каменнага веку; праводзіліся фэнолёгічныя і мэтэоролёгічныя назіраньні; пры некаторых сямігодках утвораны куткі жывой прыроды, заложаны школьныя музэі.

Як на недахопы ў працы трэба ўказаць на адсутнасьць плянавасьці ў працы і належнай апрацоўкі матар'ялаў, здабытых шляхам экскурсій і назіраньняў, і ня зусім выстарчаючае выкарыстоўваньне гэтага матар'ялу праграмнай працы; краязнаўчая праца не зьяўляецца асновай для школьнай працы.

Па дакладу В. Самцэвіча прынята наступная рэзолюцыя:

1. Нарада загадчыкаў сямігодак лічыць патрэбным, каб з будучага вучэбнага году краязнаўчы матар'ял быў у васнове вучэбнай працы школ, што надасьць гэтай працы жыцьцёвы характар і выкліча ўжываньне актыўных мэтодаў працы (экскурсіі, дасьледы і інш.).

2. Школы сямігодкі, як культурныя ўстановы і апорныя раённыя школы, павінны на сваёй практычнай працы паказаць, як праца школы можа грунтавацца на мясцовым матар'яле і як гэты матар'ял можа выкарыстоўвацца ў працы школ.

3. Школа сямігодка павінна зьявіцца пропагандыстым у краязнаўчай працы сярод масавых школ.

4. Для карыснай працы па падняцьці гаспадаркі і для культурнага будаўніцтва трэба грунтавацца на цьвёрдым веданьні мясцовых умоў, якія патрэбна вывучыць кожнаму настаўніку і кожнай школе, для чаго пры сямігодках заснаваць краязнаўчыя гурткі, праз якія популярызаваць ідэю краязнаўства і сярод шырокіх працоўных мас.

5. Прызнаць патрэбным на працягу лета зрабіць колекцыі, гэрбарыі, якія патрэбны як пры школьным выкладаньні так і ў грамадзянскай працы школы, і імкнуцца да арганізацыі школьных музэяў і жывых куткоў.

6. У зьвязку з правадзімым зборам і запісам слоў для ўкладаньня слоўніку жывой беларускай мовы і для ажыўленьня самага выкладаньня мовы ў школах, лічыць патрэбным наладжаньне збору і запісу слоў для слоўніку ўсімі сіламі школы і вясковага настаўніцтва.

7. Наладзіць больш цесную сувязь па справе школьнага краязнаўства з мэткамісіяй і краязнаўчымі організацыямі.

8. Наладзіць інформацыю аб краязнаўчай працы школ краязнаўчага часопісу „Наш край".

### Экскурсія ў раён возера Пялік.

(*Барысаўшчына*).

Барысаўскае Акруговае т-ва Краязнаўства на пасяджэньні Праўленьня ад 11-га чэрвеня г. г. вынесла пастанову нарыхтаваць у хуткім часе вялікую экскурсію ў раён возера Пялік. Пастаноўлена правесьці тэрмінова запіс жадаючых прыняць удзел у экскурсіі шляхам азнаямленьня з ёю ўсяго настаўніцтва; зьвязацца з настаўнікамі прылягаючых да раёну возера Пялік школ, азнаёміўшы іх з мэтай экскурсіі; падняць пытаньне перад АкрАНА аб грашовай дапамозе экскурсіі, паколькі яна мае вялікае значэньне для краязнаўчай працы і вывучэньня свайго краю.

Плян экскурсіі такі:

Абсьледваньне возера і яго аколіц.

Фотографаваць паасобныя рэльефы мясцовасьці, выдатныя помнікі старасьветчыны, прадстаўнікоў флёры і фаўны, паколькі гэта будзе магчыма.

Абсьледваньне возера рабіць такім чынам:

Паказаць назвы паасобных частак возера, калі такія ёсьць.

Географічнае становішча возера (яго адлегласьць ад бліжэйшай чыгункі, гораду, пошты, у якім кірунку ад паказаных пунктаў).

Разьмеры возера (даўжыня і шырыня).

Агульная форма паверхні.

Плошча паверхні.

Берагавая лінія возера ў часе разьліву.

Агульны характар мясцовасьці, сярод якой знаходзіцца возера (раўнінасьць, узгоркаватасьць).

Смак вады.

Уласьцівасьць вады (мяккасьць, жосткасьць).

Якімі пратокамі і з якімі вадазборамі злучана возера.

Праточнае або стаячае возера.

Якія прытокі ўпадаюць у возера і адкуль бяруць свой пачатак.

Якія рэчкі выцякаюць з возера.

Ці няма плацін пры вытоках рэчак з возера.

Ці няма крыніц у раёне возера.

Ці ў часе разьліву возера злучаецца з іншымі вадазборамі.

Ці ёсьць на возеры астравы, іх лік, форма і велічыня.

Ці няма на дне возера валуноў, пнёў або тарфяных адкладаў.

Ці ёсьць адзнакі забалачваньня возера; у чым яны выяўляюцца.

Глыбіня возера па двух кірунках праз адлегласьці ў 100 мэтраў.

Зьмены возера паводле назіраньняў мясцовых старажылаў.

Зьмены характару берагоў.

Ці спускаюцца ў возера балотныя воды па штучных канавах.

Ці даходзяць да возера балоты; агульная іх плошча і характар балот.

Характар берагоў (узгорыстыя, роўныя камяністыя, балоцістыя і г. д.).

Што знаходзіцца на берагох возера (пахата, луг, лес, хмызьняк і г. д.).

Ці ня прыкметны старыя берагі возера.

Ці няма наносаў на берагох возера.

Паказаць месца, дзе бераг нарастае і дзе размываецца.

Грунт дна возера.

Ці возера цьвіце, у якую пару году.

Значэньне возера ў жыцьці мясцовай насельнасьці.

Як разьвіваецца рыбацтва; галоўнейшыя гатункі рыб, якія жывуць у возеры.

Ці ёсьць выспы сярод прылягаючых да возера балот.

Флёра аколічнага раёну.

Ці прылягаючае да возера балота роўнае або ў купінах.

Мера вільгаці прылягаючых да возера балот.

Характар расьлін прылягаючага раёну.

Якія дарогі вядуць да возера і якія сьцежкі.

Ці ёсьць помнікі старасьветчыны.

Калі можна—выявіць глыбіню тарфянога слою мясцовасьці, якая прыпрылягае да возера.

Ці няма прамысловых прадпрыемстваў, зьвязаных з нахаджэньнем там возера.

Ці няма народных легэнд аб возеры.

Фаўна акружаючай возера мясцовасьці.

**Краязнаўчая праца ў Полацкай акрузе.**

У Полацку пры Краязнаўчым Т-ве ўтвораны наступныя сэкцыі: этнографічна-экономічная, гісторыка-археолёгічная, прыродазнаўчая, польская і яўрэйская. Найлепей працуе прыродазнаўчая сэкцыя. У гэту сэкцыю ўваходзіць шмат студэнцтва Лестэхнікуму, а таксама і выкладчыкі апошняга. Прыродазнаўчая сэкцыя распрацавала некалькі інструкцый па ўсебаковым дасьледваньні прыроды Полаччыны.

У чэрвені м-цы ў Полацку ўтварыўся акруговы музэй. У сучасны момант у музэі ёсьць наступныя экспонаты: каля 60 портрэтаў полацкіх езуітаў, профэсароў, магістраў і дактароў тэолёгіі, філёзофіі, гісторыі г. д. ранейшай полацкай езуіцкай Акадэміі. Затым ёсьць даволі вялікая колекцыя па нумізматыцы, а таксама некаторыя камен. прылады. Утворана камісія па далейшай організацыі музэю на чале з тав. С. Мялешка

На летніх акруговых настаўніцкіх курсах нам. старшыні Акр. Краязн. Т-ва т. Сяргеем Мялешка прачытана некалькі лекцый па краязнаўству на такія тэмы: 1) Гісторыя краязн. працы на Беларусі, 2) Азначэньне краязнаўства паводле краязн. літ-ры, 3) Пытаньні краязнаўства ў школе, 4) Краязнаўства і програма Гус'а, 5) Чарговыя заданьні краязнаўчай працы як у горадзе, так і на вёсцы.

Заўважана вялікая зацікаўленасьць пытаньнямі краязн. сярод курсантаў—вясковага настаўніцтва.

У ліпні м-цы ў Полацку праводзіў дасьледчую працу над помнікамі XII ст. загадчык Смаленскага Губ. Музэю т. Хозераў супольна з нам. старшыні Акр. Краязн. Т-ва т. Мялешка; зрабілі агляд становішча помнікаў старажытнасьці г. Полацку, прычым устаноўлена, што Сафійскі сабор патрабуе прыняцьця тэрміновых мер аховы, да ліку якіх у першую чаргу трэба аднесьці рамонт і ахварбоўку даху і інш.

Дзеля павялічэньня краязнаўчай працы Полацкая Акруговая Нацыянальная Камісія пастанавіла:

1) Паглыбіць працу па організацыі акруговага музэю, дзеля чаго настойна прасіць ЦВК БССР аб хутчэйшай перадачы Сафійскага сабору пад музэй, прымаючы пад увагу, што веруючыя ад утрыманьня сабору адмовіліся.

2) Прасіць Акрвыканком унесьці ў дзяржаўны каштарыс выдаткі краязнаўчай працы. Даць магчымасьць краязнаўчаму т-ву мець аднаго штатнага працаўніка.

3) Прапанаваць краязн. т-ву падрыхтаваць для выданьня некалькі краязнаўчых брошур аб Полаччыне.

4) Устанавіць болей цесную сувязь з савецкімі і грамадзкімі організацыямі, якія павінны дапамагаць у справе аховы ад далейшага руйнаваньня помнікаў старасьветчыны.

5) Уцягнуць у т-ва ўсіх культурных працаўнікоў, а таксама пашырыць склад членаў за лік перадавых рабочых і сялян. Уцягнуць у краязнаўчую працу членаў КСМ, дзеля чаго ўзьняць кампанію популярызацыі задач і мэт т-ва праз адозвы, друк і г. д.

Стварыць пры т-ве польскую і латыскую сэкцыі. Узьняць працаздольнасьць яўрэйскай сэкцыі. Уцягнуць у вапошнюю ўсіх яўрэйскіх культурных працаўнікоў.

6) Зьвярнуць увагу на вывучэньне сучаснага экономічнага становішча насельніцтва Полаччыны.

7) Узмацніць сувязь з раёнными краязнаўчымі таварыствамі. Практыкаваць пэрыодычныя выезды членаў праўленьня ў раённыя т-вы. Абавязаць інспэктароў АкрАНА выяжджаючы ў раёны, дапамагаць краязн. т-вам у іх працы, даючы ім на мясцох належныя ўказаньні.

8) Прасіць Інбелкульт прыслаць у Полацкую акругу навуковую экспэдыцыю.

9) Лічыць патрэбным скліканьне пэрыодычна Пленумаў праўленьня, па мажлівасьці з прадстаўнікоў раёнаў.

10) Узмацніць сувязь з ЦБК. Больш распаўсюджваць краязнаўчы часопіс „Наш Край“ шляхам вярбоўкі падпішчыкаў і популярызацыі праз наш друк.

11) Організаваць мэтэоролёгічную станцыю пры Лестэхнікуме і пры Вольбальскай школе сялянскай моладзі, прасіць Акрвыканком вызначыць на гэта пэўныя сродкі.

12) Прасіць ЦБК больш забясьпечваць раёны краязнаўчай літаратурай.

13) Прапанаваць Асьвейскаму РВК прыняць усе меры для аховы ботанічнага саду.

14) Матар'ял старажытнасьці, які сабраны камісіяй яшчэ пры павятовым аддзеле Нарасьветы, прапанаваць АкрАНА прыняць меры дзеля іх перадачы акруговаму музэю.

15) Праўленьню Краязнаўчага Т-ва завесьці сталы падлік членаў і ажывіць працу краязнаўчых гурткоў.

16) Прапанаваць Раёнвыканкомам усебакова дапамагаць у разьвіцьці краязнаўчае працы на мясцох.

**Каштоўная археолёгічная знаходка.**

(*Вёска Стары Дзедзін, Калінінск. акр.*)

На сялянскіх агародах вёскі Стары Дзедзін знойдзены вельмі каштоўны грашовы скарб. Пакуль што сабралі 183 срэбныя монэты, з іх адна візантыйская, часоў імпэратара Івана Цімісхія, адна—нямецкая XI веку, а рэшта арабскія дыргэмы IX—XI вякоў.

Разам з монэтамі былі пацеркі з каляровых каменьняў, зграбнай работы. Частка дыргэмаў, 7-8, служылі прывескамі на ажарэльлі.

Скарб знаходзіўся ў гліняным гаршку, на кружале, без орнамэнту.

Знаходка зьяўляецца вялікай гістарычнай каштоўнасьцю пры вывучэньні гандлёвых і культурных узаемаадносін паміж беларускіх славян і народаў старасьвецкага Усходу і Заходу і Бізантыі VIII—XI стагодзьдзяў.

## Чачэрскае валасное бюро краязнаўства.

(*Гомельшчына*).

У Чачэрскай валасьці, Гомельскай губ. і павету бадай на кожным кроку трапляюцца помнікі старасьветчыны - курганы, а часам і гарадзішчы. Мясцовыя культурныя сілы яшчэ да рэволюцыі цікавіліся гэтымі помнікамі (ад іх прасіла тлумачэньня мясцовае насельніцтва) і час ад часу прабавалі раскопваць курганы, але праца вымагала шмат сродкаў і ніводная раскопка ня была давездена да канца.

Яшчэ ў 1913 г. каля вёскі Сярэднія Малынічы пры распрацоўках тарфяніка былі знойдзены клыкі маманта і бронзавая зброя. Знаходка ўзбудзіла зацікаўленасьць, і з таго часу пачаліся шуканьні па археолёгіі, геолёгіі і г. д. Але праца вялася ў адзіночку і пэўных вынікаў не давала.

Толькі ў апошнія часы Чачэрскай школай II ступені па ініцыятыве т. П. Новікава (настаўнік гісторыі) былі зроблены невялікія раскопкі кургана, якія далі некаторыя матар'ялы для гомельскага музэю. У красавіку 1926 г. было ўтворана вал. бюро краязнаўства, якое пачало працаваць. Затрымлівае працу недахоп кіраўніцтва вышэйшых краязнаўчых органаў, краязнаўчай літаратуры і інструкцый і програм па зьбіраньні розных матар'ялаў краязнаўчага характару.

**Ф. Кліменка.**

## Праца Беларускага Навукова-Дасьледчага гуртка ў Ленінградзе.

Разам з заканчэньнем вучэбнага году скончыў сваю працу і Беларускі Навукова-Дасьледчы гурток у Ленінградзе.

Организаваўшыся ў лютым месяцы г. г. гурток пасьпеў за поўгода прыцягнуць да працы шмат студэнтаў-беларусаў Ленінградзкага Дзяржаўнага Унівэрсытэту і іншых ВНУ і павесьці сваю працу па ўсебаковым вывучэньні Беларусі. Быў заслухан і абгаворан цэлы шэраг дакладаў, як саміх членаў гуртка, так і некаторых ленінградзкіх вучоных, якія запрошаны працаваць у гуртку. Програма і дзейнасьць гуртка мае краязнаўчы ўхіл. У склад гуртка ўваходзіць да 25 студэнтаў-этнографаў, географаў, лінгвістых, фізыкаў, экономістых і інш.

Пры гуртку організована беларуская бібліотэка. Атрымліваюцца менскія газэты і часопісы.

Перад разьездам студэнтаў на практыку і на вакацыі, члены гуртка атрымалі заданьні аб зьбіраньні матар'ялаў, аб наладжаньні сувязі з краязнаўчымі організацыямі на мясцох і г. д. У восень б. г. гурток мае выдаць зборнік сваіх прац, прысьвечаных Беларусі.

З наступнага навучальнага году гурток сваю працу значна пашырыць і будзе рэорганізаваны ў навуковае таварыства.

— —

## Этнографічнае дасьледваньне БССР.

Этнографічнае аддзяленьне геофаку Ленінградзкага Дзярж. Унівэрсытэту камандыравала сёлета на дасьледчую працу ў розныя куткі СССР да 70 этнографаў-студэнтаў. Такая густая сетка этнографічных экспэдыцый дапаможа вывучэньню ўсяго багатага ліку народнасьцяй насяляючых наш Саюз, аб якіх дагэтуль яшчэ вельмі мала вядома.

Для дасьледваньня Беларусі з боку этнографіі накіравана 6 студэнтаў-этнографаў старэйшых курсаў. У Тураўшчыну камандыраваны т. Грынблят, Магілеўшчыну—т. Дышчанка, Калінійшчыну—т. Хадановіч, Меншчыну—т. Дубатоўка і яшчэ два т. т. ў Бабруйшчыну.

Трэба спадзявацца, што праца маладых этнографаў прынясе шмат карысьці справе вывучэньня вытворчых сіл, культуры і быту беларускага народу.

**М. Васілёк.**

# Бібліографія.

*Летапіс беларускага друку. Бібліографічны бюлетэнь беларускай кніжнай палаты пры Беларускай Дзяржаўнай і Унівэрсытэцкай Бібліотэцы № 1-6. Студзень — сьнежань. 1925. Менск, 1926. (22×14) 56 стар., тыраж 500 паас.*

Шпаркае развіцьцё беларускае літаратуры ў апошнія гады будаваньня беларускай рэспублікі вынесла на чаргу пытаньне аб выданьні бібліографічнага часопісу, які сыстэматычна рэгістраваў-бы ўсе выданьні нашага друку.

Такі часопіс патрэбен, як спэцыялістым, працуючым у тых ці іншых галінах навукі, так і наагул шырокім колам нашых чытачоў, бо часопіс такога характару дапамагае орыентавацца ў сучаснай літаратуры, паказваючы дзе, што, якога зьместу, у якой колькасьці выдрукавана.

Толькі што вышаўшая першая кніжка „Летапісу беларускага друку“ дае прадстаўленьне аб беларускіх літаратурных, навуковых, мастацкіх, грамадзкіх, публіцыстычных плынях за ўвесь 1925 год. На жаль, некаторыя выданьні, вышаўшыя ў 1925 г. чамусь-ці ня зьмешчаны; гэта зьяўляецца адмоўнасьцю „Летапісу“.

Бібліографічны матар'ял складаецца з літаратуры: 1) на беларускай мове—175 нумароў, 2) на расійскай мове—163 нумары, 3) на яўрэйскай мове—18 нумароў і 4) на польскай мове—12 нумароў. Апроч адзначанага, знаходзім 38 часопісаў (з іх 25 расійскіх, 11 беларускіх і 2 яўрэйскіх) і 27 газэт (з іх 12 расійскіх, 10 беларускіх, большасьць з якіх выдаецца на расійскай і беларускай мове, 3 яўрэйскіх і 2 польскіх). Па характары выдадзенага, большасьць з іх належыць да популярных кніг і брошур па навуках грамадзянскіх, прыкладных і прыгожаму пісьменству.

Наагул, бібліографія выдадзена добра з заховай усіх бібліографічных правіл і законаў, толькі вось ня зусім добра стаіць справа з паказчыкамі, якія адыгрываюць вялікую справачную ролю, бо пры іх прысутнасьці лёгка знайсьці патрэбнае. Так, напр., у ваддзел: „Быт. Фольклёр“, аддзел, які носіць этнографічны характар, унесена частка літаратуры па профруху і „Международный Женский Коммунистический день“; у ваддзеле „Мовазнаўства“ знаходзім апавяданьні Тараса Гушчы і школьныя падручнікі; у ваддзел „Музыка, Ноты“ ўнесены вершы Александровіча, а музыка запраўдная (напр., № 19 Аладаў) ня ўнесена. Відаць некаторая пасьпешнасьць, якая была пры выданьні „Летапісу“; так напр., творы композытара Аладава чамусь параскіданы па ўсёй кнізе (№ 1, 39, 132), між тым, як яны павінны быліісьці ў першых нумарох. Ды і ў паказчыку Аладаў чамусь-ці значыцца ня аўтарам сваіх уласных твораў, а толькі „сааўтарам“.

Прыведзеныя недахопы маюць мэтай зьвярнуць увагу рэдактара на гэты бок у наступных нумарох „летапісу“, а зусім ня мэту зьмяншэньня значнасьці і каштоўнасьці новага беларускага часопісу.

Прывітаючы новае выданьне, дазваляем сабе пажадаць яму: 1) уключыць у „Летапіс“ беларускі замежны друк, каб такім чынам была абхоп-

лена ўся беларуская літаратура; 2) выдаць у вадным з наступных нумароў сьпіс бел. выданьняў, вышаўшых у сьвет да 1925 г.; 3) пад назвамі часопісаў даваць іх зьмест, або зьмест часопісаў і важнейшых газэтных артыкулаў выдаваць у канцы году асобным нумарам.

**Ал. Шлюбскі.**

## Фаўна Беларусі.


1. **Арнольд Н.**
Каталог насекомых Могилевск. губ. Петерб. 1901.
2. **Бихнер Е. А.**
Млекопитающие. Библиотека естествознания. Изд. Брокгауз—Ефрон. 1906.
Прыводзяцца назіраньні Крамянца над мядзьведзямі Ракатнінскага балота Меншчыны, даецца сводка аб баброх і інш.
3. **Вобелг.**
Прилет птиц в Борисовском у. Минской губ. Природа и Охота. 1878.
4. **Дембовецкий.**
Опыт огисания Могилевской губ. кн. I, 1882.
У кнізе ёсьць кароткі нарыс жывёл, зложаны пры дапамозе Арнольда.
5. **Зеленский.**
Минская губерния. Матер. для геогр. и ст. Рос.
Ёсьць сьпіс жывёл.
6. **Иванов А. В.**
Список дневных и сумеречных бабочек.
Записки Горецкого с.-х. инст. т. III. 1925.
7. **Лоначевский.**
Бобры в бассейне Днепра.
Природа и охота 1887.
8. **Никольский А.**
Животный мир Полесья.
Прилож. к очерку работ Западной Эксп. по осушке болот 1873-1898.
9. **Новицкая Н. К.**
Зерновые амбарные вредители в Горках.
Працы Навуковага Таварыства па вывучэньні Беларусі 1926.
10. **Семенов П. П.**
Россия. т. IX. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. 1905. Глава III: Растительный и животный мир.
11. **Сементовский А.**
Охота и звериные промыслы в Витебской губ.
Труды имп. Вольно-Эконом о-ва. 1863.
12. **Сементовский А.**
Убытки населения Витебской губ. от волков и к вопросу о способах истребления их.
Пам. кн. Вит. губ. на 1878.
13. **С-ъ.**
Дикая кошка Felis catus ferus.
Природа и Охота. 1878.
14. Проф. **Соловьев.**
Часы смерти. Человек и Природа (Ленинград) 1924. № 2.
15. Проф. **Соловьев.**
Фенологические наблюдения.
Записки Горец. с.-х. инст. т. 3. 1925.
16. Проф. **Салаўёў**
Фэнолёгічныя назіраньні ў Горках.
Працы Навуковага таварыства па вывучэньні Беларусі. 1926.
17. Проф. **Салаўёў.**
Некаторыя вывады з фэнолёгічных назіраньняў.
„Наш Край“ 1925 г. № 1.
18. Проф. **Салаўёў.**
Фаўна Аршаншчыны.
Сб. „Аршаншчына“ ч. I. 1926.
19. Проф. **Салаўёў.**
Белыя каласы ў жыце і шкоднікі поля.
„Плуг“ 1925 г. № 7.
20. Проф. **Салаўёў.**
Кабылкі або цікадкі, як шкоднік збожжавых расьлін.
„Плуг“. 1926. № 4.
21. Проф. **Салаўёў.**
Аб вывучэньні малярыі. „Наш Край“ 1926. № 2-3.
22. Prof. **Solowiow.**
Biologische Beobachtun gen über die Holzlaus. Zeitschr. f. wiss. Insekten-Biologie Bd. XIX. 1924.—Zoologischer Anzeiger Bd. XLX, 1924.—Entomolog. Zeitsschrift Frankfurt № 10—11, 1924.—Zool. Iahrbüch. Bd. 50, 1925.

23. Prof. **Solowiow**.
Beobachtungen über neue Arten der Gattung Chermes. Zoologischer Anzeiger Bd. LX 1924.
24. Prof. **Solowiow**.
Biologisches über Cataclysta lemnate. Zeitshr. f. wiss. Inskt.-Biol. Bd. XIX. 1924.
25. Prof. **Solowiow**.
Zur Biologie von Anopheles maculipennis Mecig.—Societos Entomologica 41 Iahrg. 1926.
26. **Федюшин А.**
О некоторых птицах Минской губ. Орнитол. Вестн. 1912.
27. **Фядзюшын А**.
Дзяржаўны паляўнічы запаведнік БССР.
„Наш Край“ 1926 № 1.
28. **Фірсаў П.**
Галоўныя шкоднікі саду ў 1925 годзе.
„Аршаншчына“ ч. I. 1926.
29. **Фирсов П.**
Главнейшие вредители из насекомых плодового и ягодного сада в районе Горок. Защита растений от вредителей (Ленингр.) т. III, 1926 г. № 1.
30. **Холодовский.**
Жилища бобров в Минской губ.
„Природа“. 1875. № 3.
31. **Холодовский.**
Из воспоминаний полесского охотника.
Журнал „Охота и Коннозаводство“. 1873.
32. **Шнитников В.**
Птицы Минской губ.
Мат. позн. фауны и флоры России. 1913.
33. **Шнабль**.
Список двукрылых Польши и Минской губ. Труды V с‘езда Русских ест. и врачей в Варшаве. 1876.
34. **Щелкановцев Я. П**.
Список прямокрылых Минской губ.
35. проф. **Яцентковский Е. В.**
Суслики в Белоруссии (предварительное сообщение) Записки белор. Гос. Инст. Сел. Хозяйства. Вып. 2, 1924. стр. 255-258.

**Падаў проф .П. Салаўёў.**




Выдавец—**Інстытут Беларускае Культуры**
Рэдактар—**С. Плаўнік (З. Бядуля)**